—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
14
ЛЮТАГА
1992 г.
№ 7 (3625)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



# Лічбы на сэрцы, Чарнобыль, Курапаты...

**Да 70-годдзя з дня нараджэння Міхаіла САВІЦКАГА**

Міхаіл Андрэевіч Савіцкі — імя гэтага мастака добра вядома не толькі ў Беларусі. Больш за трыццаць гадоў кожнае новае яго палатно выклікае вострую палеміку спецыялістаў, не пакідае абыякавымі тых, хто прыходзіць на вернісажы.

Адзін з найбольш праніклівых яго твораў — «Лічбы на сэрцы» — атрымаў усенароднае прызнанне. Абараняючы краіну пад Севастопалем і Херсонам, перажыўшы пякельныя пакуты фашысцкіх канцлагераў смерці Бухенвальда і Дахаў, ішоў Міхаіл Савіцкі да філасофіі вайны і міру, якімі прасякнуты трынаццаць палотнаў гэтай серыі.

Немагчымым стала для мастака не прапусціць праз сваё сэрца і чарнобыльскую трагедыю. Залатым медалём Акадэміі мастацтваў краіны адзначана серыя работ Савіцкага «Чорны боль».

Да нашай памяці, да сумлення жывых звернуты і новы твор мастака — «Курапаты». «Народ, які ўсвядоміў сваё мінулае, не проста захоўвае спадчыну, ён усведамляе сябе творцам гісторыі, гаспадаром і наследнікам, адказным перад нашчадкамі», — лічыць майстар.

Пачуццём такой адказнасці і далучанасці, высокай грамадзянскасцю прасякнута ўся творчасць Савіцкага, сваімі работамі ён адкрывае новыя і новыя гаротныя і гераічныя старонкі гісторыі беларускага народа.



Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА (БЕЛТА).



«Курапаты».

# Кола Дзён

**6 ЛЮТАГА**

Не выключана, што ў недалёкай будучыні атрымаць падрабязную інфармацыю пра тое, што дзеецца на Беларусі, будзе цяжэй, чым даведацца аб падзеях у Маскве, ці, скажам, у Венесуэле. Прычына — банальная. З-за недахопу паперы быў прыпынены выпуск газет «Советская Белоруссия», «Белорусская нива», «Мінская праўда». Яшчэ раней узніклі цяжкасці са «Знаменем юности». Ёсць праблемы ў «Народнай газеты». Ёсць яны і ў «ЛіМа»... Неўзабаве, праўда, падаспеў эшалон з паперай з Кандапогі. Але ці надоўга гэта вырашыць пытанне?

**7 ЛЮТАГА**

З-за парушэння старых гаспадарчых сувязей і амаль поўнай адсутнасці новых пакутуе, як лёгка зразумець, не толькі выдавецкая справа. Падае, а то і спыняецца вытворчасць на многіх буйных прадпрыемствах Беларусі.

Пра гэта, у прыватнасці, ішла размова на сустрэчы лідэраў прафсаюзаў (Федэрацыі прафсаюзаў, Канфедэрацыі працы, Свабоднага прафсаюза і г. д.) са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі. Знайсці агульную мову прафсаюзным лідэрам з С. Шушкевічам пакуль не ўдалося. Каса, як кажуць, найшла на камень.

Свой, калі можна так сказаць, «прафсаюз» будзе цяпер у былых палітвязняў, якія ўпершыню сабраліся ў Мінску на з'ездзе. Рашэннем з'езда створана Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій. Магчыма, новая арганізацыя дапаможа гэтым людзям перажыць і эпоху вызвалення цэнаў.

**8 ЛЮТАГА**

Цэнавая і фінансавая палітыка, праблемы запазычанасці краінам Захаду і праблемы міждзяржаўных эканамічных сувязей абмяркоўваліся на нарадзе Савета кіраўнікоў урадаў СНД. Яе ўдзельнікам удалося дамовіцца аб узаемадзеянні ў галіне экалогіі, электраэнергетыкі, гідраметэаралогіі і аб умовах транзітных перавозак. Але падпісаць галоўныя дакументы — аб урэгуляванні гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, узаемных паставак і аб гранічных узроўнях рэнтабельнасці не ўдалося. Гэта задача на будучае. На нараду, дарэчы, не прыехаў прэм'ер-міністр Украіны В. Фокін, які прыслаў у Маскву намесніка міністра эканомікі. Гэта было расцэнена большасцю ўдзельнікаў як непавага да партнёраў.

**9 ЛЮТАГА**

У выхадныя дні ў Маскве адзін за адным праходзілі мітынгі і контр-мітынгі. У нядзелю камуністам удалося сабраць каля 50 тысяч прыхільнікаў на Манежнай плошчы. А каля Белага дома сабралася каля 130 тысяч дэманстрантаў, якія выступілі супраць «чырвона-карычневай» рэакцыі. І там і там крычалі «Далоў!» Толькі адны патрабавалі адстаўкі Ельцына і яго кабінета, а другія — адстаўкі кіраўніка ельцынскай адміністрацыі Пятрова. За кім жа ісці народу? Лідэр Дэмсаюза В. Навадворская заклікала: «Ідзіце ні туды і ні сюды!» Ясней не скажаш.

Тым часам у маскоўскім кінатэатры «Расія» завяршыўся Кангрэс грамадзянскіх і патрыятычных сіл. На ім з праграмнай прамовай выступіў віцэ-прэзідэнт Расіі А. Руцкой. Вялікадзяржаўны правы блок стаў палітычнай рэальнасцю.

**10 ЛЮТАГА**

Ці ёсць сёння надзея хоць на нейкае паляпшэнне эканамічнай сітуацыі, надзея на заўтрашні дзень для мільёнаў людзей?

У панядзелак пачалася аперацыя пад кодавай назвай «Даць надзею». Вайскова-транспартныя самалёты ЗША пачалі дастаўку гуманітарных грузаў з Германіі ў краіны Садружнасці. Гэта — прадукты і медыкаменты, што засталіся ў сховішчах з часу вайны ЗША і саюзнікаў у Кувейце. Адзін з такіх самалётаў даставіў медыкаменты і ў Мінск.

**11 ЛЮТАГА**

Абяцанні салігорскіх шахцёраў (а яны апынуліся ў сувязі з цяжкасцямі збыту калійных угнаенняў па новых цэнах у вельмі складанай сітуацыі) пачаць бестэрміновую забастоўку, калі не будуць прыняты меры ўрадам, аказаліся сур'ёзнымі. У некаторых шахтах забастоўка пачалася. Салідарнасць з беларускімі шахцёрамі выказвалі ўжо шахцёры Украіны.

**12 ЛЮТАГА**

А ў Мінску тым часам завяршылася сустрэча міністраў абароны СНД, якая праходзіла ў рамках падрыхтоўкі сустрэчы кіраўнікоў незалежных дзяржаў. Інфармацыя аб ходзе перамоваў міністраў была вельмі скупой. Вядома толькі, што праходзіла яна надзвычай цяжка і напружана. Што, зрэшты, не дзіўна.

**13 ЛЮТАГА**

Да апошняга дня перад сустрэчай упарта працавалі эксперты.Ніхто не хоча паўтарэння сітуацыі, калі кіраўнікі дзяржаў вымушаны былі мець справу з вельмі «сырымі» дакументамі. Кіраўнікі незалежных дзяржаў збяруцца гэтым разам у былым будынку ЦК КПБ. Верагодна, дзякуючы гэтай акалічнасці на мінулым тыдні некуды зніклі помнікі Марксу і Леніну ля ўвахода ў партыйную цытадэль...

І апошняя навіна. Цэнтральная выбарчая камісія зарэгістравала ініцыятыўную групу БНФ па правядзенні рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета Беларусі і датэрміновых выбарах і зацвердзіла фармулёўку апытання.

# МУЖЧЫНСКАЯ РАЗМОВА

## адбылася паміж прафсаюзнымі лідэрамі і Старшынёй ВС Беларусі

На мінулым тыдні практычна спыніў работу «БелАЗ». Няма шын, іншых камплектуючых. Няма бензіну (бензавозы, якія павінны былі даставіць паліва на завод, былі затрыманы на расійскай мытні ў Смаленску). Запазычанасць прадпрыемства склала ўжо 220 мільёнаў рублёў. Рабочым няма чым плаціць зарплату...

Тысячы людзей на «Гомсельмашы» адпраўлены ў адпачынак на месяц, бо дагаворы на пастаўку камплектуючых вырабаў заключаны ўсяго на 18 працэнтаў...

Спынена вытворчасць на аб'яднанні «Гарызонт» — няма кінескопаў...

МАЗ афіцыйна перайшоў на тры выхадныя ў тыдзень...

Гэта толькі некаторыя факты з тых, што прыводзіліся на сустрэчы лідэраў прафсаюзаў са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславам Шушкевічам. Факты вядомыя. Не стала адкрыццём і заява старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Уладзіміра Ганчарыка аб тым, што «незадаволенасць Вярхоўным Саветам у грамадстве вялікая». Наогул, сустрэча хутчэй нагадвала мітынг. Гучалі пагрозы арганізаваць забастоўкі і масавыя маніфестацыі. (І толькі старшыня Канфедэрацыі працы Беларусі М. Собаль заявіў, што гэта — адзіны прафсаюз, які не заклікае людзей на плошчу. На яго думку, галоўная праблема ў тым, што мы не навучыліся думаць катэгорыямі рынку).

Сярод галоўных патрабаванняў федэрацыі прафсаюзаў — аднаўленне гаспадарчых сувязей, зніжэнне падаткаў, увядзенне каэфіцыенту зарплаты на ўзроўні 0,75—0,8 ад росту цэн. Прытым адрасаваліся патрабаванні не толькі ўраду і парламенту Беларусі, але і... усім кіраўнікам незалежных дзяржаў.

Характэрна, што на асамблеі прадпрымальнікаў Беларусі, якая адбылася тыднем раней, таксама найбольшай крытыцы падверглася менавіта падаткавая палітыка. Прэм'ер-міністр В. Кебіч тады прызнаў, што была дапушчана памылка, і нават абяцаў яе выправіць, знізіўшы стаўкі некаторых падаткаў. Іншай была рэакцыя С. Шушкевіча. Ён нагадаў, папершае, аб тым, што прапановы па падатках урад рыхтаваў на працягу паўгода і перакладаць цяпер усю адказнасць на Вярхоўны Савет было б несправядліва. Галоўнае ж — Старшыня Вярхоўнага Савета не толькі не пажадаў каяцца ў памылках, але перайшоў, так бы мовіць, у контрнаступленне на апанентаў. Раней, нагадаў ён, прафсаюзы былі «школай камунізму» і патрабавалі ад людзей толькі аднаго — добра працаваць на карысць дзяржаве. Цяпер жа ніхто з прафсаюзных лідэраў не ставіць пытання аб павышэнні прадукцыйнасці працы, падкрэсліў С. Шушкевіч, але ўсе патрабуюць ад дзяржавы: «Дай!» Мы ўсе, сказаў ён, апынуліся ў страшэннай яме, і выкарасквацца з яе трэба ўсім разам. Сёння Вярхоўны Савет і ўрад вымушаны праводзіць **непапулярную** палітыку. Калі не абмежаваць грашовую масу ў рэспубліцы, ніякай стабілізацыі эканомікі не будзе. Безумоўна, неабходны закон аб прыватызацыі, неабходна канцэптуальна новае заканадаўства пры пераходзе да рынку. І Вярхоўны Савет, прызнаў С. Шушкевіч, тут яўна спазняецца. Але рэферэндум аб роспуску парламента, чаго патрабуюць сёння і левыя і правыя, стаў бы, на думку Старшыні ВС, «піравай перамогай» апазіцыі. Гэта, паводле яго слоў, прывядзе толькі да яшчэ большага бязладдзя і паставіць грамадства на грань грамадзянскай вайны.

Прамова Старшыні Вярхоўнага Савета была надзвычай эмацыянальнай і нават рэзкай — асабліва ў адносінах да прадстаўнікоў Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. І яны не хавалі сваёй крыўды. Але крыўдаваць ім, думаецца, няма чаго. Калі ўжо прафсаюзы прэтэндуюць на палітычную ролю ў грамадстве (чаго няма ні ў адной развітой краіне свету— там яны займаюцца абаронай сацыяльных правоў працоўных), дык яны павінны палітыцы вучыцца. У рабочым і прафсаюзным руху няма адзінства. І С. Шушкевіч, дарэчы, умела падкрэсліў гэта, спаслаўшыся на выступленне М. Собаля ад канфедэрацыі прафсаюзаў. Таму прэтэнзіі федэрацыі выступаць ад імя ўсіх працоўных і сялян яўна завышаны. Гэта зусім не азначае, што прафсаюзы павінны, як некалі, згаджацца з усім, што прапануюць парламент і ўрад, кіраўнікі рэспублікі. Але па меншай меры наіўна чакаць, што прафсаюз, ці федэрацыя прафсаюзаў зможа дыктаваць сваю палітыку. Нават з дапамогай ультыматумаў і забастовак.

**Віталь ТАРАС.**

# МУЗЕЙ АДЧЫНІЎСЯ ЗНОЎ

Нядаўна ў старажытным беларускім мястэчку Гальшаны, што на Ашмяншчыне, гасцінна расчыніў дзверы гісторыка-краязнаўчы музей.

Існуе ён ужо даўно і ніколі, дарэчы, не адчуваў недахопу ў наведвальніках. Але з-за недахопу месца вялікая частка найцікавейшых экспанатаў, на жаль, знаходзілася ў запасніку. Летась музей на паўгода закрыўся на рамонт. І вось цяпер, у новым інтэр'еры, зусім па-новаму глядзіцца экспазіцыя, якая, да таго ж, значна пашырылася.

І ў гэтым галоўная заслуга дырэктара — выкладчыка гісторыі і краязнаўца Эдуарда Сямёнавіча Корзуна. Больш як 30 год ён бескарысліва працаваў над збіраннем і захаваннем экспанатаў. Гады пошукаў рэдкіх дакументаў, вандровак, перапіскі з вядомымі навукоўцамі (пяру даследчыка належыць змястоўная кніга аб гісторыі Гальшанаў) прынеслі Эдуарду Сямёнавічу заслужаны аўтарытэт.



Э. Корзун.

Нягледзячы на нялёгкія часы, у музеі па-ранейшаму часта бываюць экскурсіі. Сюды прыязджаюць не толькі з Беларусі, але і, напрыклад, з краін Балтыі. У музеі ёсць на што паглядзець...

А дапамог музею ў афармленні новай экспазіцыі мастак Мінскага вытворчага камбіната Святаслаў Палівода.

**С. ЗАМКАВЫ.**



Фрагмент новай экспазіцыі.

# ПРА ЛЁС НАШАЙ СПАДЧЫНЫ

**Пазнаёміцца з творамі беларускага геральдычнага мастацтва XVI—XIX стагоддзяў дасць магчымасць кніга, якую плануе выпусціць сёлета ў свет выдавецтва «Полымя». Выхад яе быў бы немагчымы без дапамогі Беларускага фонду культуры. На апошнім пасяджэнні яго прэзідыума было прынята рашэнне выдаткаваць на падрыхтоўку зборніка 25 тысяч рублёў. І гэта далёка не першы прыклад уважлівых адносін БФК да гістарычна-культурнай спадчыны. Падтрымка аказвалася аўтарам кніг «Гарады і замкі беларускага Панямоння XV—XVII стагоддзяў», «Дакументы аб Беларусі, якія зберагаюцца ў цэнтральных дзяржаўных архівах Масквы і Ленінграда», ініцыятарам і выканаўцам праграм па пошуку і падрыхтоўцы каталога бібліятэкі Сімяона Полацкага і «Кніжная культура Падляшша»...**

**Заслуга ў гэтым у значнай ступені належыць грамадскай камісіі БФК «Вяртанне». Зараз падобная камісія ствараецца на дзяржаўным узроўні. Таму невыпадкова на тым жа пасяджэнні прэзідыума вырашана вынесці на чарговы пленум БФК адно, але злабадзённае пытанне: «Праблемы вяртання беларускіх нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі рэспублікі, і задачы Беларускага фонду культуры». Дакладчыкам будзе старшыня камісіі «Вяртанне», член праўлення БФК Адам Мальдзіс.**

**Члены прэзідыума прынялі пастанову аб вывядзенні са структуры БФК грамадска-культурнага аб'яднання «Палесьсе».**

**НАШ КАР.**

# НЕЛЬГА ЭКАНОМІЦЬ НА НАВУЦЫ

## ЗАЯВА ВЫКАНКАМА ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ

Разважаючы аб перспектывах незалежнай Беларусі, многія нашы суайчыннікі і грамадзяне замежных краін адзначаюць, што наша Рэспубліка мае ўсе суб'ектыўныя перадумовы для развіцця гаспадаркі: працавітае сялянства, высокакваліфікаваны рабочы клас, добра падрыхтаваных спецыялістаў, навуковыя кадры. Беларусь можа ганарыцца сваёю навукаю. Дасягненнямі нашых матэматыкаў, фізікаў, хімікаў, біёлагаў магла б ганарыцца не адна краіна. Нягледзячы на ідэалагічны прыгнёт, нават у гады застою істотна папоўнілі скарбніцу ведаў нашы гісторыкі, археолагі, літаратура- і мовазнаўцы, этнографы, фалькларысты і мастацтвазнаўцы. Цяпер у гэтых навуках адбываецца сапраўдная рэвалюцыя. Да таго ж ва ўсім свеце ўзрастае цікавасць да Беларусі, да нашага народа. І вучоныя могуць паказаць свету адметнасць нашай культуры, багатую нашу спадчыну.

Вельмі важна, каб увесь інтэлектуальны патэнцыял, назапашаны нашым грамадствам, служыў росквіту суверэннай Беларусі. Асабліва важна захаваць навуковыя кадры ў перыяд эканамічнай нестабільнасці, крызісу. Падзеі ж апошняга часу паказваюць, што ўрад Рэспублікі Беларусь не зусім разумее значэнне навукі для цяперашняга і наступных пакаленняў.

Замест таго, каб спыніць падтрымку нерэнтабельных калгасаў і саўгасаў, замест таго, каб пачаць рэальную прыватызацыю зямлі, стварэнне прыватных і калектыўных прадпрыемстваў і такім чынам прыцягнуць у бюджэт дадатковыя сродкі, урад наносіць удар па навуцы. Скараціўшы асігнаванні на навуковыя даследаванні, кабінет рэжа курыцу, якая нясе залатыя яйкі. Ідзе скарачэнне кадраў у акадэмічных і галіновых інстытутах, у навуковых падраздзяленнях, якія працуюць пры ВНУ. Навукоўцы застаюцца без працы.

Мала таго, што пэўная частка навуковых работнікаў можа страціць кваліфікацыю, адстаць ад развіцця навуковай думкі, Рэспубліцы Беларусь пагражае эміграцыя інтэлекту, бо ў суседніх дзяржавах вучоным і выкладчыкам ВНУ істотна павышана зарплата. На аднаўленне страчанага, на тое, каб пераадолець справакаванае ўрадам адставанне, потым спатрэбіцца працяглы час, спатрэбяцца большыя, чым цяпер, асігнаванні. Яшчэ раз пацвердзіцца ісціна: скупы плаціць двойчы.

Беларускія сацыял-дэмакраты выказваюць сваю салідарнасць з занепакоенымі вучонымі і навуковымі калектывамі.. Яны пратэстуюць супраць палітыкі ўрада В. Кебіча, які наносіць урон інтэлектуальнаму багаццю краіны.

Выканаўчы камітэт цэнтральнай Рады БСДГ рэкамендуе дэпутатам — сябрам Грамады здзейсніць адпаведныя захады ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, каб, пакуль не позна, прадухіліць магчымы крызіс беларускай навукі. З мэтаю паляпшэння фінансавага становішча навукі неабходна дабівацца, каб усе доследныя і эксперыментальныя вытворчасці Акадэміі навук, вышэйшых навучальных устаноў і галіновых навукова-даследчых інстытутаў былі вызваленыя ад падатку на дабаўленую вартасць. Разам са спецыялістамі трэба распрацаваць і ўнесці ў Вярхоўны Савет законапраект аб ахове інтэлектуальнай уласнасці, а таксама праект закона аб патэнтах, каб спыніць продаж навуковых распрацовак беларускіх вучоных суседнімі дзяржавамі.

Дзеля таго, каб спыніць і прадухіліць далейшую эміграцыю інтэлекту з Рэспублікі Беларусь, Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада патрабуе ад урада станоўча вырашыць пытанне аб павышэнні зарплаты навукоўцам і выкладчыкам і павелічэнні асігнаванняў на навуку.

БСДГ заклікае вучоных дапамагчы дэмакратычным партыям, аб'яднаным у блоку «Новая Беларусь», распрацаваць канцэпцыю развіцця эканомікі, навукі, асветы і культуры ў нашай краіне.

# ТВОРЦЫ ХОЧУЦЬ БЫЦЬ ПА-ЗА ПАЛІТЫКАЙ,

## але выказваюць недавер парламенту і ствараюць страйкам

Аб'яднаны пленум творчых саюзаў Беларусі, які адбыўся 10 лютага ў мінскім Палацы мастацтваў, сваімі першымі хвілінамі абудзіў кранальныя згадкі пра даперабудовачныя часы. Мяркуючы па тым, як хутка ўтварыўся на сцэне шчыльны, у два рады, прэзідыум (для міністра культуры давялося нават выносіць з бакоўкі дадатковае крэсла), наша творчая інтэлігенцыя яшчэ не зжыла пэўных рэфлексаў.

Раней падобныя форумы прымяркоўваліся да рэвалюцыйных дат. Апошні раз аб'яднаны пленум склікаўся з нагоды саракавых угодкаў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Ружовым ранкам дэмакратызацыі і галоснасці ідэя згуртаваць інтэлігенцыю залунала ў паветры пасля таго, як аб'яднаны пленум творчых саюзаў Эстоніі ў 1987 годзе, па сутнасці, запачаткаваў рух гэтай рэспублікі да незалежнасці. Аднак ажыццявіць тую ідэю на Беларусі не ўдалося — «у ЦК не параілі». Нашы творчыя саюзы ў чарговы раз засведчылі сваю залежнасць ад камуністычнай наменклатуры, а беларуская інтэлігенцыя — уласцівы ёй канфармізм.

Летась з прывабным і, галоўнае, грунтоўна распрацаваным праектам «Саюза саюзаў» выступіў лідэр кінематаграфічнай суполкі Вячаслаў Нікіфараў. Тады яшчэ ягадкі нашага квазірынку не саспелі, але і па кветачках было ўжо відаць, што нічога добрага культуру не чакае і што становішча людзей, якія жывуць з інтэлектуальнай ды мастацкай працы, будзе катастрафічна пагаршацца. Але замест таго, каб аб'яднаць намаганні, кожны творчы саюз выправіўся на папаску паасобку. Камерсантамі мы, будзем шчырыя, аказаліся нікімі: вяршыняй прадпрымальніцтва з'яўляецца, напрыклад, здача ў арэнду аднаго з пакояў Дома літаратараў мэблеваму кааператыву з гучнай назвай «Белстар» альбо пакутлівыя развагі над тым, як бы не прадзешавіць, зноў жа, здаючы ў арэнду такую лялечку, як Дом работнікаў мастацтваў. Гаворка ідзе пра нейкія смешныя па цяперашнім часе дзесяткі тысяч, непараўнальныя з той «капустай», якую шынкуюць розныя дзялкі пад дахам творчых саюзаў.

Але і тая фінансавая ручаіна, якая дазваляла творчым саюзам сяк-так зводзіць канцы з канцамі, была наглуха перакрыта плацінай фіскальнага падаткавага заканадаўства, прынятага на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета. Адмяніўшы льготы на падаткі, спадары сенатары і ўрад паставілі творчыя саюзы і грамадскія фонды перад пагрозай самаліквідацыі. Крок тым больш неразумны, што тыя 5—7 мільёнаў рублёў, якія мяркуецца атрымаць у выніку гэтай аперацыі, не залатаюць ніводнай дзіркі ў дзяржаўнай кішэні.

Зрэшты, адбылося тое, што і павінна было адбыцца. Ратуючыся, сістэма найперш адкідае непатрэбнае для сябе. Культуры ж заўсёды адводзілася роля дэкаратыўнага элементу, аздобы непрывабных муроў таталітарызму.

Вядома, у сцвярджэннях тыпу «творчыя саюзы — аснова прафесійнага і духоўнага жыцця грамадства», альбо «калі адбудзецца знішчэнне творчых саюзаў, то нашу культуру захлісне хваля бездухоўнасці, калецтва і пошласці» ёсць значная доля перабольшання. Усяго гэтага хапала і тады, калі ніхто не рабіў замаху на гаспадарчую і фінансавую самастойнасць творчых саюзаў. Перакананы, што самім творцам давядзецца ў бліжэйшы час вырашыць, якімі павінны быць іх суполкі, каб мець магчымасць рэальна абараніць талент. Існуючыя структуры, скампраметаваныя дагаджаннем быламу рэжыму, шмат у чым зжылі сябе. Бясспрэчна, аднак, што без магчымасці самім зарабляць на жыццё творчыя саюзы пазбаўляюцца і перспектывы абнаўлення — як арганізацыйнага, так і ідэалагічнага.

Аб'яднаны пленум, скліканы Камітэтам абароны культуры пасля безвыніковага блукання па інстанцыях і пісання палымяных адозваў, у сваёй рэзалюцыі выказаў недавер Вярхоўнаму Савету Беларусі, «які скампраметаваў сябе некампетэнтнасцю, непрафесіяналізмам, адрывам ад рэальнага жыцця і патрэб народа». Было вырашана звярнуцца ў ЮНЕСКА, стварыць страйкам і рыхтаваць устаноўчую канферэнцыю Асацыяцыі творчых саюзаў і грамадскіх фондаў.

З усяго сказанага на пленуме, а ў выступленнях кіраўнікоў саюзаў гучаў звыклы пералік цэхавых і агульнакультурных «болек», хацелася б вылучыць адзін момант. Яго настойліва акцэнтаваў Мікалай Яроменка, які старшыняваў на форуме: «не ўблытвайце нас у палітыку», «не цягніце нас на барыкады» і г. д. Як спалучыць гэта з выніковай рэзалюцыяй, якая мае выключна палітычны характар, і з намерам уплываць на змену вярхоўнай улады?

**А. ГАНЧАРОЎ.**



У рамках аперацыі «Дадзім надзею» ў Мінск прыбыў самалёт ваенна-паветраных сіл ЗША. Ён даставіў медыцынскае абсталяванне і лекі, пералік якіх уключае больш за 80 назваў. Усе яны прызначаны для бальніц тых раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей, якія найбольш пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА. (БЕЛТА)

# ЗВАРОТ

## да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларусі

За гады таталітарызму беларуская нацыянальная літаратура найбольш пацярпела ад вялікадзяржаўнай антынацыянальнай палітыкі ўсіх урадаў былога СССР. Наша роднае слова метадычна і паслядоўна выцяснялася з ужытку. На ўсіх узроўнях, ад дзіцячага садка да вярхоўнай улады рэспублікі, праводзілася суцэльная русіфікацыя, якая цынічна падавалася як «волеизъявление народа». Беларускай мове надавалася месца дэкаратыўна-нацыянальнага аздаблення. Такая палітыка не магла не даць свайго злавеснага плёну і дала яго.

Сёння, калі знясіленая беларуская мова і літаратура засталіся сам-насам з агрэсіўным нецывілізаваным рынкам існуе рэальная пагроза канчатковага адмірання і мовы, і літаратуры. Тое, што не здолеў за дзесяцігоддзі зрабіць таталітарызм, за год-другі зробіць адсутнасць попыту, астранамічны кошт паперы, нядзейсны Закон аб мовах, абыякавасць вярхоўнай улады і ўрада. На канцы XX стагоддзя народ Беларусі можа **анямець**.

Улічваючы ўсё гэта, выкарыстоўваючы сваё права заканадаўчай ініцыятывы, патрабуем:

1. Неадкладна ўвесці 10-працэнтны падатак з продажу ўсёй кніжнай прадукцыі і перыёдыкі на Беларусі за выключэннем дзіцячай, вучэбнай, навуковай, беларускамоўнай.

2. Увесці 5-працэнтны падатак на заяўлены кошт тыражу з усіх заказчыкаў, якія размяшчаюць свае заказы ў друкарнях Беларусі.

3. Атрыманыя сродкі накіраваць на падтрымку беларускамоўных перыядычных выданняў, на стварэнне выдавецтваў пры СП Беларусі і ўмацаванне паліграфічнай базы, на павышэнне ганарарных ставак, на закупку паперы, забеспячэнне спрыяльных умоў для творчасці пісьменнікаў і г. д.

Прынята на агульным сходзе СП Беларусі 11 лютага 1992 года.

# Адкрыты рахунак БЗВ

У дзейнасці Беларускага згуртавання вайскоўцаў адбылася значная падзея. Адкрыты банкаўскі рахунак арганізацыі. Пакуль што на ім невялікая сума складак сяброў БЗВ. Але ў кіраўніцтва арганізацыі ёсць меркаванне, што грашовую падмогу БЗВ змогуць аказаць прафсаюзныя арганізацыі, камерсанты, дзяржаўныя структуры.

У першую чаргу, лічыць кіраўніцтва БЗВ, грошы пойдуць на клопаты па патрыятычным выхаванні моладзі — заўтрашніх абаронцаў Айчыны.

Падказваем рахунак БЗВ: г. Мінск, камерцыйны банк «Дукат», Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, 700 210 МФО 153001767.

**К. ЛАДУЦЬКА.**

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# ЗА САМАРОСПУСК

**Днямі наша рэдакцыя атрымала ліст з Гомельскага клуба выбаршчыкаў, падпісаны намеснікам старшыні клуба А. Грамыкам. У ім змешчаны зварот да дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**Магчыма, меркаванне аўтараў звароту не бясспрэчнае. Думаецца, аднак, што гэтае меркаванне мае права на існаванне, і яго варта ўлічыць напярэдадні чарговай сесіі Вярхоўнага Савета.**

**У звароце выбаршчыкаў з Гомеля, у прыватнасці, гаворыцца:**

**«Мы ўпэўнены, што на рэферэндуме, які патрабуюць правесці БНФ і іншыя дэмакратычныя партыі і згуртаванні, пераважная большасць насельніцтва Беларусі прагаласуе за правядзенне датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета. Так яно і будзе!**

**Але, шаноўныя дэпутаты!**

**Колькі на гэта спатрэбіцца часу і сродкаў!**

**Ці не прасцей і танней Вярхоўнаму Савету аб'явіць аб самароспуску і прызначэнні новых выбараў?**

**Ці большасць з вас не разумее, што таптанне на месцы без сапраўдных перспектыў выхаду да рынку можа выклікаць сацыяльны выбух? Няўжо вы не разумееце, што людзі больш вам не вераць? Няўжо праўду кажуць, што дзеля сваіх меркантыльных мэтаў вы здрадзілі свайму народу і гатовы загнаць яго ў беспрасветную галечу?..**

**Мы спадзяёмся, што ўсё гэта не так і што вы, шаноўныя дэпутаты, здолееце пераадолець псіхалагічны бар'ер і прыняць нялёгкае, але сумленнае і адзіна правільнае рашэнне — самароспуск Вярхоўнага Савета і прызначэнне тэрміну новых выбараў згодна з прапановай БНФ».**

# БОГ СТВАРЫЎ БЕЛАРУСАЎ, АЛЕ...

Цікава было б уявіць: якой, напрыклад, будзе рэакцыя французаў ці італьянцаў, альбо нашых суседзяў палякаў, калі ў іхніх краінах раптам нехта зробіць надпісы рэкламнага ці даведачнага характару, скажам, на кітайскай мове, іерогліфамі... Такое нават і ўявіць немагчыма; і тое, што немагчыма там — магчыма на Беларусі. Праўда, у нас пакуль іерогліфамі не пішуць, затое пішуць па-польску і не абы-дзе, а на маршрутных аўтобусах, якія з'яўляюцца ўласнасцю дзяржавы — Рэспублікі Беларусь і якія курсіруюць не па міжнародных трасах, а па самых звычайных, унутрыбеларускіх.

Гэты здымак я зрабіў у Мінску 14 жніўня мінулага года, калі на аўтавакзале «Усходні» чакаў пасадкі на маршрут «Мінск — Глыбокае». Неўзабаве на суседні перон пад'ехаў аўтобус «Гродна — Гомель», і тут маю ўвагу прыцягнула маляўнічая шыльда з панарамай гарадзенскіх касцёлаў і хмарачосаў, дзе сярод гэтага было па-польску напісана — «Grodno», а другі надпіс — «Гомель» зроблены па-расейску. Каб не выклікала пярэчанняў (бо Гомель па-беларуску і па-расейску пішацца аднолькава), я пайшоў і наўмысна паглядзеў, які надпіс маецца на лабавым шкле аўтобуса. Там быў менавіта расейскі надпіс — «Гродно— Гомель». Мяркуючы па тым, што польскі надпіс зроблены пад трафарэт, то з большай доляй верагоднасці можна чакаць, што такіх шыльдаў выраблена шмат, можа, і для ўсіх аўтобусаў аўтапарка. Вось так у суверэннай Беларусі праводзіцца «беларусізацыя».



Невыпадковым на гэтым фоне выглядае тое, што ў праграме ЦТ «Поле цудаў» адна з удзельніц віктарыны (18.10.91 г.), якая паходзіла з Гародні, «забылася», што гэты горад знаходзіцца на Беларусі, і зрабіла прывітанне прысутным у тэлестудыі і тэлегледачам па-польску.

Цяпер я часта згадваю, як у маленстве мой глыбоцкі сусед-старажыл расказваў цікавы выпадак з часоў апошняй вайны, калі пад час акупацыі Глыбокага немцы намалявалі карыкатуру, сэнс якой заключаўся ў тым, што летувісы, нягледзячы на неспрыяльныя варункі часу, закопваюць памежныя слупы з надпісам «Lietuva» недзе паміж Паставамі і Глыбокім, а беларусы гэтым часам... гоняць у хмызняках гарэлку.

Неяк спаткаў аднаго знаёмага, які вярнуўся з водпуску і наведаў Гародню і Зэльву. Пытаю: як там, на Бацькаўшчыне? Хоць можна было і не пытаць, бо адказ я ведаў загадзя, таму што добра ведаю свой народ.

— У Зэльве і Гародні, — казаў ён мне, — народ вельмі абураны тым, што ніхто не спытаў дазволу ў народа змяніць герб і сцяг, ды яшчэ абвясціць незалежнасць, а тут яшчэ збіраюцца перайначыць Мінск на Менск, а Гродна на Гародню; і навошта нам тая незалежнасць, і без яе добра жылося, вось каб была ў краме каўбаса ды гарэлка, то болей нічога не трэба...

І яшчэ мой знаёмы адзначыў, што пакуль беларусы вырашаюць каўбасна-гарэлачнае пытанне, палякі шпаркімі тэмпамі аднаўляюць і будуюць касцёлы. Знаёмая з'ява! Зноў згадваю аповяд старажыла аб той нямецкай карыкатуры.

Яшчэ адна неспадзяванка чакала мяне, калі быў улетку ў родным сваім горадзе Глыбокае. Захапляючыся з дзяцінства краязнаўствам, я збольшага ведаю гісторыю свайго горада і ваколіц, таму мяне вельмі здзівіла, што ў недалёкай ад горада вёсцы Удзела (там зараз аднаўляюць касцёл) збіраюцца адчыняць польскія класы ды мяркуецца запрасіць настаўнікаў з Варшавы ці Вільні. Мне добра вядома, што на Глыбоччыне няма этнічных палякаў, а тыя асаднікі-палякі, якія тут атабарыліся пасля Рыжскае ўмовы, былі ў 1939 годзе сасланыя ў Сібір. Магнаты Корсакі, якія валодалі большай часткай паўночна-заходняй Беларусі, у тым ліку і Глыбокім, у сярэднявеччы былі праваслаўнымі, у далейшым прадстаўнікі гэтага роду перайшлі ва уніяцтва (дарэчы, адным з Корсакаў пабудаваны славуты Беразвецкі уніяцкі кляштар у Глыбокім, дзе была іхняя сямейная пахавальня), затым, у пазнейшыя часы, іхнія нашчадкі з-за службовых выгод перайшлі ў каталіцтва. У сваіх маёнтках яны пачалі будаваць касцёлы, і былыя праваслаўныя вернікі сталі каталікамі. Адзін з такіх касцёлаў у 1740 годзе яны збудавалі ва Удзеле.

У 1936 годзе менавіта ўдзельскія каталікі разам з глыбоцкімі сабраліся ў вялікі натоўп ды рушылі ў вёску Мамаі, што за чатыры кіламетры на поўнач ад Глыбокага, адбіраць у праваслаўных царкву. Як казаў сведка гэтых падзей: сабраліся ў дарогу нават сляпыя, кульгавыя, касыя ды бедныя й заможныя... У Мамаях жыла тады толькі адна сям'я каталікоў. На Глыбоччыне ёсць шмат касцёлаў і цэркваў, якія сваім знешнім выглядам нагадваюць мініяцюрны замак, бо святыні абнесены высокімі мураванымі агароджамі з брамамі і вежамі, як, напрыклад, у Дзеркаўшчыне, Мосары і Мамаях. Мамайчане, загадзя даведаўшыся, што ў вёску рухаецца вялікая калона каталікоў, занялі абарону за мураванай агароджай і ў вежах святыні. Тры дні яны трымалі аблогу, дубасячы «пшэкаў» палкамі, каменнямі і паўцагелкамі, так і не даўшы прарвацца да храма і ўкапаць перад ім каталіцкі крыж, што з'ўлялася канчатковай мэтай штурму, і гэта сімвалізавала б, што святыня павержана ды становіцца каталіцкай. Паліцыянты стаялі збоку і ў падзеях не ўдзельнічалі, затое рагаталі, калі ад ілбоў каталікоў адскоквалі камяні і абломкі цэглы. Каталікі так і вярнуліся ні з чым, а святыня заставалася праваслаўнай аж да 1960 года. У гэты год падзеі зноў паўтарыліся, але ў ролі «штурмавікоў» былі не каталікі. У адзін з дзён панаехала ў Мамаі ўжо савецкіх міліцыянтаў, каб зачыніць царкву, і мамайчане, як і 24 гады таму, занялі абарону; адзін са сведкаў гэтых падзей расказваў мне, што людзі нават кідаліся пад колы міліцэйскіх машын. Але... тут справа іншая, міліцыянты маглі і зброю выкарыстаць. Быў я гады два таму ў Мамаях, ездзіў сюды на веласіпедзе з Глыбокага, і застаў храм у поўным запусценні — тут месціўся нейкі склад. Яго муры — сведкі трагічнай гісторыі майго народа. Чуў у час сёлетняга прыезду на Бацькаўшчыну, што святыню збіраюцца аднаўляць, але мо прыйдзецца яшчэ раз трымаць аблогу? Кажуць —Бог тройцу любіць!

Магчыма, я і памыляюся, але думаю, што момант беларусізацыі касцёла на Беларусі ў большай ступені ўжо згублены. Не ўяўляю, як ксяндзы-беларусы недзе гадоў праз 20—30, калі ўрэшце дойдзе справа да беларусізацыі, будуць тлумачыць сваім вернікам, што яны не палякі, а — беларусы-каталікі. Людзі ахвяруюць на адраджэнне пальшчызны ўсе свае зберажэнні, некаторыя па 8—10 тысяч рублёў, адкрываюць польскія школы, ксяндзы запрашаюць манахаў з Польшчы, робяць экскурсіі з моладдзю ў Польшчу...

Якую тут можна пабудаваць незалежную і багатую дзяржаву, калі інтэлект нацыі распыляецца на адраджэнне пальшчызны і расейшчыны, калі на беларускія газеты і часопісы не могуць знайсці паперу і грошы, калі ўладу трымаюць людзі, якіх і блізка нельга падпускаць да гэтай улады.

Без ведання народам сваіх каранёў, уласнай гісторыі, культуры, без адраджэння краязнаўства, без стварэння беларускамоўных асяродкаў (армія, касцёл, царква, школа і г. д.) нельга пабудаваць сваёй незалежнай дзяржавы.

Я глыбока перакананы, што ў кожнага чалавека, як і ў кожнага народа, ёсць свой лёс, і кожны чалавек, як і кожны народ, заслугоўвае таго лёсу і таго ўрада, які ў яго ёсць. Без усведамлення беларусамі сябе, як вялікай нацыі (вядома, не па колькасці насельніцтва, а па гісторыі, культуры, мове, працалюбівасці і інтэлекце), ніякае адраджэнне не адбудзецца. Чалавек — гэта жывая істота, якая мае галаву, сэрца, рукі, ногі, розум, мозг. Так і нацыя ёсць жывая істота. У гэтай нацыі таксама ёсць сваё сэрца і мозг і шмат чаго іншага. Бог стварыў беларусаў вялікай нацыяй, але д'яблы выразалі ў гэтага народа сэрца, пакалечылі ногі, затуманілі розум. Здаровы нацыянальны арганізм ніколі б не даў амаль загінуць мове, культуры, забыць гісторыю. У здаровым нацыянальным арганізме ніколі не саспела б глеба для пальшчызны, паляшуцкага сепаратызму, цягі да «старэйшага брата», бо ўсведамленне народам сябе як нацыі проста не дапускала б і думак аб гэтым, не кажучы аб дзеяннях у гэтым кірунку...

**Уладзімір СКРАБАТУН.**
Вентспілс, Латвія.

# ЦІ РАЗГАДАЕМ ТАЯМНІЦУ

Хачу расказаць пра выпадак, сведкам якога нядаўна быў. На вул. Казлова затрымаўся каля кніжнага кіёска, што ля магазіна «Акіян». Звярнуў увагу на хлопчыкаў і дзяўчынак (пяці-шасцікласнікі), якія падбеглі да кіёска і папрасілі ў кіяскёркі кнігу за 1 руб. 90 кап. (яны прасілі менавіта так, не называючы кнігі). І здзівіўся, калі ўбачыў гэтую кніжку. Гэта быў «Русско-белорусский разговорник»! Сэрца маё зашчымела ад радасці. Нарэшце, падумаў я, вось яны, новыя маладыя беларусы! Не памрэ наша мова, калі дзеткі купляюць беларускія размоўнікі.

Кіяскёрка таксама была здзіўлена, у яе на твары з'явілася добрая, трохі збянтэжаная ўсмешка. Няйначай, такога бойкага гандлю размоўнікамі ў яе яшчэ не было. У аднаго з хлопчыкаў яна запыталася: «Откуда вы?» А ён у адказ: «С Украины». «Зачем же вам белорусский?» — здзіўлена перапытала яна. «А будем разговаривать по-белорусски»,— і пабег.

Радасць мая памеркла. Я ўявіў сабе, як яны, вывучыўшы некалькі выразаў, паспрабуюць звярнуцца ў Мінску да каго-небудзь па-беларуску. Шкада мне стала гэтых украінскіх дзетак. Наіўныя, яны яшчэ не ведаюць, што тут не так, як на ўсім свеце, што на Беларусі людзі не рады роднаму слову. На зварот па-беларуску ў адказ можна атрымаць здзіўлена ўскінутыя бровы, пагардліва скрыўленыя вусны і працяжнае пытанне «Что-о?»

Успомніў я, як сам асмеліўся размаўляць па-беларуску і што з гэтага атрымалася. У «Булачнай», што насупраць магазіна «Лакомка», я звярнуўся да маладой касіркі па-беларуску: «Калі ласка, мне шклянку кавы і чатыры абаранкі». Не глянула на мяне, але з выразам на твары «еще этого здесь не хватает» глянула на чаргу, як бы запрашаючы ўсіх у сведкі. Я набраўся мужнасці і яшчэ раз паўтарыў просьбу па-беларуску. Кінула мне чэк і рэшту. Адышоўшы ад касы, заўважыў, што рэшты атрымаў болей, чым разлічваў. Але зразумеў, калі глянуў на чэк, — там быў выбіты толькі адзін абаранак. Вярнуцца яшчэ раз да касы, каб растлумачыць касірцы, чаго я хацеў, пабаяўся. За мной стаяла доўгая чарга. Я ўявіў сабе, як накінуцца на мяне разам з касіркай гэтыя стомленыя людзі з папрокам, што не магу «говорить по-человечески».

Колькі разоў назіраў, як міла ўсміхаюцца прадаўшчыцы, калі да іх звяртаецца іншаземец. Сярод пакупнікоў заўсёды знойдзецца добраахвотнік, які ператлумачыць замежную мову. Напэўна, ніколі не разгадаю гэтай таямніцы, чаму людзі так ненавідзяць менавіта беларускую мову. Нядаўна чытаў у «Звяздзе» лісты чытачоў, дзе яны з абурэннем пішуць, што ім вельмі не падабаюцца беларускія словы «прывілея» і «мытня». Ці бачыў хто такое ў расейскіх ці польскіх газетах, каб людзі абураліся родным словам?

Успомніў і яшчэ адзін выпадак. У сталоўцы, што месціцца ў адным будынку з рэстаранам «Папараць-кветка», у чарзе за мной стаяла група маладых літоўцаў. Калі падышла іх чарга і раздавальшчыца спытала «Вам что?», малады літовец папрасіў: «Капусту, калі ласка». Рэакцыя была тая самая: пагардлівы позірк і пытанне «Щи, что ли?»

Вось чаму мне стала сумна, гледзячы на ўкраінскіх дзетак з купленымі беларускімі размоўнікамі. Нашы дзеці ўжо ведаюць: беларускія размоўнікі ў Беларусі ім не патрэбныя, бо адносіны да беларускай мовы не мяняюцца. А шчырыя наіўныя ўкраінскія дзеткі з дзіцячым захапленнем захацелі паразмаўляць у Мінску па-беларуску. Не дай Бог звярнуцца ім па-беларуску да згаданых касірак, раздавальшчыц, прадаўшчыц...

**Пятро ЛУБОЎСКІ,**
**выкладчык Беларускай політэхнічнай акадэміі.**
г. Мінск.

## Блакада Летувы працягваецца?

З пачатку гэтага года Міністэрства сувязі значна павысіла паштовыя тарыфы ў замежныя краіны. Да іх ліку аднеслі і краіны Балтыі. Бог з імі, з Еўропай, Польшчай, Аўстраліяй ды Амерыкай, але ж у Балтыі засталося шмат маіх сваякоў і сяброў. А гэтыя тарыфы проста адразаюць усялякія зносіны з Балтыйскімі краінамі.

Нейкі рубель з паловай на звычайны ліст я знайду, тут пытанняў няма. А вось за заказны ліст, каб пасляць сябравай дачцэ пару каляндарыкаў, патрэбна ажно сем з паловай. Хоць яны і «драўляныя», але— шкада. Пасылка вагой менш за кілаграм — ажно 161 рубель (!). Хацеў дасляць сябруку ў Вільню шматтомнік Караткевіча, ды за перасылку трэба заплаціць амаль месячную зарплату. Мо танней з'ездзіць?

А мо ўрад Рэспублікі Беларусь працягвае гарбачоўскую блакаду Летувы?..

**Л. ЖАЛЯЗНЯКОЎ.**
г. Гомель.

## ПЫТАННІ ЗАСТАЮЦЦА

Была раніца. Калона, у складзе якой было больш за 900 курсантаў, рухалася ў напрамку мемарыяла паўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны. Гэта былі курсанты Харкаўскага вышэйшага вайсковага вучылішча тылу і транспарту, цяпер—Нацыянальнай Гвардыі Украіны. Яны павінны былі прыняць прысягу на вернасць Украіне. Але ў гэтым вучылішчы вучацца не толькі прызыўнікі з Украіны, але і з Беларусі. Перад намі паўстала пытанне: прымаць гэту прысягу ці не? Кіраўніцтва вучылішча на гэты конт выказвалася па-рознаму. Адны гаварылі, што наша вучылішча —аператыўная вайсковая частка, і ўсе павінны тут падпарадкоўвацца аднаму статуту, другія выказвалі думкі, што хутка прыедуць прадстаўнікі цяпер незалежных дзяржаў СНД, і тады кожны будзе прымаць прысягу на вернасць сваёй дзяржаве. У рэшце рэшт, хто прысягнуў, а хто і не. Тыя, хто прыняў прысягу, застануцца тут вучыцца, але не ведаюць, дзе будуць служыць пасля заканчэння вучылішча. А тыя, хто не прыняў прысягу? Таму і застаюцца ў курсантаў пытанні і невядомасць за сваю будучыню. А сэнс жа жыцця для ўсіх нас —служыць Бацькаўшчыне.

**Дзмітрый ЦЫМБЕРАЎ,**
**Віталь НАРКЕВІЧ,**
**курсанты.**
г. Харкаў.

З ПОШТЫ АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ

Леанід ЛЫЧ

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЛГОФА

## Дзяржаўны суверэнітэт: традыцыі і праблемы

Найвышэйшай ступенню нацыянальнай самасвядомасці любога народа з'яўляецца яго разуменне неабходнасці мець незалежную, суверэнную дзяржаву як надзейны сродак самастойнага вырашэння ўсіх пытанняў уласнага жыцця, гарантыя абароны ад усемагчымых прэтэнзій, нападак з боку суседніх краін. Такое разуменне пачало складвацца ў народаў яшчэ ў перыяд распаду першабытна - абшчыннага ладу і паслужыла прычынай утварэння першых на нашай планеце дзяржаў рабаўладальніцкага тыпу. Гістарычны вопыт пераканаўча пацвердзіў прагрэсіўнае значэнне арганізацыі жыцця народаў у форме ўласнай дзяржавы, і таму гэта ідэя заўжды была надзвычай папулярнай як у тых, хто ўжо выйшаў на такі рубеж у сваім развіцці, так і ў тых, хто толькі яшчэ рабіў першыя, нават часта няўпэўненыя, крокі ў даным напрамку.

Ну а як жа ставіліся да гэтай разумнай ідэі нашы далёкія продкі? Ці было ў іх імкненне жыць ва ўласным палацы? А мо яны абмяжоўваліся толькі сціплым жаданнем мець бедненькія сенцы ў чужых велічных палацавых збудаваннях? Не, прашчуры нашыя былі людзьмі з высокім гонарам, любілі пачуваць сябе гаспадарамі на ўласнай зямлі, не прасіліся пад чыё-небудзь крыло, самаахвярна бараніліся ад нашэсця чужынцаў. Дзякуючы такім якасцям народа, у нашым краі змаглі скласціся і доўгі час існаваць такія магутныя для феадальнай эпохі дзяржавы, як Полацкае, Тураўскае, Берасцейскае, Віцебскае, Гарадзенскае, Пінскае і іншыя княствы.

Не згубілі галавы, прынялі правільнае рашэнне нашыя дзяржаўныя спадары, калі над Бацькаўшчынай навісла рэальная пагроза папасці ў татара-мангольскую кабалу, апынуцца пад уладай Тэўтонскага ордэна. Зусім не страчваючы дзяржаўнага суверэнітэту, яны пайшлі на аб'яднанне сіл са сваімі заходнімі суседзямі і ўтварылі Вялікае княства Літоўскае, якое стала адной з буйных дзяржаў у Еўропе. У далёка не спрыяльных для нашага народа ўмовах, калі навісла рэальная пагроза стаць здабычай Рускай цэнтралізаванай дзяржавы, нельга лічыць памылкай згоду дзяржаўных дзеячаў ВКЛ на падпісанне ў 1569 годзе уніі з Польскай Каронай, бо ў адпаведнасці з дагаворам суверэннасць першага гарантавалася ў поўным аб'ёме. Гэта значна пазней, шляхам подкупу, шантажу і падману ўплывовых дзяржаўных асоб, багатых магнатаў Вялікага княства Літоўскага палякам удалося з іх дапамогай істотна ўрэзаць яго суверэннасць, ледзь не да самых падвалін размыць усведамленне беларусамі ўсёй важнасці захавання ўласнай дзяржаўнасці.

Вытраўленне са свядомасці значнай часткі нашага народа гэтага высакароднага пачуцця дзяржаўнасці дорага каштавала і самой Польшчы, бо як пачаліся яе падзелы, беларусы, усур'ёз не адчуваючы сябе самастойным дзяржаўным этнасам, амаль зусім не супрацьдзейнічалі прымусоваму пераходу іх земляў пад уладу Расійскай імперыі. Бо і сапраўды, якая розніца, за кім жыць непаўнапраўнаму чалавеку? Замест таго, каб у такіх варунках мяняць свае адносіны ў пытаннях да статуса дзяржаўнасці карэннага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага ў бок пашырэння яго палітычных правоў, польскія ўлады працягвалі іх стала абмяжоўваць. У адпаведнасці з прынятымі захадамі незадоўга да першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) і ў першыя два дзесяцігоддзі пасля яго быў ажыццёўлены шэраг і новых крокаў, у выніку якіх статус дзяржаўнай улады Польскай Кароны яшчэ больш вырас, а Вялікага княства Літоўскага, наадварот,—знізіўся. Таму зусім лагічна, калі адбылося поўнае далучэнне беларускіх земляў да Расійскай імперыі, у свядомасці шматлікай колькасці іх насельніцтва былі істотныя праколы адносна выключнай ролі ўласнай дзяржаўнасці, што, аднак, не азначала поўнага вырачэння людзей ад гэтай ідэі. Час павінен быў унесці свае карэктывы. І такое сапраўды адбылося.

### 1. На польскім ворчыку

Як неўзабаве зразумела перадавая, прагрэсіўная частка беларускага народа, далучэнне яго земляў да Расіі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай у палітычных адносінах было вялікім крокам назад. Калі ў апошняй ён, нягледзячы на ўсялякія каварныя намеры і інтрыгі з боку палякаў, усё ж меў пэўную дзяржаўна-палітычную аўтаномію, дык Расійская імперыя не збіралася дзяліць з ім аніякай улады. Не з гэтай мэтай па ініцыятыве самадзержцаў учыняліся рыбаўніцкія, гвалтоўныя падзелы заходняй суседкі.

У інтарэсах свабоднага палітычнага развіцця беларускаму народу найвыгадней было б вызваліцца і ад Расіі, і ад Польшчы, бо ў планы як першай, так і другой ніколі не ўваходзіла наданне поўнай палітычнай суверэннасці гэтаму старажытнаму славянскаму этнасу. Але для змагання на два бакі не ставала моцы. Патрэбна было неяк лавіраваць, чакаць зручнага моманту. І ён раз-пораз надараўся. Заслуга палякаў. Яны ніяк не маглі пагадзіцца са стратай дзяржаўнай незалежнасці, гатовы былі ў любы момант кінуцца на ворага, у чым мелі сталую падтрымку ад многіх краін Еўропы і асабліва Францыі. Для большай гарантыі палякі былі вельмі зацікаўлены схіліць да барацьбы з Расійскай імперыяй і беларусаў, абяцаючы пасля аднаўлення Рэчы Паспалітай вярнуць ім былыя, а не дык яшчэ і большыя дзяржаўна-палітычныя правы. Ці ж можна было адмахнуцца ад такіх пажаданых абяцанняў? Вядома, не. Вось чаму ледзь не ва ўсіх выступленнях палякаў за вяртанне былой незалежнай дзяржавы Рэчы Паспалітай у шэрагах такіх змагароў былі і беларусы.

Першы раз прыйшлі яны на дапамогу палякам у час нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Касцюшкі ў 1794 годзе, г. зн. яшчэ да апошняга трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, калі пакуль што існавала пэўная надзея на яе захаванне як самастойнай дзяржавы. Дарэчы, сам Касцюшка паходзіў з апалячанага беларускага шляхецкага роду, што спрыяла прыходу значнай колькасці беларусаў у паўстанцкую армію. Іх магло б быць і больш, калі б 3 мая 1791 года на сейме ў Варшаве не прынялі Канстытуцыі, у адпаведнасці з якой скасоўваўся былы саюз (унія) Польшчы з Вялікім княствам Літоўскім і ўтваралася адзіная дзяржава, дзе яўна пераважаў польскі элемент над беларускім і літоўскім. І хаця ў наступным годзе Таргавіцкая канферэнцыя (ад украінскага мястэчка Таргавіца) адмяніла Канстытуцыю, а яшчэ праз год Гродзенскі сейм узаконіў гэта рашэнне, для многіх беларусаў не з'яўлялася сакрэтам, што ў асобе палякаў яны ўсё ж не маюць надзейных сяброў у пытаннях дзяржаўнай суверэннасці. Толькі цяжкае, безвыходнае становішча будзе не раз кідаць беларусаў у абдымкі да палякаў, бо ў разліку толькі на ўласныя сілы ніякіх палітычных правоў нельга было вырваць з магутных абцугоў Расійскай дзяржавы.

Заканамернае з пункту гледжання чалавечай логікі жаданне палякаў і часткова беларусаў вярнуць захопленыя Расіяй землі наткнулася на моцнае супраціўленне. У адказны час гісторыі рускія інтарэсы цар даверыў адстойваць тут свайму найлепшаму палкаводцу Аляксандру Сувораву. З добра спрактыкаванай у многіх баях арміяй ён без асаблівых для яе людскіх стратаў нанёс паражэнне паўстанцам пад Крупчыцамі і Брэстам і ў лістападзе 1794 года заняў Варшаву. Для свабодалюбных, з высокай ступенню нацыянальна-дзяржаўнай самасвядомасці палякаў рускі палкаводзец Сувораў назаўжды застаўся ў іх памяці як бязлітасны душыцель паўстання Касцюшкі. У польскім народзе паважаюць, шануюць толькі тое, што звязана з іменем правадыра паўстання, і аддаюць анафеме захопніцкія паходы Суворава на іх землі.

Шмат у чым адрозніваецца стаўленне да гэтых падзей на Беларусі. Зближае толькі тое, што і яна па прыкладзе Польшчы захоўвае памяць аб гераізме паўстанцаў, шануе — праўда, не ў такой ступені — славутыя намеры і справы Касцюшкі. Але куды з большай павагай, чым да смелага правадыра польскага паўстання, ставяцца ў нас да таго, хто яго задушыў, хто не даў як след разгарацца полымю нацыянальна-вызваленчай барацьбы польскага і беларускага народаў. Акрамя Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава (заснаваны ў 1946 г.), імя гэтага палкаводца носяць дзесяткі калгасаў і саўгасаў, гарадскіх вуліц, што, як лёгка зразумець, зусім не ў той бок скіроўвае нацыянальную самасвядомасць нашых людзей, не садзейнічае распаўсюджванню сярод іх руху за набыццё поўнай дзяржаўнай незалежнасці.

Жорсткая расправа царскіх войск над паўстаннем Касцюшкі практычна зусім не прыпыніла барацьбу былых народаў Рэчы Паспалітай, зразумела, у першую чаргу палякаў, за нацыянальнае вызваленне, аб чым можа сведчыць дзейнасць у 1796—1797 гг. Віленскай асацыяцыі і яе адгалінаванняў у Літве і на Беларусі. Галоўнай мэтай гэтых канспіратыўных арганізацый з'яўлялася аднаўленне Рэчы Паспалітай у яе былых межах, вяртанне да Канстытуцыі 3 мая 1791 года. Сярод іх удзельнікаў было нямала апалячанай беларускай шляхты, павятовых кіраўнікоў дваранства. Істотныя хібы ў арганізацыі канспіратыўнай работы паслужылі прычынай хуткага выкрыцця Віленскай асацыяцыі і яе адгалінаванняў. Каб не ўмяшанне цара Паўла І, многія яго ўдзельнікі былі б пакараны смерцю. Яе замянілі ссылкамі ў далёкую і халодную Сібір. Небеспадстаўна баючыся за свой лёс, да цара сталі пісьмова звяртацца з прысягай на вернасць і тыя, хто нават не браў удзелу ў дзейнасці Віленскай асацыяцыі і яе адгалінаванняў. Пазней гэтыя матэрыялы афіцыйныя рускія гісторыкі будуць выкарыстоўваць як доказ вернападданіцтва беларусаў царскай імперыі, іх жадання жыць навекі ў складзе Расіі. Такія сфальсіфікаваныя погляды дарэвалюцыйных гісторыкаў будуць падзяляць і многія іх калегі ўжо Савецкай Беларусі. Аб'ектыўныя ацэнкі падзей тых часоў сталі магчымымі толькі на сучасным этапе развіцця гістарычнай навукі. І, што характэрна, найчасцей іх выказваюць неабцяжараныя грузам такіх фальсіфікацый сённяшнія маладыя вучоныя, у прыватнасці Сяргей Таляронак, які на падставе вывучэння архіўных матэрыялаў зрабіў зусім слушную выснову, што вышэйахарактарызаваныя «паводзіны павятовага кіраўніцтва дваран беларускіх губерань былі выкліканы страхам перад засценкамі паўлаўскай Тайнай экспедыцыі — палітычнай паліцыі пры Сенаце, вышэйшага органа палітычнага нагляду і сыску, сістэма катавання ў якой наводзіла жах на ўсіх жыхароў імперыі». Ён справядліва не бярэ ўсур'ёз пад увагу змест вернападданіцкіх пісьмаў цару ад кіраўнікоў паветаў і рэзюмуе, спасылаючыся на архіўныя дакументы, «што на працягу 1796—1797 гг. дваранства Беларусі падтрымлівала Віленскае таварыства».

Рэальная надзея вярнуць штосьці з былой дзяржаўнасці ўзнікла ў беларусаў з нападам у 1812 годзе на Расію французскага імператара Напалеона Банапарта. Гэта быў не толькі геніяльны палкаводзец, але і вялікі палітык, які вельмі добра разумеў, што значыць для любога народа дзяржаўная незалежнасць. Вось чаму адразу, як толькі Напалеон І разграміў у 1807 годзе Прусію, ён даў дазвол на стварэнне на базе захопленых ёю польскіх земляў Варшаўскага каралеўства. І хоць яно знаходзілася ў васальнай залежнасці ад Францыі, усё ж палякі ацанілі гэтую падзею як важны крок да нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння. Яно яшчэ з большай сілай падалося рэальнасцю, калі ў ходзе першых жа баявых дзеянняў рускія войскі вымушаны былі спешна пакінуць былыя землі Рэчы Паспалітай. У надзеі, што французскі палкаводзец прыхільна паставіцца да адраджэння і Вялікага княства Літоўскага, у польскія легіёны, што ваявалі на баку Напалеона, уступіла нямала і беларусаў. Верна служыў яму адзін з вядомых прадстаўнікоў найбуйнейшага ў нашым краі магнацкага роду Радзівілаў генерал брыгады польскага войска Міхал Радзівіл. Але мары здабыць уласную дзяржаву так і засталіся тады нязздзейсненымі марамі не толькі для беларусаў, але і для палякаў.

Наперадзе іх чакалі новыя змаганні. Пачаліся яны амаль праз два дзесяцігоддзі, калі ў Польшчы, а трохі пазней у Літве і Беларусі адбывалася ў 1830—1831 гг. нацыянальна-вызваленчае паўстанне. Ізноў на шчыт барацьбы быў узняты лозунг аб адраджэнні Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, што ў значнай ступені імпанавала і беларусам, якія не забыліся аб колішніх дзяржаўных правах свайго народа. Уключэнню беларусаў у паўстанне садзейнічала пасылка з гэтай мэтай на іх землі спецыяльных эмісараў. Толькі ў Ашмянскім, Браслаўскім, Дзісненскім і Вілейскім паветах у ім узялі ўдзел каля 10 тысяч чалавек, пераважна шляхціцаў. З усіх беларускіх губерань найбольш масавыя памеры набыло яно ў Гродзенскай.

Але і на гэты раз не ўдалося дасягнуць пастаўленай запаветнай мэты. У выніку задушэння паўстання праблема аднаўлення дзяржаўнасці для польскага і беларускага народаў стала яшчэ больш складанай і цяжкай, бо царскім урадам было скасавана нават і тое, што змаглі адваяваць у папярэднія гады: давялося развітацца з Канстытуцыяй 1815 года, сеймам, асобнай польскай арміяй. Каб пазбегнуць рэпрэсій, многія актыўныя ўдзельнікі паўстання, нашы землякі своечасова эмігравалі на Захад. Таму ж, хто не паспеў гэтага зрабіць, царскія карнікі пастараліся знайсці месца дзесьці далёка на чужыне, у недастаткова абжытых кутках Расійскай імперыі.

Вось такою дарагою цаною даводзілася сумленным людзям пракладваць шляхі да нацыянальнай незалежнасці. Спатрэбіліся тры дзесяткі гадоў, каб пасля разгрому паўстання 1830—1831 гг. ізноў кінуцца ў бойку з царызмам, які застаўся такім глухім да заканамерных імкненняў перадавой часткі многіх нярускіх народаў дамагчыся для сябе хоць якіх-небудзь палітычных правоў. Не забываліся пра іх і ўдзельнікі паўстання на чале з Кастусём Каліноўскім, што ахапіла ў 1863—1864 гг. Беларусь і Літву. Як і ў час усіх папярэдніх выступленняў супроць царызму, беларусы дзейнічалі ў цесным саюзе з палякамі, у якіх заўжды абвостраны характар мела пачуццё да дзяржаўнай незалежнасці, прычым часта да такой ступені, што яны не заўважалі, а то і свядома ігнаравалі нацыянальна-дзяржаўныя інтарэсы беларусаў, а гэта, зразумела, не садзейнічала масаваму нацыянальнаму руху ў нашым краі. Не быў паслядоўным у гэтым пытанні і створаны ў Варшаве для кіраўніцтва паўстаннем Цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК). Фармальна абвяшчаючы роўнасць беларускага, літоўскага і ўкраінскага народаў, ЦНК усё ж лічыў, што ў адноўленай у межах 1772 года Рэчы Паспалітай улада павінна належаць галоўным чынам яму. З такой пастаноўкай пытання ніяк не мог пагадзіцца Кастусь Каліноўскі. Ён, як вядома, падзяляў прагрэсіўную на той час тэорыю федэралізму А. Герцэна, адстойваў права народаў Беларусі, Літвы і Украіны на самавызначэнне. Паколькі такое не адпавядала задумам заснавальнікаў ЦНК, нацыяналістычна настроеных польскіх магнатаў і шляхты, немагчыма было кіраўнікам паўстання 1863—1864 гг. на Беларусі выступіць з чоткай, радыкальнай нацыянальна-дзяржаўнай праграмай. Непаслядоўнасць ЦНК у нацыянальным пытанні, зразумела, магла адштурхнуць і адштурхнула нямала этнічна самасвядомых беларусаў ад удзелу ў паўстанні. Галоўнае ў ім хацелі надаць барацьбе сялян за адабранне зямлі ў памешчыкаў, але і тут выявіліся розныя падыходы.

Практыка паказвала, што рух за нацыянальна - дзяржаўную незалежнасць— гэта даволі складаная справа, поспех якой, акрамя ўсяго іншага, шмат у чым залежыць ад добрай дасведчанасці народа пра сваё мінулае, прычым надзвычай важнае значэнне тут маюць глыбокія веды аб развіцці сваёй уласнай дзяржаўнасці, бо куды лягчэй арганізаваць масы на яе адраджэнне, чым на стварэнне новай. Пад уздзеяннем хітра ажыццяўляемай палітыкі паланізацыі і русіфікацыі, руку да чаго прыклалі і вучоныя, усё менш і менш беларусаў правільна ўяўлялі пра сваю дзяржаўнасць у далёкай гісторыі, таму яны занадта ўжо нясмела заяўлялі пра самастойныя інтарэсы ў нацыянальным пытанні ці вельмі лёгка далучаліся да тых, хто ўздымаў яго, да канца не разумеючы ўсіх магчымых вынікаў з гэтага. Словам, на Беларусі, як мала дзе ў іншых нацыянальных рэгіёнах Расійскай імперыі, тэарэтычнае асэнсаванне нацыянальна-дзяржаўнага пытання вельмі моцна адставала ад практычных задач, што так часта ўзнікалі ў гэтай складанай сферы грамадскіх адносін. Час патрабаваў правядзення неадкладных і грунтоўных навуковых даследаванняў, каб паказаць народу надзейныя шляхі да нацыянальна-дзяржаўнага Адраджэння. Вырашалася гэтая праблема крайне марудна і не на належным тэарэтычным узроўні, бо ў нашым краі працягвала адчувацца вельмі вострая патрэба ў добра прафесійна падрыхтаванай, нацыянальна самасвядомай інтэлігенцыі.

І ўсё ж справа не стаяла на месцы. З краін Захаду на Беларусь трапляла шмат літаратуры па нацыянальным пытанні, у якіх вельмі шырокую папулярнасць набыў рух за стварэнне нацыянальных дзяржаў. Ініцыятарам яго з'яўлялася буржуазія, г. зн. той клас, які найслабей за ўсіх быў прадстаўлены ў складзе беларускага народа, у чым, не пабаюся сказаць, заключалася вялікая трагедыя яго. Ніводзін тады клас, як буржуазія са сваім капіталам, так ні прагнуў нацыянальнай незалежнасці. Буржуазія спадзявалася з дапамогай яе вызваліцца з-пад улады буйных феадалаў і ўтворанай імі дзяржавы, стаць поўным гаспадаром на сваёй тэрыторыі. Паступова маладая буржуазія займела і неабходныя фінансавыя сродкі, каб магчы свае ідэалы

(Працяг на стар. 12).

КНІГАПІС



А. АКСАМІТАЎ, Л. МАЛАШ. З душой славяніна. Мінск, «Полымя», 1991.

**Міжвыдавецкая серыя «Нашы славутыя землякі» папоўнілася нарысам, у якім расказваецца пра выдатнага вучонага Зарыяна Даленгу-Хадакоўскага, які даследаваў этнаграфію, фальклор, славянскія мовы. Адна са старонак жыцця З. Даленгі-Хадакоўскага звязана з дзекабрыстамі.**



В. ШЫРКО. Хай людзі бачаць. Дакументальна-мастацкая аповесць. Мінск, «Беларускі Дом друку», 1991.

**Дакументальна-мастацкая аповесць Васіля Шырко «Хай людзі бачаць», якая выйшла ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць» — вяртанне пісьменніка ў яго родную вёску Чурылава, што на Уздзеншчыне, расказ пра людзей, дарагіх і блізкіх з маленства. В. Шырко піша пра сваіх бацькоў Аляксандра Аляксандравіча і Ніну Васільеўну, пра сваякоў, тых аднавяскоўцаў, якія пакінулі ў душы глыбокі след. Расказвае часам і з непрыхаваным гумарам — дасціпным, нязлым, які любяць і самі чурылаўцы. Яны ж, як гэта бачна з кнігі, людзі на Уздзеншчыне знакамітыя, няйначай тыя ніжнебайдуноўцы, пра якіх так хораша распавёў у свой час Янка Брыль.**



М. ДЗЯШКЕВІЧ. Ад вытокаў радаводных. Літаратурна-крытычныя артыкулы, нарысы, успаміны пра аўтара. Складальнік Я. Лецка. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1991.

**Мікола Дзяшкевіч пражыў усяго 24 гады: нарадзіўся ў 1947 годзе, памёр у 1971. Першыя публікацыі М. Дзяшкевіча ў рэспубліканскай перыёдыцы з'явіліся ў 1969 годзе. І таму гэтая кніжка — першая і апошняя...**

**Артыкулы М. Дзяшкевіча пазначаны сур'ёзным стаўленнем да літаратуры, вялікай патрабавальнасцю да сябе. Гэта і грунтоўнае даследаванне пра сям'ю Луцэвічаў (Мікола працаваў навуковым супрацоўнікам Літаратурнага музея Янкі Купалы) «Ад вытокаў радаводных...», і артыкулы пра жыццё і творчасць народнага песняра: «Янка Купала — кніга», «Паўстаў пракляццем катаваны», «А надпіс падкажа: Янка Купала»; і рэцэнзіі на кнігі... Тут жа публікацыі пра тэатр, любімых акцёраў...**

**З павагай да таленту напісаны ўспаміны людзей, якія добра ведалі М. Дзяшкевіча — Ф. Янкоўскага, А. Ліса, У. Дамашэвіча, А. Траяноўскага, У. Содаля, А. Лабанка.**

**Уступны артыкул У. Юрэвіча «З Купалам у сэрцы» — і ацэнка творчасці М. Дзяшкевіча, і згадкі аб тых сустрэчах з ім, якія адбываліся пад час сустрэч у музеі, калі У. Юрэвіч працаваў яго дырэктарам.**

# ТРЫВОЖНАЯ ЛІНІЯ СЭРЦА

У зборніка паэзіі С. Законнікава «Заклінанне» лёс пачынаецца даволі шчасліва: кніга, асабліва змешчаная ў ёй паэма «Чорная быль», ужо атрымала вялікую чытацкую пошту, усхваляванa-высокую ацэнку настаўніцы А. Барадзіной («ЛіМ», 12.VII.91). Удалася і прэзентацыя ў Доме літаратара, на якой пра кнігу з захапленнем гаварылі ўсе, акрамя аднаго ананімнага і ўшчэнт прысаромленага ў рэшце рэшт голаса з залы. Бясспрэчна, што «Заклінанне» чытаюць зацікаўлена і нераўнадушна. Чаго яшчэ пажадаць паэту, тым больш такога складу таленту, як С. Законнікаў, — страсна грамадзянскаму, востра сацыяльнаму, лепшыя вершы якога заўсёды ўчынак, дзеянне, пафасны парыў да ўдасканалення жыцця?

Паэзія С. Законнікава арганічна публіцыстычная, яна нібы своеасаблівая лірычная кардыяграма часу з яе ўзлётамі і падзеннямі, з магчымай балючай арытміяй і немагчымасцю спакою, роўненькай лініі руху. Самая трывожная вяршыня гэтай кардыяграмы—паэма «Чорная быль». Паэт не спазніўся, друкуючы яе праз столькі гадоў пасля Чарнобыля. С. Законнікаў быў у Хойніцкім раёне адразу пасля аварыі, і першыя ўражанні былі ўвасоблены ў раздзеле «Калыска памяці» з паэмы «Кульмінацыя», якая напісана яшчэ ў маі 1986 года. Паэма прэтэндавала на філасофска - канцэптуальнае, шматграннае ўвасабленне сённяшняга дня, на грунтоўнае асэнсаванне гістарычнага лёсу народа і па маштабе мастацкага мыслення, нават па стылі і інтанацыйным ладзе нагадвала паэмы А. Куляшова. Аўтар імкнуўся пераканаць: «Што б ні было, а наша існаванне ўсё-ткі сэнс навечна будзе мець». І «чарнобыльскі» раздзел, хоць і пранізаны нясцерпным болем, усё ж, адпаведна канцэпцыі паэмы, гучаў аптымістычна: «мы ўратуем», «потым чыста адмыем», «здолеем», «выцерпім»... Нават уратунак быў знойдзены адразу: «Гэта памяць народная, праведны гнеў і любоў!» Але аб'яўленая паэтам «дэзактывацыя абыякавых сэрцаў і самазадаволеных душ» ішла не так хутка, як хацелася, і С. Законнікаву, які сапраўды многа робіць у сваёй грамадскай дзейнасці для таго, каб утаймаваць чарнобыльскую бяду, гэта балела больш як каму. Таму ў яго творчасці непазбежнай была значна менш аптымістычная паэма «Чорная быль», у якой першая, крыху павярхоўная фіксацыя трагедыі змянілася яе глыбокім аналітычным увасабленнем. Выпакутаваная тэма знайшла эстэтычна бездакорнае ўвасабленне: 13 (злавесная лічба!) самастойных раздзелаў-навел, нават з назваў якіх можна скласці гісторыю, шлях бяды (ад «Выбуху» праз «Зону маўчання», «Дождж у Хойніках», вёскі «За калючым дротам» да ўсведамлення «Страху», «Віны», да горкай «Палыновай зоркі», што навечна ўстала над нашым лёсам).

Перад намі — трынаццаць чорна-белых, на вострых кантрастах пабудаваных імгненняў жыцця, у якіх сканцэнтраваны боль і наіўная надзея, ваяўнічае зло і спаконвечная сялянская дабрыня, жыццё ва ўсіх яго праявах і атамная смерць, святло і цемра небыцця. Пажарнікі, «заложнікі прагрэсу». Піякеры ў святочных калонах і тыя ж дзеткі ў мінскім санаторыі. П'яны з гора дзядзька, які вязе хлеб пад дажджом у Хойніках. Бабуля, што прабралася ў зону паглядзець на сваю хату і прыціскае да сэрца радыеактыўную ікону. Марадзёры, што, нібы вошы, поўзаюць па смяротна раненай зямлі. Пахаванне ў зоне. Хлапчаня, якому пераліваюць кроў... Няма толькі фатаграфіі тых, хто вінаваты ў гэтай бядзе. Бо вінаваты не канкрэтныя людзі — сістэма. Бо, як пісаў у сваім лісце да М. Гарбачова А. Адамовіч, «...гэта не проста станцыя ўзарвалася, а ўвесь той комплекс безадказнасці, недысцыплінаванасці, бюракратызму...» Два раздзелы, «Страх» і «Віна», прысвечаны асэнсаванню глыбінных прычын трагедыі. Здранцвенне і рабская пакорлівасць народа, Курапаты і Калыма, «жывёльны страх перад плюгавым чынам», духоўны Чарнобыль, заняпад культуры і мовы—на такіх кантрапунктах гучыць у паэме матыў усеагульнай віны перад зямлёю, перад мінулым і будучыняй беларусаў. Асноўную ж долю віны паэт бярэ на сябе: «Я вінаваты, вінаваты, бо гвалт і здзек не мог спыніць»; За гэтым прызнаннем віны — цэлая эстэтычная традыцыя (Твардоўскі, Панчанка, Вярцінскі і інш.).

Чалавек вінаваты за атамную трагедыю перад усім светам, перад Богам і Жыццём наогул. Ён, чалавек, вызваліў атам, і цяпер, як сказаў Джанатан Шэл, «механізм здзяйснення Страшнага суду створаны». Але ці мае чалавек права на тое? Раздзел «Чарнобыльскі воўк» з вялікай мастацкай сілай дае адказ на гэтае пытанне. З гранічным, выбуховым дынамізмам увасоблена тут барацьба жывой плоці і радыяцыі, Жыцця і Смерці. Не ўцячы, не ўратавацца ад бяды чарнобыльскаму ваўку, які да апошняй секунды не можа змірыцца з гібеллю, хоць і адчувае сваё бяссілле.

# ГУРТАВАЎ УСЕ БЕЛАРУСКІЯ СІЛЫ

## Споўнілася 70 год з дня заснавання Інбелкульта

**Гэта было дваццаць год таму назад—восенню 1971 года. У аўтара гэтых радкоў з'явілася задума напісаць артыкул, прысвечаны 50-годдзю заснавання Інстытута беларускай культуры, для часопіса «Полымя». Зайшоўшы да галоўнага рэдактара П. Кавалёва, я сказаў: «Павел Нічыпаравіч! Я хачу напісаць пра Інбелкульт для вашага часопіса». «Ідэя нядрэнная,— адказаў мне галоўны рэдактар,— але як да гэтага паставяцца ўверсе?» Ён узняў палец уверх, маючы на ўвазе Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, і дадаў: «Трэба параіцца, а вы прыходзьце праз дзень-два».**

**Калі я прыйшоў другі раз, Павел Нічыпаравіч шчыра прызнаўся: «Не ведаю, што рабіць. Я тэлефанаваў Бабосаву (у той час Я. Бабосаў працаваў намеснікам загадчыка аддзела навукі і навучальных устаноў ЦК КПБ.— Э. І.), а ён сказаў: «Мы ж 40 год не адзначалі. Чаму мы павінны адзначаць 50?» Нічога не скажаш—«жалезная логіка».**

**У той час я быў аспірантам Інстытута гісторыі АН БССР. Прапанаваў Паўлу Кавалёву наступны варыянт: «Павел Нічыпаравіч! Можа, мне падысці да нашага віцэ-прэзідэнта Кандрата Кандратавіча і параіцца з ім?» Галоўны рэдактар адказаў: «Вельмі добра. Ён якраз член нашай рэдкалегіі. Як ён скажа, так і будзе».**

**Калі я расказаў К. Крапіве аб сваім намеры, ён адразу сказаў: «У любым выпадку—будзем мы адзначаць 50-годдзе Інбелкульта ці не — напісаць аб гэтым трэба. Толькі перад тым, як вы панесяце матэрыял у часопіс, пакажыце яго мне».**

**У такіх абставінах у свой час прыходзілася «прабіваць» матэрыял аб Інстытуце беларускай культуры...**

Студзень 1921 года. У ЦК КП(б)Б і Народным камісарыяце Беларусі паўстала пытанне аб арганізацыі першага навукова-даследчага цэнтра ў рэспубліцы — Інстытута беларускай культуры. 27 студзеня 1921 года ў будынку Наркамата асветы сабралася каля 50 працаўнікоў культуры з многіх гарадоў рэспублікі. Быў заслуханы даклад С. Некрашэвіча пра беларускае культурнае адраджэнне, у якім адзначалася, што трэба «арганізаваць адпаведную лабараторыю» і назваць яе Інстытутам беларускай культуры. «Гэтая ўстанова, — адзначаў Сцяпан Міхайлавіч,—пры самай шырокай дапамозе нашае сацыялістычнае ўлады, павінна згуртаваць вакол сябе ўсе беларускія сілы, дзе б яны ні знаходзіліся, выкарыстаць іх па прызначэнні і быць адказнай за культурную справу на Беларусі».

Аднак заснаваць Інбелкульт у той час не ўдалося. Не хапала кваліфікаваных кадраў, матэрыяльных сродкаў і грунтоўнага плана. Нягледзячы на гэта, ідэя аб стварэнні Інстытута беларускай культуры не прапала. Яна была рэалізавана ў форме асобнай Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамата асветы, якая была зацверджана Саўнаркомам ССРБ.

Камісія была створана 10 лютага 1921 года ў складзе 15 чалавек. Задача — распрацоўка беларускай навуковай тэрміналогіі па розных галінах ведаў. У склад камісіі ўваходзілі гуманітарная, прыродазнаўчая і матэматычная секцыі. Старшынёй Навукова-тэрміналагічнай камісіі быў прызначаны Сцяпан Некрашэвіч. Актыўны ўдзел у рабоце гуманітарнай секцыі прымалі Янка Купала і Якуб Колас. 30 студзеня 1922 года на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі была заснавана першая шматгаліновая навукова-даследчая ўстанова рэспублікі — Інстытут беларускай культуры. У распрацоўцы яго статута прынялі ўдзел выдатны філолаг і этнограф Я. Карскі, вядомы вучоны-гісторык, прафесар У. Пічэта, таленавіты мастацтвазнаўца і пісьменнік Я. Дыла. Перад Інбелкультам была пастаўлена задача арганізацыі планамернага вывучэння этнаграфіі, мовы, літаратуры, мастацтва, гісторыі, геаграфіі, прыроды, эканомікі, сацыяльна-грамадскага руху Беларусі, а таксама аб'яднання і каардынавання ўсёй навукова-даследчай працы, якая праводзілася ўстановамі і асобнымі працаўнікамі Беларусі. Інстытут беларускай культуры падзяляўся на дзве секцыі: гуманітарную і прыродазнаўчую. У сувязі з тым, што функцыі першай цяпер значна пашырыліся, яна была падзелена на камісіі: слоўнікавую, тэрміналагічную і літаратурна-даследчую.

**Першым старшынёй Інбелкульта быў прызначаны С. Некрашэвіч, сакратаром — У. Чаржынскі, сапраўднымі членамі— Я. Карскі, І. Луцэвіч (Я. Купала), К. Міцкевіч (Я. Колас), Я. Лёсік, навуковымі супрацоўнікамі — М. Грамыка, А. Круталевіч, Ф. Бурак, В. Міхальскі, Ч. Родзевіч. М. Азбукін, М. Гутхоўскі, С. Плаўнік (З. Бядуля), М. Байкоў, М. Піятуховіч і Л. Більдзюкевіч.**

**Спачатку Інбелкульт меў дзве секцыі: гуманітарную, у склад якой уваходзілі слоўнікавая, тэрміналагічная і літаратурна-даследчая камісіі, і прыродазнаўчую з геолага-глебазнаўчай камісіяй. Старшынёй гуманітарнай секцыі Інстытута беларускай культуры быў прызначаны Янка Купала, а яе членамі — Якуб Колас, Змітрок Бядуля і іншыя выдатныя дзеячы культуры Савецкай Беларусі.**

**Можна смела сказаць, што карпатлівая праца тэрміналагічных камісій прыносіла плённыя вынікі. За час з 1922 па 1930 год імі былі створаны і выдадзены спецыяльныя слоўнікі па 24 галінах навукі. Ужо ў 1923 годзе па ініцыятыве Я. Купалы і Я. Коласа Інбелкультам быў выдадзены зборнік «Беларуская навуковая тэрміналогія. Выпуск другі. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва». Толькі за пяць гадоў (1922—1927) слоўнікавая камісія Інбелкульта сабрала больш за 200 тысяч слоў жывой беларускай мовы. У выніку яе працы былі падрыхтаваны да друку «Акадэмічны слоўнік жывой беларускай мовы», краёвыя слоўнікі «Віцебшчына», «Магілёўшчына», «Аршаншчына», «Міншчына», «Мазыршчына».**

25 ліпеня 1924 года ЦВК і СНК БССР зацвердзілі «Палажэнне аб Інстытуце беларускай культуры», згодна якому Інбелкульт быў вызначаны як вышэйшая дзяржаўная навуковая ўстанова рэспублікі, якая ўваходзіць у склад Наркамасветы БССР. Інбелкульту было прадастаўлена права адчыняць музеі, бібліятэкі, архівы, склікаць навуковыя канферэнцыі, з'езды, ладзіць экспедыцыі і г. д. Археалагічныя раскопкі ў межах БССР маглі праводзіцца толькі з дазволу Інстытута беларускай культуры. Па пытаннях навукі і асветы Інбелкульту давалася права мець непасрэдныя зносіны з замежнымі краінамі, атрымліваць бяспошлінна замежную літаратуру і прыборы для навуковых даследаванняў.

Пытанні ўдасканалення дзейнасці Інстытута беларускай культуры ў лістападзе 1924 года разглядаліся на трэцяй сесіі ЦВК шостага склікання. Было прызнана мэтазгодным рэарганізаваць Інбелкульт у навуковую ўстанову тыпу Акадэміі навук. Старшынёй Інстытута беларускай культуры быў прызначаны вядомы вучоны-гісторык Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі з захаваннем за ім пасады наркома асветы БССР.

У лютым 1925 года была створана літаратурная секцыя Інбелкульта ў складзе 40 чалавек. Яе старшынёй стаў Цішка Гартны, сакратаром — Змітрок Бядуля, а намеснікам старшыні — літаратуразнаўца Міхась Піятуховіч.

Праз месяц была арганізавана камісія па выданні твораў беларускай літаратуры на чале з вядомым літаратуразнаўцам, прафесарам Беларускага дзяржаўнага універсітэта Іванам Іванавічам Замоціным. Менавіта пад яго кіраўніцтвам было

**Не звярынай слязой,**
**а святой, чалавечай**
**Плакаў той, кім палохаюць**
**людзі дзяцей.**

Увогуле гэты эстэтычны прыём, у літаратуразнаўчай навуцы не асэнсаваны да канца, хоць і мае глыбінныя фальклорныя карані, — адухаўленне, «ачалавечванне» жывёлы, ці, дакладней, спроба зазірнуць у яе псіхалогію, зразумець яе светаадчуванне, — сёння спрацоўвае ў літаратуры безумоўна (ваўчыца Акбара ў Ч. Айтматава, Джукі ў І. Пташнікава). Відаць, наспела ў чалавецтва прага еднасці з усім жывым светам, надакучыла поза гаспадара, пячэ ўсвядомленая віна. І боль свой хочацца падзяліць з усёй прыродай, хоць ад гэтага ён толькі пабольшае...

Чорна-белыя кантрасты паэмы ўзмацняюцца яшчэ адным удалым мастацкім прыёмам: эпіграфамі з народных песень. Пра кожны з іх можна было б гаварыць падрабязна, бо ўсе надзвычай трапныя. Раздзел «Пераліванне крыві» папярэджвае радок: «Кроў — не вада, разліці шкада». «Ой ты, воран чорны...» — эпіграф-характарыстыка да горкага расказу пра марадзёраў. Ласкавай просьбай «Абуй чаравічкі, перапёлачка, абуй чаравічкі, маладзенькая» пачынаецца раздзел пра палескіх дзяўчатак, будучыня якіх атручана чарнобыльскім пылам. Кантраст пяшчотных, плынных і спакойных радкоў песень і трагічна-дынамічнага зместу паэмы нараджае яе своеасаблівае ідэйна-эстэтычнае ўздзеянне.

**Маўчыць,**
**нібы камень,**
**зямля,**
**Палын невядомасцю свеціць...**
**Што будзе,**
**што будзе пасля? —**
**Не скажа ніхто ў гэтым свеце.**

Мы ўсё жывём паблізу Чарнобыля... Здаецца, гэтыя словы ўжо не належаць іх аўтару, доктару Гейлу. На вершах зборніка «Заклінанне» таксама водбліск палыновай зоркі, і хочаш таго ці не, ёй высвечваюцца і іх вартасці, і недахопы. У многіх вершах ёсць тое адчуванне ўнутранага дыскамфорту асобы, якое спараджае грамадзянскую страснасць і значнасць слова:

**Беларусь!**
**Словам праўды**
**сляпых, безгалосых,**
**Неразумных сыноў і дачок**
**наталі.**
**Хай душа затрымціць,**
**нібы дзятлінка ў росах,**
**І тады пасвятлее на роднай**
**зямлі.**
**(«Слова пра годнасць»)**

Трымціць, ірвецца ўвесь час вершаваны радок, нібы трывожная лінія сэрца. Такое ўменне «трымаць тон» — адна з лепшых і сталых якасцей паэзіі С. Законнікава.

Трывожнай памяццю і горкай праекцыяй на сённяшні (а мо й на будучы) дзень пазначаны вершы, прысвечаныя памяці сталінскіх ахвяр («Наган», трыпціх «Лесапавал»). Жудасная машына «чалавекапавалу» паглынула дзядзьку С. Законнікава, паэта Сяргея Ракіту. Цень гэтай, асабліва дарагой, і іншых, «нікім не лічаных ахвяр», прымушае аўтара звяртацца да сучаснікаў:

**Мой грэшны свет!**
**Жыві іначай,**
**Не зганьбі новую зару...**
**А я над пайкай праўды плачу,**
**З самім сабою гавару.**

Прага праўды, не метафарычна-дакладнай «пайкі», а поўнай — адна з вызначальных якасцей грамадзянскай пазіцыі паэта. І не таму, што слова гэтае паўтараецца ў яго вершах бясконца (так яно можа і выцвісці), а таму, што С. Законнікаў разумее: праўда для сённяшняй паэзіі — першая па значнасці каштоўнасць.

У зборніку адчувальны пошук духоўных арыенціраў: Купала, Колас, Шаўчэнка, Пушкін, Караткевіч... Як знак такога пошуку і яшчэ як сведчанне пісьменніцкай сталасці ўспрымаюцца і пераклады з украінскай паэзіі: Т. Шаўчэнкі, В. Сіманенкі, Р. Лубкіўскага. Знамянальна, што С. Законнікаў знаходзіць у творах украінскіх братоў тое, што сугучна нашаму сённяшняму дню, і найперш — сцвярджэнне нацыянальнай свядомасці, гістарычную памяць. І яшчэ тое трагічнае, што аб'ядноўвае:

**Мо таму**
**сэрца з сэрцам**
**спагадней гаворыць,**
**Што аднолькава стыне**
**на вуснах у нас**
**Непазбытай бяды**
**палыновая горыч...**

Водбліск бяды бачыцца і ў з'яўленні не вельмі ўласцівых ранейшай паэзіі С. Законнікава філасофскіх матываў жыцця і смерці. («Ніколі гэты свет не дакарай...», «Над вечным сном...»). Некаторыя радкі гучаць афарыстычна:

**Жыццё,**
**як свята,**
**адзначаем разам,**
**А паміраем—толькі па адным.**

Побач з такой паэзіяй зусім не хацелася б бачыць дэкларатыўна - рытарычных абвінавачванняў знешнім атрыбутам мяшчанства («Пра надзённае», «А праўда верх бярэ ўсё роўна...»), драбнатэм'я («Паперы»), легкаважных «Паклонаў братэрству». Калі чытаеш радкі, падобныя да такіх: «Не хоча раздабрэлы дзядзя вымаць з карыта прагны лыч», калі зноў і зноў С. Законнікаў абураецца на «племя незлічоных трутняў», «бюракратаў, прыстасаванцаў, торбахватаў», што гатовы прыгасіць «праўды ленінскай прамень», то міжволі згадваеш вершы П. Панчанкі. Навошта ж паўтараць тое, што ўжо сказана, і часам не вельмі эстэтычна перараканальна, старэйшым настаўнікам? Інерцыя мыслення адчуваецца ў некаторых вершах С. Законнікава, і тады побач з дэкаратыўнымі «зорнымі дажджамі» і «спелымі калінамі» з'яўляюцца такія вобразы старых часоў, якія паэту, думаю, хацелася б паправіць ужо сёння, не чакаючы двухтомніка «Выбранага».

І ўвогуле на выкрывальны пал С. Законнікава (асабліва наконт «яркіх чужых апранах» і «балдзення пад «рок») у мяне рэакцыя стомлена-філасофская: «Не было б большай бяды». Тым больш, што бяда была і ёсць... І пад яе цяжарам увесь цыкл вершаў «Сакрэт» толькі трошкі зрушвае з месца тую шалю вагаў, на якой — паэма «Чорная быль».

**Вольга РУСІЛКА.**

г. Віцебск.

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ПТАШНІКАЎСКАЯ ТРЫЛОГІЯ




**Прадстаўляючы чытачам гэтую новую кнігу Івана Пташнікава (яе выдавецтва «Юнацтва» адрасуе найперш школьнікам), з прыемнасцю прыгадваю, што ў свой час асобныя з апавяданняў, сабраных тут, упершыню пабачылі свет на старонках «ЛіМа».**

**Вось апавяданне «Эфка». Яно было надрукавана ў штотыднёвіку ў 1983 годзе. Часу прайшло нямала, але ўражанне ад гэтага пташнікаўскага твора не забываецца. Памятаецца, як на рэдакцыйнай лятучцы ўсе мы ў адзін голас зазначалі: каб такіх апавяданняў паболей, глядзіш і тыраж газеты ўзняўся б. Не будзем забываць, што тады «ЛіМ» марыў «пераўзысці» трынаццацітысячны рубеж.**

**Апавяданне і сапраўды прагучала. Многія пісьменнікі і да І. Пташнікава (і пасля яго) звярталіся да паказу пасляваеннага галоднага і халоднага безбацькоўскага маленства. Ды нямногія гэта зрабілі так, як І. Пташнікаў. Слушную ацэнку гэтаму твору даў С. Андраюк: «Расказ пра пасляваенных дзяцей, якія гуляюць са зброяй, патронамі і гранатамі (з'ява для тых часоў самая звычайная), набыў вялікай сілы трагічнае абагульненне. Кожным сваім радком, які, як заўсёды ў гэтага пісьменніка, моцна насычаны рэальным жыццём і эмацыянальным зместам, твор гэты скіраваны супраць вайны, хоць адкрыта публіцыстычна нідзе пра гэта не гаворыцца, хоць вінаватых дарослых у трагічнай смерці быццам і няма».**

**Вобраз галоўнага персанажа Толі Вайды, дванаццацігадовага хлопчыка—вобраз здзіўляючага трагічнага напаўнення. Вайна заўсёды абуджала ў чалавека, нават у сталага, бруднае, нізкае. Як жа калечыла яна дзіцячыя душы! У тым, што Толя Вайда стаў злачынцам, вінавата найперш вайна. Але ці толькі вайна? Іншыя ж дзеці не сталі жорсткімі і бесчалавечнымі, хоць і выхоўваліся, раслі ў аднолькавых умовах. Кожнаму чытачу самому шукаць адказ на гэтыя няпростыя пытанні, якія жыццё ставіць перад кожным новым пакаленнем нанава.**

**Жорсткасць і чалавечнасць, зло і дабро—гэтыя пытанні на іншым матэрыяле вырашаюцца і яшчэ ў двух «лімаўскіх» апавяданнях І. Пташнікава. «Арцыбал»—гісторыя мядзведзя, якога людзі прыручылі, а пасля, калі ён стаў непатрэбны, кінулі на волю лёсу. А Экзюперы казаў прыкладна так: кожны павінен несці адказнасць за таго, каго ён у свой час прыручыў. Гэтая думка, выказаная па-пташнікаўску глыбока, псіхалагічна пераканаўча, і праходзіць праз апавяданне.**

**І нарэшце — апавяданне «Львы». Яно, можна сказаць, з нядаўніх твораў І. Пташнікава: у «ЛіМе» было надрукавана ўсяго некалькі гадоў назад. Яно пра тое, што нясе чалавецтву Чарнобыль. Яно пра людскія беды і адначасова пра беды ўсяго жывога на зямлі. Баліць сэрца, калі чытаеш апавяданне, халадзее душа. Чалавек, які павінен змагацца за жыццё, па-варварску разбурае яго.**

**Шмат і іншых апавяданняў у новай кнізе І. Пташнікава, але позірк запыняецца найперш на гэтых трох творах. Скажу нават так: разам узятыя, яны лучацца ў своеасаблівую трылогію: «Эфка», «Арцыбал», «Львы». Трылогія з трох апавяданняў? Ці было такое ў літаратуры! Здаецца, не было. І не толькі ў беларускай...**

**А. М.**

здзейснена навуковае выданне твораў Максіма Багдановіча і Алеся Гаруна, пачалася падрыхтоўка да друку твораў Цёткі. У 1927 годзе былі апублікаваны працы таленавітага літаратуразнаўцы Яўгена Іванавіча Барычэўскага «Паэтыка літаратурных жанраў» і «Тэорыя санету». У 1928 годзе выйшла ў свет кніга М. Піятуховіча «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры».

Над укладаннем «Акадэмічнага слоўніка жывой беларускай мовы» працавала спецыяльная камісія, заснаваная 5 лютага 1925 года. Старшынёй камісіі быў прызначаны С. Некрашэвіч, а сакратаром — М. Байкоў.

**Сцяпан Міхайлавіч адразу ж вызначыў і тэарэтычна абгрунтаваў тып памянёнага слоўніка, крыніцы лексічнага матэрыялу, метады яго збірання і нават структуру слоўнікавых артыкулаў. Вучоны акцэнтаваў увагу на наступныя крыніцы лексічнага матэрыялу для слоўніка жывой беларускай мовы: народную мову, прадстаўленую яе гаворкамі і лепшымі фальклорнымі запісамі; літаратурную мову; папярэднія лексікаграфічныя працы-слоўнікі І. Насовіча, М. Федароўскага, П. Шпілеўскага, часткова У. Дабравольскага і Я. Ціхінскага.**

**Камісія па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы планавала сабраць неабходны лексічны матэрыял з трох названых крыніц не раней чым за тры гады. Але колькасць супрацоўнікаў камісіі была невялікай, і С. Некрашэвіч прапанаваў звярнуцца па дапамогу да шырокай грамадскасці рэспублікі. Ён адзначыў, што студэнты вышэйшых навучальных устаноў могуць дапамагчы камісіі, выпісваючы словы з мастацкай літаратуры і перыядычнага друку, а мясцовыя краязнаўцы, якіх, дарэчы, тады ў Беларусі налічвалася каля 10 тысяч, змогуць прыняць удзел у збіранні народнай лексікі. Па ініцыятыве С. Некрашэвіча камісія распрацавала і выслала ўсім краязнаўчым арганізацыям і найбольш актыўным працаўнікам культурнага фронту спецыяльныя інструкцыі.**

**Заклік С. Некрашэвіча знайшоў шырокі водгук сярод насельніцтва нашай рэспублікі. У работу па збіранні народнай і літаратурнай лексікі ўключыліся тысячы людзей розных узростаў і роду заняткаў—настаўнікі, сяляне, рабочыя, урачы, студэнты і нават вучні. К канцу 1927 года картатэка слоўніка жывой беларускай мовы налічвала звыш 400 000 картак-слоў. Члены камісіі пад кіраўніцтвам дырэктара камісіі Інбелкульта па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы Б. Эпімах-Шыпілы ўважліва праверылі і сістэматызавалі прысланыя карткі-словы. Прыгоднымі з іх былі прызнаны 382 047, у тым ліку: з гаворак — 148 490, з мастацкіх твораў, перыядычнага друку і фальклорных запісаў — 157 933, з папярэдніх лексікаграфічных прац — 75 624.**

Плённую навуковую дзейнасць праводзіла секцыя мастацтва Інстытута беларускай культуры, якую ўзначальваў Я. Дыла. Па ініцыятыве гэтай секцыі ў 1925 годзе ў Менску была праведзена першая Усебеларуская мастацкая выстава. З зімы 1925 года ў Менску пачаў выходзіць часопіс «Трыбуна мастацтва». Секцыя беларускага мастацтва падрыхтавала пераклады на беларускую мову такіх твораў, як «Антыгона» Сафокла, «Вакханкі» Эўрыпіда, «Віндзорскія гарэзніцы» Шэкспіра.

Пачэснае месца ў гісторыі Інстытута беларускай культуры належыць таленавітаму даследчыку гісторыі беларускага мастацтва, выкладчыку Беларускага дзяржаўнага універсітэта Міколу Шчакаціхіну. Спачатку ён быў сакратаром секцыі мастацтва, а ў 1925 годзе быў прызначаны стылістам навуковых выданняў Інбелкульта, якія выходзілі на беларускай мове.

Значных поспехаў дасягнула секцыя прыкладнога мастацтва. У пачатку 1926 года яна была перайменавана ў Камісію па гісторыі мастацтва. Старшынёй камісіі стаў Мікола Шчакаціхін, а сакратаром — Алесь Шлюбскі. Камісія па гісторыі мастацтва складалася з вядомых гісторыкаў-беларусазнаўцаў, творцаў-мастакоў, знаўцаў беларускіх старадаўнасцей, што працавалі на перыферыі, а таксама тых рускіх вучоных, якія сваімі навуковымі інтарэсамі былі так ці інакш звязаны з Беларуссю. У 1928 г. аддзел гуманітарных навук Інбелкульта выпусціў у свет першы том прац Камісіі па гісторыі мастацтва, што стала значнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі.

Сакратаром літаратурнай камісіі Інстытута беларускай культуры працаваў Язэп Пушча, інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства — Алесь Дудар, членам літаратурнай камісіі — Міхась Дуброўскі, стылістычным рэдактарам выдавецкага аддзела Інбелкульта — Кузьма Чорны, сакратаром правапіснай камісіі — Алесь Гурло. Змітрок Бядуля быў галоўным рэдактарам часопіса «Наш край», які пачаў выходзіць з кастрычніка 1925 г.

Работа ў Інстытуце беларускай культуры была значнай вяхой на жыццёвым шляху выдатнага беларускага пісьменніка, класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Пасля прыезду ў Мінск у кастрычніку 1923 г. ён быў запрошаны на працу ў тэрміналагічную камісію Інбелкульта. Тут яму давялося працаваць сумесна з Я. Купалам і Я. Коласам. Разам з М. Байковым М. Гарэцкі прыняў актыўны ўдзел у рабоце слоўнікавай камісіі Інстытута беларускай культуры. Ужо ў 1924 г. выходзіць у свет «Практычны расійска-беларускі слоўнік», аўтарамі якога былі М. Байкоў і М. Гарэцкі.

А праз год М. Гарэцкі быў выбраны правадзейным членам Інбелкульта. Згодна пастанове прэзідыума Інстытута беларускай культуры ад 9 лютага 1925 г. ён прызначаецца загадчыкам секцыі мовазнаўства і літаратуры, а пасля становіцца навуковым сакратаром літаратурнай камісіі.

У лістападзе 1926 г. М. Гарэцкі выступае на акадэмічнай канферэнцыі па рэформе правапісу і азбукі з дакладам на тэму «Нашаніўскі перыяд у беларускай літаратуры».

2 кастрычніка 1928 г. Максім Іванавіч быў прызначаны вучоным спецыялістам Інстытута навуковае мовы Інстытута беларускай культуры. Ён удзельнічае ў складанні літаратурнай энцыклапедыі.

Кандрат Крапіва быў сакратаром прыродазнаўчай секцыі Інбелкульта і членам Цэнтральнага бюро краязнаўства.

Міжволі паўстае пытанне: што азначала праца ў Інбелкульце для саміх беларускіх пісьменнікаў? Вось што пісаў 4 лістапада 1924 года ў газеце «Савецкая Беларусь» Янка Купала: «Працуючы ў Інстытуце беларускай культуры некалькі год, я пераканаўся, што гэта такая навукова-грамадская ўстанова, без якой нармальнае развіццё беларускай культуры немагчыма. Інбелкульт з'яўляецца тым цэнтрам, вакол якога аб'яднаны ледзь не ўсе лепшыя беларускія навуковыя і літаратурныя працаўнікі, якія прыносілі і асабліва цяпер — у сувязі з беларусізацыяй — прыносяць незаменную карысць, праводзячы ў шырокія беларускія масы культурна-асветныя заданні Савецкай улады».

13 кастрычніка 1928 г. была прынята пастанова ЦВК і СНК БССР аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую Акадэмію навук, а 26 снежня 1928 г. урад рэспублікі зацвердзіў Статут і Прэзідыум Беларускай Акадэміі навук. Знамянальна, што першым прэзідэнтам акадэміі стаў адзін з ініцыятараў стварэння і арганізатараў Інбелкульта, яго старшыня ў 1924 — 1928 гадах У. Ігнатоўскі. А віцэ-прэзідэнтам Беларускай Акадэміі навук быў зацверджаны першы старшыня Інстытута беларускай культуры С. Некрашэвіч.

І хіба можна прымірыцца з тым, што каля 90 працэнтаў правадзейных членаў, карэспандэнтаў і навуковых супрацоўнікаў Інбелкульта сталі ахвярамі неабгрунтаваных, незаконных рэпрэсій 30-х — пачатку 50-х гадоў, што пераважная іх большасць была расстраляна. 4 лютага 1931 г. пасля допытаў у АДПУ БССР скончыў жыццё самагубствам Усевалад Ігнатоўскі. 20 снежня 1937 г. у Менску быў расстраляны Сцяпан Некрашэвіч...

У апошнія гады адбылася поўная рэабілітацыя лепшых прадстаўнікоў беларускай навукі і культуры, чыя дзейнасць была звязана з Інбелкультам. Мы схіляем галовы перад іх памяццю і спадзяёмся, што народ незалежнай Рэспублікі ўвекавечыць імёны актыўных працаўнікоў Інстытута беларускай культуры, якія ўнеслі вялікі ўклад у беларускую навуку і культуру.

**Эмануіл ІОФЕ,**
**дацэнт Мінскага педінстытута,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



●

Высокай готыкай душы
Атуліць нас маўклівы ранак,
Тут я — падранак, ты — падранак,
Мы ў гэтым быццам спарышы.

Пад неба панясе арган
Памкненні нашы і трывогі.
І пакручастыя дарогі
Праб'юцца праз тугі дзірван.

І ўсё. У храме цішыня.
І ў свеце ціш. Самота. Згода.
І недасяжная свабода
Хаваецца з прыходам дня.

●

Мурашы, іглiца, ціхі бор
І чарговы круг сонцазвароту...
У рабоце вечная прырода,
Дзе імгненне толькі мы з табой.

Гэты дзень — маленечкі фрагмент,
Толькі нота вечнай песні песняў.
І няхай увагай нас не песцяць
Час і лёс: ідзе эксперымент.

І гатова ў кожны новы век
Гэтае імгненне пераліцца:
Мурашы і ціхі бор, іглiца,
І сляза-расінка на траве.

●

Маленькі крыжык захаваў
Надзеі, адзіноту, веру...
Вакол зачыненыя дзверы
І роспачы дзевяты вал.

Сярод раз'юшаных стыхій
Як востраў, светлы і жаданы,
Нібыта ў далечы туманнай
Твае дзіцячыя грахі.

І ў грозны час, і ў грозны год
Сагрэе ён і абароніць.
Нестаймаваны, як агонь,
І цёплы, як твае далоні.

●

Такая музыка была,
Такім павеяла спакоем,
Што быццам цёплага крыла
Цяжар адчуў я за спіною.

І цішынёй гусцела ноч,
Сама самотная як восень.
Ці гэта ўсё было са мной,
Ці гэта мне цяпер здалося!..

●

Абрысы храма ў тумане густым —
Бы нейкі знак ці сімвал невядомы.
Плыве рака, плыве пад гордай стромай.
А ты ізноў на беразе не тым.

Хутчэй у човен! На світальны плёс
Кідай з надзеяй позірк вінаваты.
Тут пахне маладосцю. Дым над хатай
Паўзе ў напрамку сцішаных бяроз.

Давай руку! Ты чуеш, як вада
Цурчыць, бы вечнай песні адгалоскі.
Абрысы храма, гарады і вёскі
За намі моўчкі крочаць па слядах.

### Дзіўнае святло

*А. КАНАВАЛАВУ.*

Шызае, бы голуба крыло,
Уплыве ў мой дом аднойчы ранне.
І тугое дзіўнае святло
На хвіліну над зямлёй паўстане.

Хто яго захоча разгадаць,
Супыніць з надзеяю і верай,
Захаваць, каб потым перадаць
На душу, палотны ці паперу!

Толькі б яно міма не прайшло,
Не прынёсшы смех, пяшчоту, слёзы!..
Так мы і чакаем, каб святло
Зноў уладна узышло над лёсам.

●

Нашы горкія застоллі, наша таннае віно,
Нашы доўгія размовы
аб святым і набалелым...
І хоць ёсць нібыта сілы,
ды старціліся даўно
Са сваім змагацца болем
мы ў адчаі анямелым.

Разбрыдуцца позна госці.
Моўчкі выключу святло.
Лоб гарачы толькі шыба мне
халодная астудзіць.
І падасца, што на свеце ўсё было
і ўсё прайшло.
І ўсе мроі згаслі цалкам. І нічога
ўжо не будзе.

Ды назаўтра прыйдзе ранак. Трэба
хату прыбіраць,
Трэба рэшткі даўняй моцы адшукаць
у целе кволым.
І ў смузе заўважыць раптам, як
нясмелая зара
Паўстае, бы сцяг надзеі над асеннім
полем голым.

●

Як у бездань весела імчаць,
З грукатам і песнямі чужымі,
З модным камянём на тонкай шыі,
З продкамі, што за спіной маўчаць.

Як у бездань весела скакаць!..

## Яўген ХВАЛЕЙ



●

Падае, падае снег
белы ў забруджанай зоне...
Чорны, нябачны знутры,
і памірае ў агоніі...

Ім бы, сняжынкам, ляцець,
быццам анёлам крылатым...
Як пракажоныя,
пры канцы
веку дваццатага.

Рану зацісну ў душы...
Белае — чорнае,
чорнае — белае...
Гэта ж калі мы маглі
ў гэтыя словы паверыць!

Ноччу з'явяцца ў сне
продкі з Адамам і Евай,
плюнуць са злосцю на снег,
пойдуць пад райскія дрэвы...

Нам жа пакінуць праклён:
«Вечна ў смале вам варыцца...»
Будуць над свечкамі ў раі
за нашых
нашчадкаў маліцца...

●

Мне насвішча сіротка-сініца
у зімовым храме лясным,
напяе булькатаннем крыніца
і падкажа пошум сасны
словы даўнія,
словы бабчыны,
словы продкаў далёкіх маіх,
што даўно суайчыннікам страчаны
па дарозе ў казачны міф...
Загучыць у душы
**АКАРЫНА** —
пракаветны абудзіцца век...
Справядлівасці сімвал —
**ТУРЫНЫ**
**РОГ**
напомніць, што повязь жыве
з маім прашчурам,
шчырнікам, рупнікам,
быў ён **РЫМАР, БОНДАР, МЛЫНАР,
ПЛЫТАГОНАМ,
СПЛАЎШЧЫКАМ-РУМНІКАМ,
ЦЕСЛЯ, БОРТНІК, КАВАЛЬ І ПЛУГАР...**
Не жадаў ён музыкі многа —
**СКРЫПКУ, ГУСЛІ, ЖАЛЕЙКУ, ДУДУ...**
І на **ЮТРАНЬ** хадзіў, як да Бога,
спавядацца нашча ў царкву...
...Мне насвішча сіротка-сініца,
напяе булькатаннем крыніца...

●

Прырода жыве незалежна ад нас...
(3 філасофскага выказвання).

Елка заснежаная
наструнёная ў неба
падобна на ракету на старце.
Сняжынка —
мікрапарашуцік
касмічнага апарата,
які спускаецца на Зямлю.
Рачулка выгінаецца
гадзюкаю штучнай,
металічна-бліскучай,
той,
што пужаюць жанчын і дзяцей.
Неба задымлена домнамі,
быццам у печы паднябенне.
У нетрах зямлі і лясоў
цэзій і стронцый —
злавесная невідзімка...

Жывеш незалежна ад нас,
Прырода!
Які там філосаф сказаў!
Пагляне:
якія параўнанні —
жалезна-залежныя...
Самохаць прыходзяць у верш...
А ты ўсё думаеш, што незалежная...

●

У адроджанай царкве
на Каляды
я свечкі дзве запаліў.
Гарэлі яны
ўваскрослымі позіркамі:
адна — бацькі,
другая — Бацькаўшчыны...

### Фрагмент слуцкіх паясоў

**РАНДЭЛЬ**

Фрагменты слуцкіх паясоў
Трымаю на далонях:
Валошкі з роднага улоння
Між промняў-каласоў —
Пазт, уражаны красой,
Навекі ёю быў палонен.
Фрагменты слуцкіх паясоў
Трымаю на далонях —
Нібыта лёс забытых слоў,
Суквецця, сугалосся...
Імгненні светлыя часоў —
Фрагменты слуцкіх паясоў.



Фота В. МАЙСЮКА.

*Алесю НАВАРЫЧУ*

> І кніжная навука, і замежныя рамы агорклі мне.
>
> Браце, я жыць спяшаўся, я пачуццямі падганяў сябе — я згубіўся.
>
> Міхась СТРАЛЬЦОЎ.

ЗДАРЫЛАСЯ так, што літаратар страціў веру ў свой талент. Пачуццё гэтае працяла яго. Жыццё ўмомант перакулілася. Тое, што ўчора яшчэ мела вялікі сэнс, сёння страціла яго ўвогуле.

На стале каторы ўжо дзень ляжала нячытанай першая ў ягонай літаратурнай біяграфіі маскоўская карэктура, якую прасілі неадкладна прагледзець і выслаць.

Кожны ранак пачынаўся цяпер з таго, што, яшчэ не ўзняўшыся з ложка, літаратар тупа, з нудою глядзеў на гэтую карэктуру, не разумеючы, чаму гэта ён не сеў яшчэ за працу, ахоплены шчымлівай радасцю блізкае важкае публікацыі.

Не ўдавалася нават прымусіць сябе хоць бы адаслаць карэктуру назад, распісаўшыся не чытаючы. Трэба было для пачатку знайсці вялікі канверт, а душэўных сіл нават на гэта не было ўжо ніякіх. Карэктура здавалася літаратару нікчэмнай і непатрэбнай — ні яму самому, ні, тым больш, некаму іншаму, апрача хіба што выдавецтва ў «першапрастольнай», асуджанага выконваць план па нярускіх літаратурах.

Дзень літаратар бавіў у горадзе. Бадзяўся па вуліцах, сядзеў у шынках, кавярнях, снудаўся ля ракі. Чамусьці асабліва прыцягвала вада. Бедалага, як мог, дзе б ні быў, пазбягаў братоў па літарацкай гільдыі. Ды нідзе не знаходзіў спакою: думка аб нечаканым бяссіллі неадступна кралася за ім, быццам драпежнік па следзе сваёй ахвяры, і дабівала яго, бязлітасна пазбаўляючы волі і прагі барацьбы.

І ўставаў ён ужо, каб зноў выйсці на кругі сваіх пакутаў, задужа позна нават па самых паблажлівых мерках. Ягоны ранак цяпер толькі ўмоўна можна было назваць ранкам, бо прачынаўся літаратар апоўдні, так агарнула яго летаргія, так прыгнечаны быў ягоны колісь надзіва бадзёры дух. Літаратару не хацелася прачынацца. Ён толькі змушаны быў гэта рабіць, бо такі ўжо заведзены ў свеце парадак: зноў і зноў уставаць і некуды рушыць, — а ўсё, што паўстае супраць гэтае неадменнасці, на думку большасці, непазбежна падлягае смерці.

Непрыкаянасць была жудасная. Так не магло доўжыцца бясконца. Трэба было пачынаць нешта рабіць.

Толькі як пачаць, калі душа такая хворая, што ні да чаго ўжо не хінецца.

Гарэлка не ратавала — аглушала назаўтра яшчэ больш.

Літаратару і раней здаралася бадзяцца, і піць, вядома, таксама, у пошуках страчанага, так бы мовіць, натхнення, або, найчасцей, у роздуме, у прыглядзе, як ён любіў казаць, да існавання — ён заўсёды імкнуўся жыць **натуральна**, а не ў літарацка-алхімніцкай прабірцы.

Але так моцна з каляіны сваёй літаратар яшчэ і блізка ніколі не выбіваўся.

Жыццё здавалася яму безнадзейна сапсаваным.

«Я осознал свой предел». Гэта быў адзіны радок, запісаны ім за ўвесь гэты, думалася яму, пошасны час, запісаны, вынашаны чамусьці па-расейску.

Бралася літаратару ўжо пад трыццаць сем.

Усе сілы і самыя дарагія, маладыя гады ён аддаў на тое, каб дасягнуць становішча, якім так ганарыўся яшчэ нядаўна і якое прыносіла яму цяпер адну пакуту.

У сваёй набытай некалі прафесіі інжынера ён быў цяпер ніхто.

Аднак не гэта палохала літаратара, калі падумваў ён знячэўку пра вяртанне да колішняга жыцця. Ён баяўся прызнаць сваё паражэнне, і перадусім таму, што не яму аднаму помнілася, як упарта змагаўся ён на шляху, сярод якога спыніўся цяпер так недарэчна.

Сярод большасці спадарожнікаў свайго далітарацкага жыцця ён зрабіўся сапраўдным жывым паданнем: «наш хлопец», які здолеў нібыта вырвацца з кола людзей звычайных і займеў адметны занятак — выгодны і варты ўвагі астатніх.



Алесь Асташонак

# Пошасны час

*Літарацкая показка*

Ніхто з іх не мог не спяшацца ўранку на працу, нікому і ў марах не выпадала быць гаспадаром свайго часу.

А ён, такі, як на першы погляд, падобны да іх, прызвычаіўся да сваіх тыражаваных выяваў і думак дыназіранняў, прапанаваных людзям як пэўны ўзор спасціжэння жыцця, мог уставаць, калі ўставалася, бавіць, як хацелася, дні — і ўсё толькі таму, што быў чалавекам вольнае, так бы мовіць, прафесіі, у якой ужо нечага дабіўся, адносна незалежным і хлебам збольшага забяспечаным.

І якіясьці словы пра пакуты цяжкай, часта проста валовай, нуднай, а то і сізіфавай літарацкай працы адно рассмяшылі б любога зайздросніка.

Словам, багата хто са знаёмых літаратара, не думаючы, прамяняў бы свой лёс на ягоны.

Літаратар і сам зусім яшчэ нядаўна не аддаў бы нікому свайго лёсу.

Ён любіў у літарацкім жыцці не толькі свой нялёгкі занятак. Дужа прыйшоўся яму даспадобы і вонкавы бок гэтага жыцця.

О, як цешыўся ён, выразаючы з газет ды часопісаў, літарацкіх і нелітарацкіх, крытычныя опусы з успамінамі свайго прозвішча — мілы сэрцу збор пульхнеў на вачах, а колькасць згадак цёплых, якія літаратар падкрэсліваў жыццярадасным чырвоным колерам, відавочна перавышала жменьку нешматлікіх гаркавых, пазначаных чорным.

Трэба заўважыць: літаратар збіраў усё, што пісалася пра яго, незалежна ад зместу, і не цешыў сябе марнай надзеяй схаваць ад пільных вачэй нашчадкаў ганьбу свайго імя.

Пра нашчадкаў літаратар калі-нікалі ўсё ж такі думаў.

Таму, мабыць, і захоўваў лісты, дасланыя яму калегамі, не рашаючыся забыцца на гэтыя пасланні, як на пясчынкі маленькіх думак і перажыванняў у магутным патоку вечнасці, хваляроэзы якое перапыняць па дарозе ў паслязаўтрашні дзень і не такія паведамленні ды споведзі.

А як прыемна было яму наведваць розныя літарацкія сходкі, задаволена адчуваць сваю прыналежнасць да гэтага кола ветлівых, пачцівых, зычлівых, самавітых ды годных людзей, з якіх яму многія і праўда былі вельмі прыязныя, бо ўсё-такі злучала іх, такіх розных і непадобных, самаахвяраванне аднаму агульнаму Богу — **Праўдзе, у Слове выказанай.**

Літаратар не надта часта задумваўся над тым, што багата хто з гэтых людзей даўно ўжо зусім не таму Богу служыць, хоць і мяркуе наіўна, аслепнуўшы душою, патопленай у самалюбстве, што нічога ў ёй з тае пары, як яны свята паверылі ў сілу надрукаванае думкі, і не змянілася. Ды ўсё ж боскі той чалавек, што верыць.

Былі на гэтых сходках і такія, што даўно ўжо служылі іншым багам свядома і адкрыта, аднак гэтых можна было лёгка прыкмеціць, і на іх літаратар не вельмі зважаў — яны хіба што крыху псавалі свята далучанасці ды прыналежнасці.

Прыемна было літаратару размаўляць на сходках гэтых дый іншых сустрэчах з калегамі не толькі на сапраўды каставыя тэмы, але і ўведваць таямніцы літарацкага свету, вялікія і малыя, хоць нішто ў гэтым свеце, мусіць, не ляжала дужа далёка ад паверхні, бо было праз доўгі язык таго ці іншага чалавека заўсёды навідавоку. Хвалявалі яго так ці інакш і змены ў выдавецкіх ды гільдзейскіх радах, шарэнгах, пазіцыях, і ўсплёскі ў няспыннае барацьбе розных неабвешчаных згуртаванняў, і хітрамудрыя хады парушальнікаў спакою, асмялелых або перапоўненых уласнай самабытнасцю, што кідалі выклік звыкламу ладу, іншы раз дзеля таго аднаго, каб закаламуціць спярша плынь, а ўрэшце ўсплыць ціхамірна бліжэй да вярхоўя.

Вядома, літаратар пагарджаў гэтай валтузнёю ды калатнечаю, аднак не гідзіўся ёю цікавіцца: як ні дзіўна, ды ён і тут перажываў вышэйпамянёнае свята далучанасці-прыналежнасці.

«А дзеля чаго ўсё гэта? — паўстала раптам пытанне. — **Ці не пагоня гэта за ветрам?»**

Нарэшце, літаратар усвядоміў раптам кволасць сваіх радкоў у параўнанні з тымі, на якія раўняўся, калі пачынаў прабівацца ў касту.

Праўда, літаратар і раней не надта каб верыў хоць бы ў прыблізную адпаведнасць сваіх пісанняў вялікім узорам. Але да гэтае пары ён ніколі не супрацьпастаўляў так востра сваё слова іхняму.

**«Дык навошта ж тады я гэтым займаюся?** — запыніўся літаратар. — Навошта, калі ёсць ужо той, той і той, нашмат глыбейшыя за мяне?.. Навошта зводзіць паперу, калі можна ахвяраваць яе на выданне аднае ў даўнюю даўніну напісанае Кнігі, якую можна чытаць ды перачытваць і так і не ўчытацца ў Яе як след, бо ж не хопіць на тое і ўсяго жыцця, колькі тую кнігу ні чытай?.. Навошта падманваць людзей і самога сябе, расстаўляючы па штучных сцэнах паўжывых персанажаў, народжаных розумам з выбоінамі невуцтва ды гузакамі страху — хоць і не вінаватыя мы ў тым, што нам далі — ці ўсё ж мы самі яе атрымалі? — такую адукацыю ды выхаванне?.. Навошта падсоўваць людзям, дзеля якіх, здавалася б, і жывеш (хоць пішаш дзеля Бога), грубыя цацкі кволае фантазіі замест даўно ўжо трывала прызнаных каштоўнасцяў Духу — гэта ж усё роўна як чапляць на каханую жанчыну самаробныя цацкі са шкла ад піўной пляшкі, калі пад рукою — россыпы дыяментаў?..

**Што ты шукаеш сабе ў лісьменніцтве?**

Сродак здабыць хлеба ды славы, часта падманлівай і імгненнай, ці горка-салодкую долю мужнага прапаведніка, які вызнае ісціну ў пакутных блуканнях на цяжкім шляху чалавека да Бога?..»

Так праходзілі дні і ночы літаратара, так праходзілі месяцы — у сне ды бадзянні, запоўненых неадступнымі балючымі пытаннямі, перапынялі якія адно туга ды абыякавасць.

«Няўжо я так і пайду з гэтага свету, нічога вартага пасля сябе не пакінуўшы, аніякага следу свайго існавання?.. Няўжо ніхто так і не даведаецца, як і чым я жыў, не параўнае перажытае мною са сваімі болем ды радасцю і не здзівіцца нашае блізкасці?.. Няўжо ні ў кім не адгукнецца душа мая рэхам і растане ў нябыце — быццам і не было мяне тут ніколі?.. Дзеля чаго ж тады трэба было займаць у свеце месца некага іншага — мажліва, больш годнага і людзям патрэбнага?.. Не, трэба проста набрацца мужнасці, — казаў ён сабе засынаючы, — і шукаць сілы ў безлічы новых радкоў — толькі так можна хоць трохі ступіць уперад... Але куды — уперад? — казаў ён сабе ўдзень, калі ўся зацятасць разбівалася аб адно невыразнае слова. — Трэба набрацца мужнасці, адкінуць самалюбства і скарыцца з тым, што табе выпаў лёс звычайнага чалавека...»

Браты па гільдыі заўважылі, што літаратар перастаў прыходзіць нават на самыя прадстаўнічыя сходкі. Сустракаючы яго дзе-небудзь у горадзе, у нязвыклым змрочным выглядзе, нярэдка на падпітку, яны дужа дзівіліся з жудаснае змены, што адбылася раптам у такім апантаным нядаўна яшчэ суродзічы. Пячатка жахлівае далёкасці ляжала на ягоным змарнелым твары. Яна ўмомант выдавала ў літаратары чужаніцу.

Адзін з братоў, белетрыст, западозрыў, што нешта яму таксама знаёмае. Белетрыст жах як баяўся гэтага стану і задушваў пакуль яшчэ не надта выразныя прыступы занядужання працаю. «Аніводнага дня без старонкі», — было ўжо ў ягоныя не такія і вялікія гады святым правілам.

Белетрыст завітаў у госці да літаратара.

Пасля доўгае размовы гаспадар вырашыўся паказаць таварышу тыя радкі, на якіх так жорстка дранцвела ягоная рука, далёка не самая слабая ў гільдыі.

— Не блазнуй, браце, — сказаў, учытаўшыся, белетрыст. — Працаваць трэба. Станок — і той іржавее.

— А хіба ж прастой у мастака... — пачаў быў літаратар.

— Глядзі, дастоішся. Вылеціш з гонкі, назад не проста будзе ўшчаміцца. Не з адным так было: як вынесла на паваротцы ў кювет, дык дагэтуль гукаюць не дагукаюцца, каб ізноў на шашу пусцілі. Па тратуарах шастаюць. А ходнікі гэтыя, сам ведаеш, — вузкія. У калатнечы надта не высунешся. Ну, а розныя там смерці Ільіча ты з галавы выкінь: нам за графам усё роўна не ўгнацца. Шаша цяпер не тая. У дзядзькі, што ні кажы, барскае было выхаванне.

Тут белетрыст на якую хвілю задумаўся. Ад пакутлівага сумнення на лобе ў яго пазначыліся зморшчыны, але ён хутка адагнаў нялюбы настрой.

— Ну, бывай, мне яшчэ папрацаваць сёння трэба. І ты працуй. Не марнуй часу. Нам яго небагата адпушчана.

— Дык навошта ж тады мне... — зноў пачаў быў літаратар.

— А каб не здарылася, што ты і мяне ўжо не дагоніш, — перапыніў яго белетрыст і знік, не жадаючы больш набірацца ваганняў.

Літаратар яшчэ доўга думаў, аднак страшна яму не зрабілася: за месяцы роспачы ён дайшоў да таго, што перастаў зайздросціць братам па гільдыі і нікога з іх даганяць ужо не збіраўся.

Збянтэжыўшы ўсіх, літаратар надоўга змоўк.

Нядаўна мы мелі мажлівасць прачытаць ягоныя выдатныя апавяданні. Можна сцвярджаць, што цяпер ён варты імя пісьменніка.

Белетрыст, ганаровы сябра многіх суполак, які стварыў ужо шэраг раманаў і прыступіў да эпапеі, пра што няраз абвяшчалі ва ўсіх друкаваных выданнях, шкадуе яго.

Праўда, мала хто са знаёмых літаратара чытаў ягоныя творы, як, зрэшты, і творы ягоных калег, што друкаваліся ў нешматлікіх, малараспаўсюджаных, «нярускіх» выданнях. (Думаючы пра гэта, літаратар суцяшаў сябе тым, што пішуць усё ж такі найперш дзеля Бога).

Але, як узяць гэтых спадарожнікаў, дык нічые больш фатаграфіі не змяшчаліся нават у гэтых выданнях. Нічые больш думкі пра тую ці іншую з'яву друк не цікавілі. Сёй-той яго ў гэтым свеце ведаў, не адны суседзі або таварышы з тае ці іншае жыццёвае пары.

ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ

## Восіп Гашкевіч— беларускі Адысей

**Чытачы ўжо звярнулі ўвагу на серыю «Нашы славутыя землякі», якую ў рэспубліцы выпускаюць два выдавецтвы — «Навука і тэхніка» і «Полымя». У ёй выходзяць кнігі, што знаёмяць з жыццём і дзейнасцю знакамітых (хоць, на жаль, часта амаль невядомых сёння) людзей Бацькаўшчыны розных часоў.**

**Да такіх належыць і Восіп Гашкевіч. У далёкай Японіі яго з гонарам згадае кожны культурны чалавек, а ў нас? Мо толькі сёй-той з нас прыпомніць, што нейкі Гашкевіч згадваецца ў вядомым «Фрэгаце «Палада» М. Ганчарова. Праўда, у даведніках пра Іосіфа Антонавіча сякія-такія звесткі ёсць, аднак іх не так і шмат, як таго б хацелася.**

**Куды болей ведае пра Гашкевіча кінадраматург і празаік Віталь Гузанаў, які яшчэ ў 1969 годзе ў выдавецтве «Беларусь» выдаў кнігу «Адысей з Белай Русі» — пра лёс чалавека, ганарыцца якім за гонар палічыла б любая нацыя. А ў 1993 годзе выдавецтва «Полымя» плануе выпусціць дапрацаваны і дапоўнены варыянт кнігі В. Гузанава, прытым на беларускай мове (пераклад зрабіў Янка Саламевіч).**

**Нядаўна В. Гузанаў у сувязі з падрыхтоўкай кнігі да друку (яна будзе мець назву амаль ранейшую — «Адысей з Беларусі») быў у Мінску. Ён ахвотна згадзіўся пагутарыць з карэспандэнтам «ЛіМа». Як высветлілася, В. Гузанаў да пераезду ў 1968 годзе ў Маскву быў членам сцэнарнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм», друкаваўся на старонках нашага штотыднёвіка. Значыць, яго зварот да жыцця Гашкевіча невыпадковы?**

**— Вядома, невыпадковы, — падхоплівае Віталь Рыгоравіч. — Прозвішча Гашкевіча цягнула мяне да сябе як магніт. З таго самага часу, калі я ўпершыню прачытаў пра нашага выдатнага земляка. Іосіф Антонавіч Гашкевіч — так яго імя і імя па бацьку значылася ў розных дакументах. Але давялося прачытаць і ў іншым прамаўленні — Восіп Гашкевіч. Сумнення не было—беларус. Тым больш, што ў афіцыйных дакументах значылася: нарадзіўся ў Мінскай губерні. Калі дакладна — сказаць цяжка. Недзе ў 1814 ці 1815 годзе. Быў сынам святара. Тройчы рабіў кругасветныя падарожжы. Ганчароў у рамане сапраўды расказвае пра яго. А пасля Восіп Гашкевіч, які цудоўна ведаў многія замежныя мовы, у тым ліку японскую і кітайскую, стаў першым прадстаўніком царскай Расіі ў Японіі. Першы дагавор паміж Расіяй і Японіяй, як вядома, быў падпісаны ў 1865 годзе. Консулам прызначылі Гашкевіча. Ужо гэтых фактаў было дастаткова, каб у мяне спрацаваў свайго роду прафесійны інтарэс. Але сесці за пісьмовы стол давялося пазней. Папярэдне вёў даследчыцкую работу. Гэта толькі на першы погляд здаецца, што фактаў шмат. Але чым далей заглыбляўся ў біяграфію Гашкевіча, тым болей пераконваўся — нямала ў ёй «белых плям». Вось хоць бы месца нараджэння: Мінская губерня, а дзе канкрэтна? На след трапіў, можна сказаць, выпадкова. Адшукаў адпускны ліст Гашкевіча. У ім і значылася, што ён ехаў з Пецярбурга праз Рагачоў у Якімаву Слабаду. Паступова высветліў, што ў Якімавай Слабадзе Гашкевіч і нарадзіўся (цяпер гэта Светлагорскі раён).**

**Чалавек усебакова адукаваны, Гашкевіч быў не проста консулам царскай Расіі ў Японіі, ён з'яўляўся адначасова як бы сапраўдным пастпрэдам славянства ў гэтай далёкай краіне. У жыццё яе Іосіф Антонавіч прынёс, так бы мовіць, шмат славянскага. Навучыў японцаў шыць еўрапейскую вопратку, саліць грыбы, капусту, даіць кароў і біць масла. Адкрыў першую праваслаўную царкву і запрасіў з Расіі святара. Вучыў Гашкевіч японцаў і фатаграфаванню. Дарэчы, не так даўно ў Японіі адшуканы адзін з яго негатываў. І па сённяшні дзень існуюць там дзве школы фатаграфіі, два напрамкі: Нагасакскі і Хакадацкі. Стваральнік апошняга — ён, наш зямляк. Гашкевіч стварыў і першы японска-рускі слоўнік, за што атрымаў славутую Дзямідаўскую прэмію і залаты медаль Расійскай Акадэміі навук. Прабыў ён у Японіі сем гадоў. Да выхаду ў адстаўку ў 1866 годзе жыў у Пецярбургзе. Апошнія гады правёў у Астраўцы. Там купіў маёнтак, там і памёр у 1875 годзе. Там напісаў і грунтоўную працу «Аб карэннях японскай мовы», якая пасля выйшла ў Вільні.**

**У нас пра Гашкевіча паступова забываліся, а вось у Японіі — не! У гарадах Хакадатэ і Хеда створаны музеі Гашкевіча, існуе таварыства «Памяць пра І. А. Гашкевіча», прадстаўнікі якога ў 1986 годзе прыязджалі ў Мінск. Пісьменнікі, мастакі, выдаўцы, дзелавыя людзі пабывалі ў Дзяржаўным гістарычным музеі БССР, дзе пазнаёміліся з экспазіцыяй, прысвечанай Гашкевічу, наведалі Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Між іншым, у валюце ўнеслі сродкі на чарнобыльскі рахунак. Тады ж японцы выказалі пажаданне паставіць помнік Гашкевічу ў горадзе Хакадатэ, дзе і знаходзілася калісь першае рускае консульства. Яны прапанавалі, каб бюст Гашкевіча стварылі беларускія скульптары (выдаткі ж на транспарціроўку згаджаўся браць японскі бок). На гэтыя мэты я аддаў частку ганарара за японскае выданне кнігі «Адысей з Белай Русі». Унёс грошы за выпуск сваёй кнігі «Тры ўзросты Акі-ні-сана» і Валянцін Пікуль. У 1987 годзе я звярнуўся ў тагачасны аддзел культуры ЦК КПБ, расказаў пра намеры японцаў, выказаў прапанову копію бюста Гашкевіча набыць Дзяржаўнаму музею Беларусі, паставіць помнік Гашкевічу ў Астраўцы. Ужо і кампартыі няма, але няма і помніка.**

**Набліжаецца 180-годдзе з дня нараджэння Гашкевіча, сказаў у заключэнне В. Гузанаў. Трэба паруліцца, каб урачыста ўшанаваць памяць гэтага выдатнага чалавека. Восіп Гашкевіч — Адысей з Беларусі — варты гэтага.**

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# ЖАРТЫ ДЫ ЗНАКІ

## Тэатральны прагноз

Яшчэ раз з Новым годам, спадары! Калі астралагічныя прагнозы на новы 1992 год вас чамусьці не задаволілі,— не бядуйце. Ёсць магчымасць паспрабаваць яшчэ раз — 3 лютага пачаўся ўсходні Новы год па месяцавым календары. Ягоную заслону адсунула Чорная Малпа — мастацкі кіраўнік ды галоўны рэжысёр 1992 года. Разам з ёю мы мусім перажыць насоўванне свежай інфляцыі, найнавюткі клопат урада аб працоўных, магчымую стабілізацыю крэдытна-фінансавай сістэмы... Цікава, на якім узроўні цэнаў? І колькі гадоў давядзецца працаваць службоўцу, каб купіць сабе чаравікі?

Ат, не будзем пра грошы (пра іх чытайце ў «Биржевом вестнике»), не будзем пра чаравікі ды каўбасы. Вы ж чытаеце не які-небудзь «Коммерсантъ», вы трымаеце ў руках «ЛіМ», а гэта адразу сведчыць пра ваша абаянне і добры густ,— таму будзем пільнавацца толькі прыўкраснага. Прынамсі, тэатр пакуль яшчэ знаходзіцца побач...

Паводле ўсходняе астралогіі, Малпа любіць вэрхал, мітусню, гармідар ды неразбярыху, вонкавую спагадлівасць, дружалюб'е ды патаемныя звадкі,— па ўсім, яна не можа заставацца абыякавай да тэатра. Напраўду, шмат якія беларускія тэатры створаны ў ейныя гады, значыць, у іх сёлета нешта накшталт імянінаў. Гэта Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Рускі тэатр Беларусі, Рэспубліканскі тэатр юнага гледача...

Які рэпертуар варта параіць тэатрам, беручы пад увагу густ Чорнае Малпы, які хутка паўплывае на масавую глядацкую аўдыторыю? Сур'ёзная драматургія, псіхалагічная драма наўрад ці будуць карыстацца поспехам. Малпа задужа няўседлівая ды гарэзлівая, каб заглыбляцца ў таямніцы ўнутранага свету герояў. Яна аддае перавагу дэтэктыву, клаунадзе, фарсу, фантасмагорыі. На апошні жанр скіруйце пільную ўвагу, ён павядзе рэй не адно на сцэне, але і па-за ёю таксама...

З прычыны таго, што чорны колер ва ўсходняй сімволіцы абазначае стыхію вады, дык поўная слёз і перажыванняў меладрама гэтаксама будзе досыць папулярнаю — за аптымальны варыянт варта ўзяць меладраму класічную. Варта быць тактоўным і (па магчымасці) ні згадкаю, ні звадкаю не намякаць гледачу пра цяпершчыну, якая з пагрозлівым выглядам пільнуе яго за парогам тэатра.

Дык вось, рэпертуарны дэвіз 1992 года — смех ды слёзы, смех праз слёзы, слёзы, што перакідваюцца смехам. Праўда, апошні варыянт небяспечны ўжо тым, што валяр'янавых крапляў нямашака...

Што да тэатраў, дык можна смела прадказваць паспяховы год Акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы. Добрымі застануцца дачыненні трупы са сваім мастацкім кіраўніком: В. Раеўскі народжаны ў год Ката, а Кот бачыць усе Малпіны выбрыкі... Мы хочам сказаць, што ў дачыненнях з акторамі В. Раеўскі сёлета будзе асабліва дальнабачным, а таму зацікаўленыя асобы мусяць мець гэта на ўвазе. Увогуле, хочаце ці не, але да Ката Малпа ставіцца з павагай і асцярожнасцю, дый Кот да Малпы лаяльны.

Акадэмічнай сцэне з Віцебска дамагчыся ўдачы сёлета будзе цяжкавата. Тэатр імя Якуба Коласа створаны ў год Тыгра, а Малпа любіць пакпіць з яго. Праўда, раззлаваўшыся, Тыгр можа яе з'есці ды гэта — толькі ў самым гранічным выпадку, чуеце, коласаўцы?!

Рускі драматычны тэатр Беларусі гэтаксама створаны ў год Малпы, таму верагодна пэўнае ажыўленне ягонай камерцыйнай і гастрольнай дзейнасці. Творчае жыццё можа быць паспяховым, але наўрад ці яно будзе бясхмарным: верагодныя псіхалагічныя складанасці ў дачыненнях трупы са сваім мастацкім кіраўніком Б. Луцэнкам, народжаным у год Быка. Бык не вытрывае шалёнасці ды непрадказальнасці, якія парушаюць ягоныя планы. Ды ягоны гнеў будзе дарэмны, Малпа выслізне, уцячэ. Па-добраму могуць слугаваць Быку сёлета гумар ды самаіронія,— з Малпаю можна змагацца толькі ейнаю зброяй. Канфлікты, калі яны надарацца, рэкамендуем вырашаць праз пасрэднікаў.

Рэспубліканскі ТЮГ таксама створаны ў год Малпы, знаходзіцца пад ейнаю апекаю і, натуральна, можа разлічваць на паспяховы сезон. (Як бачыце, гады Малпы, нягледзячы на тое, што на іх, як правіла, прыпадаюць сацыяльныя смуты, могуць спарадзіць новыя тэатральныя калектывы. Цікава, як праявіцца гэтая тэндэнцыя сёлета!)

Дзяржаўнаму тэатру лялек, па годзе стварэння — Тыгру, выпадае сёлета справа адказная, ганаровая, ды вельмі й вельмі нялёгкая: лялькі самых разнастых краінаў прыедуць да нас на другі Беларускі фестываль тэатраў лялек (ён займеў ужо статус міжнароднага). Да агульнавядомых складанасцяў дадасца нядобразычлівасць Малпы. Арганізатарам спатрэбіцца жалезная вытрымка, бо могуць надарыцца непаразуменні самыя невытлумачальныя, — мо спатрэбіцца вопыт, набыты пад час працы над «Майстрам і Маргарытаю». Рыхтуйцеся да ўсялякага...

Гэтае пажаданне можна было б пераадрасаваць усім, ды на тым і скончыць нашую спробу тэатральна-астралагічнага прагнозу, але хочацца дадаць вось што: нават калі выбрыкі Малпы здадуцца вам грубымі ды крыўднымі, не раздражняйцеся, пастаўцеся да іх з гумарам. Сёлета менавіта ён мусіць быць вашым абаронцам. Жартам Чорнай Малпы надасць пэўнай змрочнасці Плутон, які ідзе цяпер па задыякальным знаку Скарпіёна; асаблівай нечаканасці — Сатурн у Вадалеі. Падобна на тое, што ў жыццёвых сюжэтах нас з вамі чакаюць не павароткі, а віражы, так што вучыцеся лётаць. Ды памятайце — пад выглядам жарту ў вашым жыцці могуць надарыцца сур'ёзныя падзеі. Драбяза перакінецца важнымі варункамі, з фанабэрыстым выглядам у ваша жыццё можа ўвайсці чалавек, якому належыць у ім важныя роля. Рыхтуйцеся да жартаў у адказ на жарты лёсу, але ўважліва—не паблытайце жарты й Знакі! Удачы!

**АВЕЧКА,—тая, што адыходзячы, гасіць за сабою святло.**

МУЗЫКА

# І НЕ ТРЭБА НІЧОГА ВЫДУМЛЯЦЬ...

Калядная ноч. Я сяджу за святочным сталом, накрытым беласнежным настольнікам, пад якім па даўнім звычаі пакладзена сена. А на стале куцця — ячневая каша і розныя прысмакі, але без мяснога: куцця ж—апошні дзень посту. Пажаданні шчасця ўсім прысутным чаргуюцца са спяваннем задушэўных беларускіх песень. Я цешуся зладжаным, стройным гучаннем шматгалосся і лаўлю сябе на думцы: а ніколі ж раней мне не даводзілася слухаць вось такія пранікнёныя спевы, з веданнем усіх слоў народных песень ад пачатку да канца, не на сцэне, а ў хатняй абстаноўцы. Усе за гэтым сталом аб'яднаныя любоўю да песні і цёплым, паважлівым стаўленнем адно да аднаго. І гэта не дзіўна: тут сабраліся людзі, знаёмыя даўно, а паяднала іх усіх беларуская песня. Толькі што яны былі ўдзельнікамі свята, прысвечанага дзесяцігоддзю фальклорнага ансамбля «Калядкі», якое наладзіла ў Маладзечанскім музычным вучылішчы педагог Зоя Русель. І цяпер яна запрасіла сваіх былых выхаванцаў дадому на святочную куццю.

Я ўсё яшчэ пад уражаннем убачанага і пачутага ў зале вучылішча. Гэта быў не проста канцэрт з чаргаваннем беларускіх песень і танцаў, не—перад гледачамі разгарнулася тэатралізаванае дзеянне: «Бухаўскія вячоркі» —стылізацыя сапраўднай вясковай бяседы з песнямі і танцамі, жартамі, загадкамі і смешнымі аповядамі. Выканаўцы — студэнты вучылішча і сама Зоя Францаўна, якая не толькі падрыхтавала песні і танцы, а і напісала сцэнарый і сыграла ролю гаспадыні.

Ёй не трэба было нічога прыдумваць — усё гэта яна помніла з дзіцячых гадоў: расказы пра мядзведжую акадэмію ў Смаргоні і пра смачныя смаргонскія абаранкі, якія вазілі ў Вільню на кірмаш, падэспань і кракавяк, якія танцавалі на кожных вясковых вечарынках у яе роднай вёсцы Шутовічы, што за сем кіламетраў ад Смаргоні. А песні ў Шутовічах спявалі ўсе—ад малога да старога. У вялікай сям'і маці быў ансамбль: скрыпка, балалайка і мандаліна, а сама яна вельмі хараша спявала. Пасля вайны, стаўшы загадчыцай клуба, А. В. Шутовіч заснавала фальклорны ансамбль вёскі Шутовічы, а маленькая Зоя, седзячы на яе рэпетыцыях, слухала народны мелас, каб пазней прадоўжыць любімую справу маці. Трэба тут нагадаць і вандроўкі пешшу ў Смаргонскую музычную школу, і заняткі ў музычным вучылішчы, і Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, дзе вучылася ў цудоўнага педагога і фалькларыста Л. С. Мухарынскай і напісала пад яе кіраўніцтвам дыпломную работу, звязаную з вывучэннем фальклору Маладзечаншчыны. Прафесію Зоя Францаўна выбрала ў многім дзякуючы свайму старэйшаму брату—выдатнаму харавому дырыжору, кіраўніку харавой капэлы Белдзяржуніверсітэта Юрыю Шутовічу, заўчасная смерць якога была не толькі асабістым горам яе сям'і...

Але вернемся ў залу Маладзечанскага вучылішча. На сцэне стылізаваная абстаноўка вясковай хаты: выкарыстаны экспанаты музея вучылішча, дзе прадстаўлены прадметы народнага побыту, і зноў жа Зоя Францаўна прынесла свае сямейныя рэліквіі — калаўрот, бабуліну маслабойку. Студэнты спяваюць і танцуюць, уцягваючы ў дзейства прысутных у зале—і вось ужо мы стараемся хутчэй адказаць на загадку, падхопліваем песні: ад душы смяёмся над аповядам хлапчука пра наведванне тэатра ў Вільні. А потым самыя смелыя з гледачоў, а дакладней, тыя, хто памятае, як танцуюць народныя танцы, кіруюць да сцэны і разам з удзельнікамі «Вячорак» скачуць і беларускую польку, і кракавяк, і падэспань. Аказваецца, што танцаваць іх нескладана, бо пастаўлены гэтыя танцы не як канцэртныя нумары, а так, як існавалі яны ў побыце, так, як бачыла і танцавала іх сама З. Русель.

Зоя Францаўна расказвае:

— На вечары збылася мая мара: канцэрт ператварыўся ў сумеснае дзейства. А гэтага ж так цяжка дамагчыся, большасць людзей не ведае сваіх народных песень, не ўмее танцаваць, разнявольвацца. І шлях да сённяшняга вечара быў доўгі і нялёгкі.

Калі я задумвала стварыць ансамбль, маёй мэтай было больш блізкае далучэнне студэнтаў, ды і педагогаў да фальклору, імкненне перадаць ім маю любоў да народнай му-



Маладзечанскія «Калядкі».

# Гамяльчане апладзіруюць

Ажыўленню музычнага жыцця, цязе да сімфанічнай музыкі ў Гомелі ў значнай меры садзейнічае гарадскі сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам дырыжора Валянціна Краўцова. Вядома, што толькі высокакваліфікаваны мастацкі калектыў можа задаволіць эстэтычныя запатрабаванні слухачоў, што ён павінен валодаць многімі выканаўчымі вартасцямі. Гомельскі гарадскі сімфанічны аркестр, у рэпертуары якога шырока прадстаўлены творы зарубежнай, айчыннай музычнай класікі, добра паказаў сябе на адным з апошніх канцэртаў у зале Гомельскага музычнага вучылішча імя Н. Сакалоўскага. Творы, прадстаўленыя аркестрам, у тым ліку і уверцюра да оперы В. Моцарта «Вяселле Фігара», Інтрадукцыя і Ронда-капрычыёза К. Сен-Санса, адпрацаваныя да дробязяў, гучалі ўсхвалявана і натхнёна, зацікавіўшы слухачоў свежасцю манеры выканання, яркасцю музычнай мовы.

Прагучаў у тым канцэрце раманс з оперы «Сельскі гонар» П. Масканьі ў выкананні вакалісткі Ларысы Мальцавай. Спявачка паказала сваё майстэрства ў добрым партнёрстве з аркестрам. Удала ўпісаўся ў праграму і вядомы беларускі тэнар, лаўрэат Міжнароднага конкурсу Аляксандр Рудкоўскі, дарэчы, колішні выпускнік Гомельскага музвучылішча. Ён выканаў песеньку Герцага з оперы Д. Вердзі «Рыгалета» і неапалітанскую песню «О, маё сонца». Прызнаны майстар вакалу, ён прыкметна ўпрыгожыў выканаўчую палітру і пашырыў творчыя магчымасці маладога сімфанічнага калектыву. Спявала і выкладчыца Гомельскага педагагічнага вучылішча Любоў Сурава (песня Леля з оперы М. Рымскага-Корсакава «Снягурачка» і руская народная песня «Над полями, да над чистыми»).

Але, здаецца, самым яркім момантам канцэрта было выкананне Інтрадукцыі і Ронда-кап-

зыкі. На ўроках я часта задаю пытанне: «Хто можа праспяваць беларускую песню ад пачатку да канца?» У адказ часцей за ўсё маўчанне. Крыўдна вельмі — моладзь практычна не ведае сваіх каранёў, але ж часцяком іх мамы, бабулі ведаюць і спяваюць беларускія песні. З пакалення ў пакаленне гэта перадавалася, а цяпер —сувязь перарвалася. І вось аднавіць гэтую сувязь, пераемнасць традыцый зрабілася маім асноўным жаданнем.

Мы са студэнтамі ездзілі ў фальклорныя экспедыцыі па Маладзечанскім раёне, запісалі вельмі шмат песень ад розных выканаўцаў. Каля сарака песень напела нам жыхарка вёскі Цюрлі Любоў Раманаўна Бурак — ёй ужо 85 гадоў, але любоў і веданне родных напеваў пранесла яна праз усё сваё цяжкае жыццё. А сёння яна прыйшла на свята падзяліць з намі нашу радасць. Яшчэ ў 1974 годзе ў час фальклорнай экспедыцыі ў вёску Заскавічы ад Веры Андрэеўны Асіповіч я запісала вясельны абрад, які потым мы паставілі ў сваім ансамблі і шмат паказвалі яго перад рознымі гледачамі, у тым ліку і перад студэнтамі БДК. (Я ўспамінаю гэты вечар у зале кансерваторыі, дзе перад студэнтамі і педагогамі разыгралі беларускае вяселле маладзенькія дзяўчаткі і хлопцы, як хваляваліся яны і іх кіраўніца.— **І. Г.**).

З самага першага нашага прадстаўлення — 25 снежня 81-га — нашы «Калядкі» пастаянна выступаюць і ў горадзе, і ў вёсках, калгасах. Паказвалі мы і чатыры абрады з каляндарна-земляробчага цыкла: калядкі, вяснянкі, валачобныя, Купалле. Шмат студэнтаў прайшло за гэтыя гады праз мае «Калядкі»: Сяргей Мыцько скончыў БДК і цяпер займаецца даследаваннем беларускага фальклору, Іна Гурыновіч спявае ў ансамблі «Белыя Росы» ў Гродне, Васіль Саўчук — у Акадэмічным народным хоры Беларусі, Генадзь Карасік іграе ў ансамблі «Крупіцкія музыкі», Аляксандр Шыла — у фальклорным ансамблі «Неруш». А большасць маіх студэнтаў проста палюбілі беларускія абрады, песні і танцы і цяпер жывуць з гэтым пачуццём, якое, без сумнення, памагае ім у такім няпростым нашым жыцці.

Сёння ядро ансамбля складаюць студэнты-«тэарэтыкі». Гэта, як правіла, не самыя галасістыя і разняволеныя нашы дзяўчаты. Але яны ўжо зразумелі, як многа даюць ім для будучай музыказнаўчай прафесіі нашы заняткі. На ўроках мы праводзім запісы аўтэнтычнага фальклору, пішам невялікія даследчыя работы па жанрах народнай песні, курсавыя, звязаныя з вывучэннем мясцовых фальклорных традыцый. Ідзе метадычная, дасканальная, карпатлівая праца з роднай песняй. А на занятках у ансамблі студэнты самі прыдумваюць падгалоскі, імправізуюць, а не развучваюць песні па партыях. Усё гэта многае дае ім для будучай самастойнай працы, развівае іх творчыя здольнасці, ды і дадатковая спецыяльнасць—кіраўнік фальклорнага ансамбля — вельмі патрэбная, на мой погляд, важная для адраджэння нацыянальнай культуры.

Наша гутарка з Зояй Францаўнай заканчваецца далёка за поўнач, калі адгучалі ўжо кранальныя, пранікнёныя беларускія песні, якія спявалі і гаспадыня з гаспадаром, і іхнія сыны, і былыя студэнты, што з'ехаліся на свой першы юбілей.

Не хацелася азмрочваць гэты незвычайны вечар, але я не магла зразумець, чаму на ўрачыстасці ў зале не было ні дырэктара вучылішча, ні завуча, ні многіх педагогаў. Толькі калегі па аддзяленні і прафсаюз цёпла павіншавалі юбіляраў. А што ж адміністрацыя? Чым і як памагае яна ў такой патрэбнай і вельмі цяжкай справе? Зоя Францаўна не вельмі ахвотна пайшла на гэтую размову, і ў выніку мне адкрылася прычына прытоенай журбы, якая ўгадвалася ў вачах нашай гасціннай гаспадыні. Як гэта бывае ў нас даволі часта, на жаль, дапамогі З. Русель не атрымлівае ні ад каго. Нават маючы ў вучылішчы вялікае аддзяленне народных інструментаў, яго педагогі дагэтуль не могуць арганізаваць дастойнае музычнае суправаджэнне, і гэтым займаецца сама Зоя Францаўна — вышуквае сярод студэнтаў жадаючых, рэпеціруе з імі. І лішні раз пераконваешся ў тым, што толькі бязмежная адданасць роднай песні, невычэрпнае жаданне перадаць сваім вучням любоў да роднай мовы кіруе ёю. Добрымі словамі і з удзячнасцю ўспамінае яна педагогаў БДК Л. Касцюкавец і Т. Якіменку, якія памагаюць ёй сваім вопытам і парадай. І як хацелася б, каб і ў сценах Маладзечанскага вучылішча, дзе З. Русель адпрацавала доўгія гады, яе самаадданасць і пастаянства былі ацэнены па заслугах.

А ў тым, што калегі яе любяць і разумеюць, я пераканалася тады, калі выйшлі яны ў нацыянальных строях і на добрай беларускай мове павіншавалі Зою Францаўну і яе выхаванцаў, праспяваўшы складзеную імі самімі здравіцу. І адчувалася, што ўсе прысутныя пранікліся цяплом і радасцю ад судакранання з народнай мовай і песняй, ад стасункаў з добрым і чулым чалавекам, дзякуючы якому і адбылося свята.

**Іна ГУРАРЫЙ.**

---

рычыёза К. Сен-Санса аркестрам і салістам-скрыпачом А. Яўтуховічам. І скрыпач, і аркестр паказалі высокі прафесіяналізм. Выкананне Інтрадукцыі вылучалася экспрэсіўнасцю, якая вымушала слухачоў суперажываць, радавацца, пакутаваць, адчуваць сваю далучанасць да напружанай атмасферы барацьбы, увасобленай у музычных вобразах.

Сімфанічнаму аркестру аднолькава падуладныя манaltнае гучанне Фарандолы з музыкі Ж. Бізэ да драмы «Арлезіянка» і незвычайна гнуткая нюансіроўка Вальса з музыкі А. Хачатурана да драмы М. Лермантава «Маскарад», віртуозная тэхніка опернай уверцюры В. Моцарта і народная манера адкрытага, шчырага выканання неапалітанскай песні.

Наогул, канцэрты сімфанічнага аркестра нязменна праходзяць з поспехам. І заканамерна, што нядаўняя прэзентацыя калектыву таксама была вельмі цёпла сустрэта слухачамі. Гамяльчане і госці горада высока ацанілі майстэрства музыкантаў, мастацкі густ і артыстычны тэмперамент дырыжора Валянціна Краўцова. Хочацца спадзявацца, што калектыў, які ўдала ўзяў старт у гэтым сезоне, парадуе аматараў сімфанічнай музыкі новымі канцэртнымі праграмамі, будзе дастойным пераемнікам гомельскага сімфанічнага аркестра, які існаваў у 20-х гадах, прадоўжыць і разаўе слаўныя музычныя традыцыі нашага горада.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

г. Гомель.

---

# Трамвай «Віцебск—Парыж»

## Пра дакументальную стужку «Калі Віцебск быў Парыжам»

Усё залежыць ад таго, адкуль на яго, на той горад, паглядзець, з якога берага кінуць вокам на ягоныя пагоркі і вулкі, на велічныя гмахі, пабудаваныя прыхільнікамі сацрэалізму ў архітэктуры, і на цудам ацалелыя старыя будынкі. Цудам, бо сярод віцебскіх руінаў і сёння вам пакажуць тыя, што немым крыкам крычаць пра ваяўнічае невуцтва, якое загадвала і разбурала нават абвешчанае самой жа савецкай уладай помнікамі культуры. І рабілася гэта якіх восем або дзесяць гадоў назад. Ды насуперак намаганням сучасных вандалаў штосьці застаецца ў горадзе спрадвечна прываблівае, чароўнае, прыцягальнае.

У чым яго таямніца?

Віцяблянін абавязкова пакажа вам, напрыклад, помнік на Успенскай горцы на стромкім беразе Заходняй Дзвіны — абеліск у гонар герояў Айчыннай вайны 1812 года. Абеліск быў пабудаваны на сродкі, сабраныя жыхарамі Віцебска. Прыгадаўшы тое, субяседнік прадоўжыць аповяд тым, што ўспомніць, як намаганнямі жыхароў і гасцей у горадзе ў свой час былі наладжаны заняткі ў Віцебскіх мастацкіх майстэрнях, якія пераўтварыліся пазней у мастацкі інстытут. Распачынаў тут дзейнасць Дзяржаўны сімфанічны аркестр. Адначасова з музычнымі школамі адкрылася кансерваторыя. Канцэрты, тэатральныя спектаклі, мастацкія вернісажы, святочныя дэманстрацыі на вуліцах, упрыгожаных плакатамі і заклікамі тых часоў... І тут пачынаецца пералік імёнаў, якія часам вымаўляюцца з трапяткой пашанай: Юлій Пэн, Казімір Малевіч, Мсціслаў Дабужынскі, Іван Салярцінскі, Мікалай Малько, Міхаіл Пустынін, Міхаіл Бахцін, Марк Шагал. Гэта яму, Шагалу, належыць думка аб тым, што Віцебск на пачатку дваццатых гадоў — гэта як бы Парыж на Дзвіне. Перабольшанне? Магчыма. Але ж была тады такая рэпутацыя ў гэтага горада.

І што гэта рэпутацыя — не легенда, не байка настальгічна настроеных людзей, і паспрабавалі давесці аўтары дакументальнай кінастужкі «Калі Віцебск быў Парыжам», зробленай на студыі «Фобас-С» (назва, што і казаць, эфектная, хоць і няўцямная). На мяне гэты фільм зрабіў моцнае ўражанне. Спадабаўся.

Спадабаўся тым, што ўвесь складзены нібыта з зусім дакументальных кадраў, звестак, фактаў і, адначасова, ахутаны нейкім прываблівым флёрам, гэткай па-мастацку выяўленай і музычна падтрыманай смугой. Рэжысура ў поўнай згодзе з аператарам і мастаком так будуе мантажныя фрагменты, што яны ўспрымаюцца як цалкам дакументальныя, адшуканыя ў архівах або зробленыя на віцебскіх вуліцах сёння, але ў нечым і ўмоўныя. Нават дакладней будзе сказаць — стылізаваныя. Асабліва там, дзе вакол чалавечага твару або дамка на прыцішанай вуліцы раптам успыхвае каляровае рассеянае святло. Штосьці падобнае на блікі, на водбліскі вясёлкі.

Не, гэта не штучны дадатак да выявы ў кадры. Гэта як бы працяг і развіццё тае палітры, што была прапанавана Віцебску сабранымі ў горадзе мастакамі на чале з тагачасным губернскім упаўнаважаным па справах мастацтваў М. Шагалам. І гэты ўпаўнаважаны паверыў сам і пераконваў у неабходнасці мастацтва «новага рэвалюцыйнага ўзору» сваіх калег — мясцовых, віцебскіх, і тых, хто прыехаў сюды з галоднага Піцера. Ніякага сакрэту няма: прыехалі, каб падсілкавацца, у адносна забяспечаны хлебам край. Ды не хлебам адзіным жыве чалавек!..

Я не ведаю, якім чынам здолелі рэжысёр Уладзімір Бокун, аператар Сямён Фрыдлянд і мастак Сяргей Катранкоў арганізаваць, напрыклад, эпізоды размалёўкі плакатаў да святкавання першых гадавін Кастрычніка ў Віцебску так, што яны, хоць рабіліся цяпер і здымаліся ў нашы дні, выглядаюць як дакументальныя. Як і праезд па вуліцах Віцебска расквечанага ўсімі колерамі вясёлкі славутага віцебскага трамвая. Ён — дэкаратыўны. Гэта імітацыя сапраўднага трамвая, распісанага агітацыйнымі плакатамі К. Малевічам з паплечнікамі. І — амаль сапраўдны. Так, менавіта такія (ці падобныя да такіх) здзіўлялі і радавалі некалі віцяблян Першага мая ці 7 лістапада пад зычны спеў аркестравай медзі.

І гэтая медзь духавых інструментаў, дзякуючы добраму пачуццю мастацкай меры гукарэжысёра Анатоля Прылішча, арганічна ўплецена ў выяўленчы мантаж стужкі. Крыху стылізавана апрануты «лабухі» граюць нешта ўрачыста-маршавае і крочаць пад такт тае музыкі зноў жа па старой вулачцы «былога» Віцебска. Так крочылі віцябляне семдзесят гадоў таму. Так дудзелі-спявалі і так віталі яны пачатак абвешчанай бальшавікамі «новай эры».

Праўда, у фільме «Калі Віцебск быў Парыжам» мы яшчэ бачым як бы і кантрапункт, дзе сутыкнуліся нязмушаны энтузіязм мастакоў з афіцыёзна распрацаваным абрадам. Дарэчы, узнікалі канфлікты і ў асяроддзі саміх мастакоў. Вядома, Шагал не мог і ў рэвалюцыйнае свята абысціся без сваіх закаханых, што лунаюць у небе над Віцебскам, або каровамі з козамі то зялёнага, то ружовага колеру. Прыхільнікі ж К. Малевіча і Э. Лісіцкага сцвярджалі, што толькі іхняе мастацтва (той жа «чорны квадрат на белым фоне») — гэтыя абстрактныя кубы і авалы — можа адпавядаць рэвалюцыйнаму настрою працоўных пралетарыяў. Пралетарыі ж бянтэжыліся, не ведаючы, што азначае ружовая карова або сіняя трапецыя на сонечна-жоўтым фоне.

Стужка У. Бокуна цікавая тым, што пра ўсё гэта яшчэ і гавораць сведкі і непасрэдныя ўдзельнікі тых падзей. Старыя людзі з сівізной на скронях, з барадамі мудрацоў, яны сёння сумуюць не так па тых пралетарскіх святах у Віцебску, як па атмасферы творчага ўздыму і мастацкага росквіту культуры ў горадзе. Сапраўды, уявіце сабе цяперашні абласны горад на Беларусі, дзе б адначасова дзейнічалі мастакі манументальнага мастацтва вуліц і плошчаў, сімфанічны аркестр, драматычны тэатр, харэаграфічная студыя, часопіс па пытаннях мастацтва... За пультам — дырыжор М. Малько. Аўтары роспісу будынкаў і трамваяў — М. Шагал і К. Малевіч. У студэнцкай аўдыторыі — знаўца філасофіі мастацтва М. Бахцін, у лекцыйнай — І. Салярцінскі...

Парыж... Хай сабе маленькі, але — Парыж!..

Шчыра кажучы, я не адчуў у гэтай інтанацыі фільма аніводнай ноткі іроніі. З прасветленым сумам звяртаецца да нас і голас дыктара В. Карпілава. Між тым, калі прыгадаць адну з сутычак упаўнаважанага па справах мастацтва М. Шагала з адказным чыноўнікам губернскай улады дык рэпліка апошняга: «Як вы мяркуеце, таварыш Шагал, што для нас больш важнае — тэрмінова адрамантаваць мост ці даць грошы для акадэміі выяўленчага мастацтва?» — сама па сабе мае вызначальны характар для ўзаемаадносін мастака і пануючай ідэалогіі. Ужо тады пачалося татальнае падначаленне мастацкай творчасці і наогул культуры надзённым задачам сацыялістычнага эксперыменту ў краіне. Вынік — утылітарная нівеліроўка палітызаванага мастацтва...

Ці не гэта вызначыла лёс і драматычную долю і М. Шагала, вымушанага ўвасабляць свае задумы эмігрантам за мяжой радзімы, і адарванага на дзесяцігоддзі ад навуковай і педагагічнай дзейнасці М. Бахціна, і трагічна забітага пры даволі дзіўных абставінах Ю. Пэна... Фільм рэжысёра У. Бокуна паводле літаратурнага сцэнарыя Віталя Тараса набліжаецца да пошукаў адказаў на тыя пытанні, што ставіць лёс пакутнікаў ад мастацтва.

Ды зроблены ён у зусім іншым ключы.

Настальгічны настрой Шагалавых успамінаў пра родны Віцебск («Даўно ўжо, любы мой горад, цябе я не бачыў, не чуў, не мовіў з табою, з народам тваім, даўно не ўпіраўся ў твае агароджы. Як падарожнік самотны, я толькі нёс праз гады ўсе твой вобраз на палотнах маіх, і гэтак мовіў з табой і, як у люстэрку, бачыў цябе...»), чула ўлоўлены стваральнікамі стужкі, пацягнуў за сабой і пэўнае адценне ідылічнага ўспаміну. Ах, як падхоплівае маё глядацкае сэрца матыў вальса на фоне кадраў гарадскога катка, па якім кружацца ў віхуры гараджане! Я нават не паспяваю задумацца, а ці дакладна гэта віцебскія архіўныя кадры. Мяне захапляюць пералівы стракатых фарбаў пад блакітным небам горада з маршам духавога аркестра так, што наогул забываецца тое начальніцкае пытанне губернскага «будаўніка сацыялізму» наконт прыярытэту маста перад культурай...

Ёсць, ёсць яна, нейкая дзіўная і дзівосная таямніца, у гэтага горада. Пра Віцебск былых часоў і цяперашніх дзён, мабыць, можна здымаць і здымаць фільмы. І яны будуць набліжаць нас да разгадкі тае таямніцы. Так, як гэта ў сваёй прывабліваай манеры робіць стужка «Калі Віцебск быў Парыжам».

**Барыс БУР'ЯН.**

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЛГОФА

(Пачатак на стар. 5).

пераўтварыць у жыццё. Беларусь пакуль што абміналі такога роду пазітыўныя гістарычныя працэсы.

Імкнучыся надзейна абараніць уласныя інтарэсы, расчысціць прастору для свайго капіталу, буржуазія прыйшла да высновы, што такое можна дасягнуць толькі ва ўмовах моцнай дзяржаўнай улады, у структуры якой яна, г. зн. буржуазія, займала б ключавыя пазіцыі. Народжаны на руінах феадальнага ладу новы клас грамадства знайшоў дастаткова сродкаў, каб узяць на ўтрыманне даволі значную колькасць таленавітых людзей, галоўным заняткам якіх было тэарэтычнае абгрунтаванне такіх форм дзяржаўнай будовы, дзе надзейна гарантаваліся б усе самыя важныя пазіцыі за буржуазіяй. Найлепшай формай справядліва прызнавалася нацыянальная дзяржава, у якой меркавалася лягчэй будзе ўлічыць інтарэсы не толькі самой буржуазіі, але і кампактна расселенага на сваёй гістарычнай тэрыторыі таго ці іншага канкрэтнага этнасу. Вось погляд на гэтую праблему аднаго з вядомых тэарэтыкаў па нацыянальным пытанні Карла Каўцкага (1854—1938 гг.): «Нацыянальная дзяржава з'яўляецца найбольш адпаведнай сучасным зносінам формай дзяржаўнасці,— формай, у якой яна лягчэй за ўсё можа ажыццяўляць свае задачы».

## 2. Выбар уласнага шляху

Шматнацыянальная Расійская імперыя, у якой усе нярускія народы, за выключэннем часткова палякаў і фінаў, жылі ў поўным палітычным бяспраўі, не магла паставіць надзейную заслону ад пранікнення і на яе землі еўрапейскай ідэі стварэння нацыянальных дзяржаў, перавагі якіх у цывілізаванай Еўропе даволі хутка выявіліся. І хоць у беларускай нацыі не мелася рэальнай сілы для арганізацыі палітычнай барацьбы за дзяржаўную незалежнасць і магчымасцей для яе ажыццяўлення, усё тое прагрэсіўнае, што адбывалася ў дзяржаўным развіцці еўрапейскіх народаў, даходзіла і да нас. Прапагандзе ідэі нацыянальнай незалежнасці, нацыянальнай дзяржавы асабліва шмат увагі надавалі народнікі Беларусі.

Пераканаўча гэта ідэя асветлена на старонках падпольнага гектаграфічнага часопіса «Гомон» (орган беларускай фракцыі тайнага таварыства «Народная воля»), што выдаваўся на рускай мове ў 1884 годзе ў Пецярбурзе групай студэнтаў з Беларусі. Улічваючы рэальныя магчымасці таго часу, нізкі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці народа, яны не ішлі далей дасягнення дзяржаўнай самастойнасці Беларусі ў складзе будучай Расійскай федэрацыі, што таксама нельга не прызнаць прагрэсам у развіцці палітычнай думкі, паколькі беларусы ўжо ў некалькіх пакаленнях жылі без сваёй уласнай дзяржавы, ва ўмовах страшэннай асіміляцыі з боку палякаў і рускіх. Вось як пра гэта пісалася ў другім нумары часопіса «Гомон»: «Вядома, у народзе пакуль яшчэ няма свядомага імкнення да федэратыўнай незалежнасці ў тым яе выглядзе, як гэта разумее інтэлігенцыя, але неабходнасць гэтай незалежнасці вынікае сама сабой з усведамлення народам сваёй розніцы ад суседзяў, гэта самастойнасць вынікае з эканамічных і кліматычных умоў Беларусі, шмат адменных ад умоў іншых абласцей Расіі, з арыгінальнасці характару самога народа».

Высакародным пачуццём выратаваць беларускі народ ад навіслай над ім рэальнай пагрозы загінуць прасякнуты змешчаны ў гэтым нумары «Гомона» ананімны артыкул, які доўгі час у рукапісе хадзіў па руках беларускіх студэнтаў Пецярбурга. «Без усведамлення сваёй асобы кожным чалавекам,— пісалася ў ім,— народ быў бы статкам; без усведамлення сваіх асаблівасцяў кожным народам такім статкам было б усё чалавецтва». Аўтар ананімнага артыкула не пагаджаецца з пазіцыяй тых, хто лічыць, «калі нацыя не зможа абараніць сваю самастойнасць або валодае слабай культурай і слабай фізічнай сілай, дык яна павінна быць паглынутай іншай нацыяй— моцнай», а, наадварот, заклікае дапамагчы ёй стаць на ногі, праявіць сябе. Зыходзячы з такой гуманістычнай пасылкі, ён выказваецца за неабходнасць «энергічна абараняць Беларусь як ад польскага, так і ад вялікарасейскага гвалту, які той і другі бок абавязваецца ўбраць у мяккую форму дабрадзейнага, быццам бы для Б[еларус]і культурнага ўздзеяння і заступніцтва».

Рэдакцыя часопіса «Гомон» з настойлівай просьбай звярталася да інтэлігенцыі прысвяціць сябе распаўсюджванню такіх ідэй у беларускім народзе, каб ён хутчэй і глыбей разумеў сваю ролю ў справе дасягнення федэратыўнай незалежнасці. І трэба сказаць, што інтэлігенцыя з вялікім разуменнем паставілася да такой просьбы. Акрамя беларускіх народнікаў, са сваёй праграмай па нацыянальным пытанні ішлі ў масы і рэвалюцыйна настроеныя сацыял-дэмакраты, што дапамагала фармаванню ў значнай часткі беларусаў пазітыўнага стаўлення да ўтварэння ўласнай дзяржавы на федэратыўных прынцыпах ці цалкам незалежнай. Паступова і ў нашым краі з'яўлялася ўсё больш людзей, якія не хацелі глядзець на сябе як на тыпова плебейскую, недзяржаўную нацыю, а жылі думкай, як і самім стаць на шлях самастойнага нацыянальна-дзяржаўнага развіцця.

**Шмат зрабіла для абуджэння ў народзе думкі мець няхай сабе і самую прымітыўную форму суверэннасці Беларуская сацыялістычная грамада (да снежня 1903 г. называлася Беларускай рэвалюцыйнай грамадой). Да гэтага часу ў Еўропе не сціхаў рух за стварэнне незалежных нацыянальных дзяржаў. з'явілася багата літаратуры па гэтай праблеме, з якой. несумненна, былі знаёмы не толькі кіруючыя асобы, але і многія радавыя члены БСГ. У гэтым жа плане пазітыўна ўплывалі на іх і нацыянальна-дэмакратычныя працэсы ў суседняй Польшчы. Але калі апошняя ставіла мэтай поўны выхад са складу Расійскай імперыі і ўтварэнне суверэннай польскай дзяржавы, дык БСГ, улічваючы спецыфіку нацыянальнага руху ў краі, абмяжоўвалася толькі, на выпадак краху царскай імперыі, дасягненнем аўтаноміі беларускага народа ў межах Расійскай федэратыўнай рэспублікі. Несумненна, і гэта быў важны крок на шляху да будучага рэальнага дзяржаўнага суверэнітэту беларускага народа. бо арганізацыя яго жыцця на правах аўтаноміі ў складзе Расіі паступова выпрацоўвала б у людзей звычку самастойна вырашаць усе найбольш актуальныя праблемы эканомікі, палітыкі і культуры. абуджала б у шырокіх народных масах цалкам незалежніцкія настроі. Далейшы ход гістарычных падзей на Беларусі менавіта і набыў такі характар.**

Нацыянальныя пачуцці моцна абудзіліся ў недзяржаўных народаў Еўропы, у тым ліку і беларускага, у гады першай сусветнай вайны. Яны вельмі хутка ўсвядомілі, што іх роля ў гэтай бойцы заключаецца ў тым, каб быць таннай разменнай манетай у руках двух магутных манархаў — расійскага і германскага. Нікому так цяжка не дасталося на вайне, як беларускаму народу. Без асаблівага жадання з яго боку, а, наадварот, часта пад прымусам велізарныя патокі беларусаў рушылі на ўсход з месцаў магчымых баёў дзвюх варожых сіл. Там, дзе некалі зелянела рунь, пасвіліся статкі жывёлы, чулася гамана занятых працай людзей, усталявалася нязвыклая, мёртвая цішыня. Замірала жыццё на велізарнай тэрыторыі этнічных беларусаў. Усе з іх, хто трапіў у катэгорыю бежанцаў, штодзённа павінны былі весці нялёгкае змаганне не толькі за біялагічнае, але і нацыянальнае выжыванне, бо ў новых месцах даводзілася жыць па чужых законах і традыцыях. Незайздросным быў лёс і тых беларусаў, што засталіся на занятай кайзераўскімі войскамі тэрыторыі ці жылі на ўсход ад лініі фронту і з дня на дзень чакалі прыходу на іх зямлю чужынцаў.

Сённяшнія пакаленні беларусаў маюць усе падставы ганарыцца, што ў той неверагодна трагічны для іх нацыі час знайшліся смелыя і разумныя людзі, якія выратаванне яе лічылі даражэй за сваё ўласнае жыццё. І дасягнуць надзейнага выратавання яе, справядліва меркавалася, можна будзе толькі набыўшы нацыянальную незалежнасць, стварыўшы сваю дзяржаву, галоўнай мэтай якой стане абарона інтарэсаў беларускага народа ад любых замахаў. Не забыўшыся сваёй гісторыі, сёй-той выношваў думку і аб стварэнні шматэтнічнай дзяржавы як пераемніцы колішняга Вялікага княства Літоўскага.

Важным крокам на шляху сталення нацыянальна-дзяржаўнай самасвядомасці беларусаў трэба лічыць іх настойлівыя намаганні любой цаной выйсці ў якасці самабытнага народа на міжнародную палітычную арэну. Першымі ад яго імя такое зрабілі Вацлаў Ластоўскі і Язэп Салавей, якія ў красавіку 1916 года ўдзельнічалі ў Канферэнцыі народаў Расіі (адбывалася ў Стакгольме) і падпісалі тэлеграму на імя прэзідэнта ЗША В. Вільсана. З іх вуснаў удзельнікі канферэнцыі пачулі, пад якім сацыяльным і нацыянальным прыгнётам Расійскай імперыі даводзіцца жыць беларусам, як страшэнна пагоршылася іх становішча ў выніку вайны з Германіяй.

Праз тры месяцы беларусы зноў загаварылі ўласным голасам на міжнароднай палітычнай арэне. На гэты раз яны выкарысталі трыбуну арганізаванага «Саюзам Нацыянальнасцяў» III Кангрэса нацый, што праходзіў у чэрвені 1916 года ў Лазане. Галоўным выступоўцам на ім быў Іван Луцкевіч. У яго прамове выразна прагучала нежаданне надалей жыць пад прыгнётам Расійскай імперыі, падкрэслівалася асаблівая роля ў палітычнай гісторыі беларускага народа наяўнасці такіх яго дзяржаў, як Полацкае княства і Вялікае княства Літоўскае, выказвалася ўпэўненасць, што прагрэсіўныя сілы Еўропы з павагай паставяцца да палітычных правоў беларусаў.

Дзесяцігоддзямі падобнага роду факты змагання за нацыянальна-дзяржаўную незалежнасць беларускія вучоныя стараліся не выносіць на старонкі сваіх прац, каб у чытача не склаліся ўражанні, што на крутых зломах гісторыі ў беларусаў было шчырае і моцнае жаданне выйсці з-пад невыноснай апекі Расійскай імперыі, хоць дзяржаўнай нацыяй у апошняй і з'яўляўся блізкародасны ім рускі народ. Пахвальна, што гэтай праблемай нашай нацыянальнай гісторыі ўсур'ёз зацікавіліся маладыя гісторыкі, у прыватнасці Алесь Ціхаміраў, якім трэба крытычна перагледзець усё, што напісана іх папярэднікамі.

І далей. Ужо сам факт, што менавіта ў найбольш цяжкі перыяд вайны, калі яе смяротны плуг уздоўж і ўпоперак араў нашу зямлю, у беларускага народа не апусціліся рукі і не падкасіліся ногі, а, наадварот, у яго лепшым асяроддзі спелі думкі аб стварэнні ўласнай дзяржаўнасці, былі зроблены першыя крокі ў гэтым напрамку, пераканаўча сведчыць аб тым, што гэты спакутаваны ад шматвяковай паланізацыі і русіфікацыі народ канчаткова не памёр, што з яго памяці так і не выбілі ўспамінаў аб колішнім незалежным дзяржаўным жыцці, якое асабліва прыстойным было ў перыяд Вялікага княства Літоўскага.

**Пад пазітыўным уздзеяннем тых падзей, што былі выкліканы нацыянальным рухам у краінах Еўропы і ў самой Расійскай імперыі, а таксама дзякуючы шырокай прапагандзе ідэй нацыянальнай незалежнасці Беларусі, значная частка яе насельніцтва, асабліва перадавыя станы інтэлігенцыі, яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі пачалі прыхільна ставіцца да думкі займець уласную дзяржаўнасць. Для масавага далучэння беларускага народа да ідэі дзяржаўнага суверэнітэту шмат зрабіла грамадска-палітычная і літаратурная беларускамоўная газета «Гоман» («Homan»), што выдавалася ў Вільні з лютага 1916 па 1918 год, г. зн. у перыяд, калі большасць тэрыторыі нашага краю знаходзілася ў паласе функцыянавання германскіх акупацыйных улад. Дарэчы, на выданне газеты апошнія без усялякіх ваганняў далі дазвол, хаця яна актыўна выступала, асабліва як рэдактарам быў В. Ластоўскі. за поўную дзяржаўную незалежнасць Беларуска-Літоўскага краю ў межах былога Вялікага княства Літоўскага. Цяжка сказаць. ці садзейнічала б Германія сур'ёзнаму практычнаму пераўтварэнню гэтай ідэі ў жыццё. але пакуль вялася вайна, ёй (Германіі) было выгадна. што адзін з даволі значных па тэрыторыі і колькасці насельніцтва рэгіёнаў Расійскай імперыі так рашуча ідзе на аддзяленне ад яе.**

Заканамернага жадання беларусаў жыць ва ўласнай дзяржаве не прызнавалі як перад вайной, так і ў час яе бальшавікі, сярод якіх тады ў нашым краі значны працэнт падаў на асоб небеларускай нацыянальнасці. У час вайны такія суадносіны сталі яшчэ больш выразнымі, чаму спрыяла праходжанне па тэрыторыі Беларусі руска-германскага фронту. Вайскоўцы з'яўляліся асноўнай сацыяльнай сілай бальшавіцкіх арганізацый на Беларусі. Іх нацыянальны склад ніколькі не адпавядаў этнічнай структуры насельніцтва нашага краю. Пасля кастрычніцкіх падзей 1917 года яны адразу ж захапілі ў свае рукі ўсе ключавыя пазіцыі ў палітычным жыцці і доўгі час не дапускалі дзеяння на тэрыторыі Беларусі дэкрэтаў савецкай улады, у якіх гарантавалася ўсім народам былой царскай Расіі права на нацыянальную незалежнасць. Абсалютная большасць камуністаў, што шантажом, падманам і гвалтам прарвалася да ўлады на тэрыторыі Беларусі, стаяла на пазіцыях велікарускага дзяржаўнага шавінізму, лічыла яе чыста рускім краем, не жадала прыслухацца да праўдзівага голасу тых, хто так энергічна на працягу многіх гадоў рыхтаваў беларускі народ да стварэння сваёй нацыянальнай дзяржавы. На Беларусі ўзнікла сапраўдная канфліктная сітуацыя паміж тымі, хто стаяў за дзяржаўную незалежнасць гэтага краю, і тымі, хто арганічна не ўспрымаў такой ідэі. Перамаглі апошнія, бо на іх баку стаялі ўзброеныя да зубоў вайскоўцы, уклад якіх у перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі не ідзе ні ў якое параўнанне з тым, што зрабіла дзеля гэтага яе цывільнае насельніцтва. Гэта было адной з прычын, што яго лёсам так самастойна і вольна распараджаліся напаўваенныя савецкія і партыйныя органы.

(Заканчэнне будзе).

НАШ КАЛЯНДАР

## Абуджала «Маладая Беларусь»

**Значны ўклад у развіццё выдавецка-асветніцкай справы на тэрыторыі Беларусі ўнесла выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца». Ёй належыць і ініцыятыва стварэння альманаха «Маладая Беларусь» —па сутнасці правобраза літаратурна-грамадскага часопіса. Абвестка аб выпуску «Маладой Беларусі» з'явілася на старонках газеты «Наша Ніва» ў канцы 1911 года, а ў пачатку 1912-га выйшаў і першы нумар. У прадмове да яго адзначалася: «Усё больш і больш знаходзіцца між прабудзіўшыміся беларусамі такіх думак і твораў, каторым для розных прычын няма месца ў сучасных выданнях беларускіх, і шмат знаходзіцца такіх людзей, каторых сучасныя выдання беларускія не здаволіваюць зусім. Вось дзеля таго-то чуецца патрэба такога выдання, дзе бы магла падзяліцца думкамі ўся маладая Беларусь. Такім выданнем мы бы з ахвотаю віталі месячнік ці адным словам часопіс. Але сягоння мы можам пачаць толькі ад зборніка; хрысцім яго «Маладая Беларусь».**

**Меркавалася, што ў далейшым выданне будзе мець тры раздзелы. У грамадскім планавалася асвятляць «неадложныя для беларускага грамадзянства справы». Навуковы раздзел расшыфроўваўся наступным чынам: «навучнае пазнанне Беларусі». Ствараўся і аддзел «прыгожага пісьменства і штукі», г. зн. мастацтва. Як сведчылі выдаўцы, «быць супрацоўнікамі абяцалі нашы беларускія песняры і публіцысты, а таксама вядомыя вучоныя».**

**Выйшла ўсяго тры нумары «Маладой Беларусі». Два ў 1912 годзе і адзін у 1913-ым. На старонках альманаха пабачылі свет некаторыя творы Я. Коласа, драматычная паэма Я. Купалы «Сон на кургане». апавяданні «Асеннія лісты», «Лішняя». «Зялёнка» Цёткі. «Абразкі» З. Бядулі, вершы Ц. Гартнага, К. Буйло, А. Гурло, Я Журбы і іншых. У «Маладой Беларусі» было 159 старонак мастацка-публіцыстычнага тэксту і яшчэ 7 старонак аб'яў.**

●

**80 гадоў з дня нараджэння польскага пісьменніка, перакладчыка беларускай літаратуры Мацея Юзафа Канановіча споўнілася 1 лютага (памёр у 1987 годзе). На польскую мову пераклаў кнігі Я. Брыля «Глядзець на траву», А. Адамовіча «Хатынская аповесць», А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка «Я з вогненнай вёскі...» (разам з Ю. Літвінюком), Д. Бічэль-Загнетавай «Ты—гэта ты».**

●

**90 гадоў з дня нараджэння празаіка Сымона Хурсіка 13 лютага (памёр 31 сакавіка 1972 года). Друкаваўся з 1924 года. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Шляхамі навальніц». «Першы паўстанак». аповесці «Чорны мост». На беларускую мову пераклаў аповесць А. Серафімовіча «Горад у стэпе».**

●

**80 гадоў з дня нараджэння літаратуразнаўцы і крытыка Навума Перкіна 15 лютага (памёр 2 лютага 1976 года). У друку выступаў з 1946 года. Выйшлі кнігі «Аркадзь Куляшоў. Паэтычная творчасць», «Творчасць Петруся Броўкі», «Абсягі думкі». брашура «Пятро Глебка і іншыя. Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры», «Гісторыі савецкай шматнацыянальнай літаратуры». Напісаў таксама аўтабіяграфічныя аповесці «Я стаў партызанам», «Хлопчык з мястэчка».**

●

**280 гадоў з дня нараджэння дзяржаўнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, польскага і беларускага пісьменніка Удальрыка (Ульрыка) Крыштафа Радзівіла спаўняецца 19 лютага (памёр у 1763 годзе). Уводзіў беларускую мову ў спектаклі прыдворных тэатраў. Па-беларуску гаворыць і адзін з герояў твора Э. Бурселя «Камедыя Эзопа», перапрацаванага У. К. Радзівілам.**

**Некалькі месяцаў таму «ЛіМ» (1991 г., №№ 29—36) надрукаваў артыкул доктара гістарычных навук Л. Лыча «Рэлігія і мова», у якім, на маю думку, нямала спрэчных і недастаткова абгрунтаваных меркаванняў. Сама тэма артыкула мне вельмі блізкая, бо я і ў семінарыі выкладаю па-беларуску, і пропаведзі ў царкве прамаўляю на беларускай мове. Як праваслаўны беларускі святар, адчуваю патрэбу выказаць свае погляды на закранутыя ў артыкуле праблемы.**

СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА

# Якая царква была нацыянальнай

## Уніяцтва — гэта экспансія каталіцызму

Д-р Л. Лыч дапускае беспадстаўныя сцвярджэнні, калі піша пра ўвядзенне уніі на нашай Бацькаўшчыне. Увядзенне уніі аўтар апраўдвае патрэбай не дапусціць **экспансіі рэлігій** Польшчы і Рускай дзяржавы. Пагроза з боку Польшчы сапраўды была. Але ж увядзенне уніі не скасавала гэтай пагрозы, а, наадварот, зрабіла яе проста непазбежнай: тое, што да уніі было толькі пагрозай (экспансія каталіцызму), праз унію стала рэальным фактам. Мушу адзначыць, што аўтар артыкула памылкова ўжывае багаслоўскі тэрмін «канфесія» адносна уніяцтва. Канфесія — гэта веравызнанне. Уніяцтва не мае ніякіх адрозненняў у веравучэнні ад каталіцызму і таму не складае асобнай канфесіі. Уніяцтва — гэта каталіцтва ў праваслаўным абрадзе.

Што датычыць пагрозы экспансіі на Беларусь рэлігіі Маскоўскай дзяржавы, то яе проста не магло быць па той прычыне, што на Беларусі ўжо была **тая ж** рэлігія, што і ў Маскоўскай дзяржаве.

На думку д-ра Л. Лыча, на беларускіх землях адчувалася ў XVI стагоддзі патрэба стварыць канфесію незалежную ад польскай каталіцкай і рускай праваслаўнай цэркваў. Дзіўна, але аўтар не заўважае відавочнага: Праваслаўная Царква на беларускіх землях у XVI стагоддзі менавіта і была такой канфесіяй, якая не залежала ні ад Праваслаўнай Царквы Маскоўскай дзяржавы (бо была ў юрысдыкцыі Канстанцінопаля), ні ад польскай каталіцкай царквы. Калі ж увялі унію, то уніяцтва з самага першага дня трапіла ў залежнасць ад Рыма і ад польскіх каталіцкіх біскупаў, што відаць з «Апостальскай канстытуцыі аб уніі народу рускага з Касцёлам Рымскім», выдадзенай папам Кліментам VIII.

«Брэсцкая царкоўная унія 1596 года, — піша д-р Л. Лыч, — не была чымсьці гвалтоўна і раптоўна навязанай праваслаўнаму насельніцтву Беларусі». Сапраўды, у Рыме думалі пра гэта ўжо даўно і шмат якія захады рабілі, каб УВЕСЦІ унію. Езуіт Пётр Скарга яшчэ ў 1577 годзе выдаў кнігу «Аб еднасці Царквы Божай і аб грэчаскім ад гэтай еднасці адступленні», дзе даводзіў, што Праваслаўнай Царкве трэба перайсці ў каталіцтва і падпарадкавацца Рыму. Папа Грыгорый XIII, вядомы сваім праслаўленнем крывавай Варфаламеевай ночы ў Парыжы, пасылаў у Маскву да Івана Грознага езуіта Антонія Пасевіна з прапановай аб уніі, а калі маскоўскі цар адмовіўся ад прапановы, то папа вырашыў рукамі тых жа езуітаў дзейнічаць у польска-літоўскай дзяржаве. Пад уплывам езуітаў польскі кароль Стэфан Баторый прысвоіў сабе права выбіраць і назначаць епіскапаў. І каб прынізіць Праваслаўную Царкву і разлажыць яе ўнутранае жыццё, на епіскапскія кафедры ставіліся людзі недастойныя. Хіба мог бы ў нармальных умовах царкоўнага жыцця заняць епіскапскую кафедру чалавек, які, будучы праваслаўным, у маладосці перайшоў у каталіцтва, потым прыняў кальвінізм, а потым зноў вярнуўся ў Праваслаўе? А менавіта такім чалавекам быў Іпацій Пацей, адзін з галоўных ініцыятараў уніі. Па загадзе караля ён мог бы і яшчэ не адзін раз памяняць веру.

Акрамя таго, свецкім асобам у Рэчы Паспалітай было нададзена права патранату над цэрквамі і манастырамі, у выніку чаго польскія паны-католікі ставілі на прыходы і ў манастыры каго хацелі. Дарма д-р Л. Лыч не верыць рускім дарэвалюцыйным гісторыкам, калі яны пішуць пра нізкі маральны ўзровень тагачаснай праваслаўнай іерархіі (у тым ліку і ініцыятараў уніі) у польска-літоўскай дзяржаве. Дарэвалюцыйная руская гістарычная навука мае ў свеце шырокае прызнанне і аўтарытэт, чаго, на жаль, нельга сказаць пра савецкую гістарычную школу. Але паколькі д-р Лыч не мае даверу да рускіх царкоўных гісторыкаў, то я дазволю сабе прывесці цытату з кнігі аўтара Т. Жыхевіча пра Іасафата Кунцэвіча. У ёй надрукавана вынятка з ліста праваслаўнай шляхты мітрапаліту Кіеўскаму Анісіфару (які быў, дарэчы, двойчы жанаты, што супярэчыць праваслаўным канонам) ад 14 лютага 1585 года. Шляхта піша пра жудасныя непарадкі ў царкоўным жыцці, напрыклад, пра тое, што ў манастырах жывуць ігумены з жонкамі (!) і дзецьмі.

А хіба можна паверыць Л. Лычу, калі ён піша, што і кіраўнікі Праваслаўнай Царквы думалі аб уніі, бо Праваслаўная Царква нібыта «не магла самастойна адстаяць у недатыкальнасці сваю веру ад націску польскай каталіцкай царквы і яе патрона — рымскага папы»? Хачу запытаць: чаму не магла? Не зважаючы на жорсткі прымус, частка праваслаўнага насельніцтва ўсё ж не прыняла уніі і захоўвала на працягу двух з паловай стагоддзяў сваю веру ў чысціні і недатыкальнасці. Калі змагла гэта зрабіць **меншасць** праваслаўных, то чаму ж не маглі ўсе разам?

Аўтар артыкула выказвае меркаванне, што ініцыятары уніі епіскапы Іпацій Пацей і Кірыла Цярлецкі спадзяваліся, што, далучыўшыся да Рыма, іх Царква будзе больш адпавядаць «этнакультурным запатрабаванням сваіх вернікаў». Дазволю сабе з гэтым не пагадзіцца. **Праваслаўная Царква Вялікага Княства поўнасцю адпавядала этнакультурным запатрабаванням народа.** Незадаволеных у гэтых адносінах не было. А калі ў гэтым напрамку і трэба было б зрабіць яшчэ нейкія захады, то каму ж было рабіць, як не ім самім, епіскапам? Наіўна думаць, што далёкі Канстанцінопальскі патрыярх мог быць у гэтым перашкодай, гэтаксама як далёкі Рымскі папа мог гэтаму паспрыяць і быў у гэтым зацікаўлены.

Рым меў зусім іншыя процілеглыя мэты, якія засведчаны шматлікімі гістарычнымі дакументамі. Адзін з іх — выказванне легата Антонія Пасевіна — і прыводзіць у сваім артыкуле сам д-р Л. Лыч: «Здаецца, выгадней паступова прыцягваць рускіх да каталіцкай веры, дазволіўшы ім трымаць свае абрады і богаслужэнні, а ў далейшым пераканаць да прыняцця богаслужэбных абрадаў Рымскай Царквы... Можна дапусціць у заходняй Расіі часова богаслужэнні на грэчаскай мове, — яшчэ лепш на славянскай; гэта будзе тым выгадней, што дасць магчымасць маламалу непрыкметна перавесці рускіх ад уласных іх абрадаў і недасканалых да больш дасканалых, лацінскіх». Разважаючы над гэтымі словамі, д-р Лыч піша, што «маючая неўзабаве адбыцца царкоўная унія — гэта ўжо і не такая вялікая трагедыя». Няўжо шаноўны д-р Лыч не бачыць у гэтым выказванні езуіта Пасевіна рымскага плана паступовай дэнацыяналізацыі беларускага народа праз унію?

## Грэх здрады і адступніцтва

Каб даведацца, чым вабіла Ігнація Пацея і Кірылу Цярлецкага унія з Рымам, таксама не трэба вышукваць гіпотэз. Лепей зноў жа звярнуцца да гістарычных дакументаў. Калі ў 1591 г. чатыры праваслаўныя епіскапы тайна ад свайго мітрапаліта напісалі польскаму каралю, што згодны на унію, то прасілі толькі пакінуць без змен усе службы царкоўныя і даць ім тыя правы, якія мела каталіцкае духавенства. Задаволены кароль адказаў епіскапам: «Мы, гаспадар, ім самім, епіскапам, прасвітарам і ўсяму духавенству Царквы ўсходняй і рэлігіі грэчаскай абяцаем за сябе і за нашчадкаў нашых, што калі б хто-небудзь з патрыярхаў і мітрапалітаў наклаў на іх клятву, дык гэтая клятва ім і ўсяму духавенству ні ў чым не будзе шкодзіць... Абяцаем памножыць да іх ласку нашу, надаючы ім і кожнаму, хто схіліцца да уніі, свабод і вольнасцей у той жа меры, у якой маюць іх і рымскія духоўныя». Вось гэтымі абяцаннямі «свабод» і вольнасцей» і спакусіў кароль епіскапаў-адступнікаў. Ім падабалася таксама абяцанне караля абараніць іх ад клятваў вышэйшай іерархіі, хоць яны, як асобы духоўныя, ясна павінны былі ўсведамляць, што ніякая свецкая ўлада, тым больш кароль-католік, не мае права (гэта проста блюзнерства!) касаваць духоўныя забароны і загады не тое што патрыярха, а нават звычайнага святара.

Прыём, наладжаны папам Кліментам VIII епіскапам Іпацію Пацею і Кірылу Цярлецкаму, ясна паказаў разуменне Рымам сутнасці уніі. 23 снежня 1595 года епіскапы Пацей і Цярлецкі ў прысутнасці рымскіх кардыналаў сталі на калені перад папам, які сядзеў на троне, пацалавалі яго чаравік і падалі яму прашэнне прыняць епіскапаў Праваслаўнай Царквы Рэчы Паспалітай у еднасць з Рымскай Царквой. Потым абодва епіскапы прачыталі і падпісалі каталіцкае вызнанне веры і прысягнулі «клапаціцца пра захаванне ў цэласці і чысціні гэтай праўдзівай веры каталіцкай, па-за якой ніхто не можа дасягнуць збаўлення». Папа неўзабаве выдаў «апостальскую канстытуцыю» «Ad perpetuam rei memoriam» («На вечную памяць надзеі»), а крыху пазней — памятны медаль, на адным баку якога быў ён сам — Клімент VIII, а на другім баку — таксама ён, толькі ўжо на троне, а перад папам — на каленях «русін» і надпіс «Ruthenis receptis» («На прыняцце русінаў»).

У лютым 1596 года папа паведаміў каралю Жыгімонту III пра заключэнне уніі, прасіў яго і польскіх іерархаў дапамагаць уніі, а мітрапаліту Міхаілу (Рагозе) загадаў склікаць сабор епіскапаў, каб яны ўрачыста прызналі тое вызнанне веры, якое Пацей і Цярлецкі прывезлі з Рыма. І хаця дэпутаты ад беларускай і ўкраінскай шляхты на вальным сейме ў Варшаве аднадушна прасілі караля зняць з пасад епіскапаў-адступнікаў, кароль выдаў маніфест аб прызнанні уніі.

У пачатку кастрычніка 1596 г. у Брэсце быў скліканы сабор для вырашэння праблемы уніі. На сабор прыбылі экзарх Канстанцінопальскага патрыярха Нікіфар, экзарх Александрыйскага патрыярха Кірыл, мітрапаліт Міхаіл з сямю епіскапамі, шматлікімі архімандрытамі, протаіерэямі і свяшчэннікамі. З самага пачатку стала ясна, што большасць дэлегатаў — за вернасць Святому Праваслаўю. Прыхільнікі і працаўнікі уніі засядалі асобна. Варта заўважыць, што уніяты засядалі пад старшынствам КАТАЛІЦКАГА львоўскага архібіскупа Салікоўскага і сабор іхні складаўся з трох каталіцкіх біскупаў — легатаў папы, трох каралеўскіх паслоў, мітрапаліта Міхаіла Рагозы, пяці епіскапаў і трох архімандрытаў. Праваслаўны ж сабор быў куды большы. Тут былі экзархі Нікіфар і Кірыл, мітрапаліт Белградскі Лука, епіскапы Львоўскі Гедэон і Пярэмышльскі Міхаіл, адзінаццаць архімандрытаў, адзін ігумен, шаснаццаць протаіерэяў і намеснікаў, больш як 200 свяшчэннікаў. Акрамя духавенства, на сабор з'ехалася шмат свецкіх асоб, сярод якіх важна адзначыць ваяводу Кіеўскага сенатара князя Канстанціна Астрожскага з сынам Аляксандрам і сенатара Навагрудскага Аляксандра Палубенскага. Усе яны ПАДТРЫМЛІВАЛІ праваслаўны сабор. Так што члены уніяцкага сабора ў параўнанні з праваслаўным выглядалі не кім іншым, як групай змоўшчыкаў.

Праваслаўныя тройчы запрашалі мітрапаліта і епіскапаў-уніятаў на свой сабор, але не дачакаліся іх. Нарэшце ад мітрапаліта яны атрымалі адказ: «Што зроблена, тое зроблена; ці добра, ці кепска мы зрабілі, што ПАДДАЛІСЯ РЫМСКАЙ ВЕРЫ, толькі зараз ужо перарабіць гэта немагчыма». Як бачым, і самі стваральнікі уніі прызнаюць, што была яна справай прымусу.

На трэці дзень працы сабора былі абвешчаны наказы, дадзеныя ўдзельнікам яго шляхтай і брацтвамі: пазбавіць епіскапаў-адступнікаў архіерэйскіх кафедр, не дапусціць заключэння уніі з Рымам, без ведама ўсіх праваслаўных патрыярхаў і згоды ўсёй Царквы і патрабаваць ад урада, каб Праваслаўная Царква карысталася правамі, зацверджанымі каралеўскай прысягай. Праваслаўны сабор АСУДЗІЎ унію і пазбавіў сану епіскапаў, якія яе прынялі.

Уніяцкі сабор, са свайго боку, аб'явіў адлучанымі ад царквы тых, хто НЕ ПРЫЗНАЎ унію. Акт гэты сам па сабе не меў сэнсу. Ад якой царквы уніяты і католікі хацелі адлучыць праваслаўных? Ні да Рымскай, ні да уніяцкай царквы праваслаўныя не належалі, а адлучаць іх ад Праваслаўнай Царквы за тое, што яны засталіся ёй вернымі, было абсурдам. Выдаючы анафему на праваслаўных, епіскапы-здраднікі фактычна праклінalі і тыя шэсць стагоддзяў праваслаўнага царкоўнага жыцця сваёй Бацькаўшчыны, якія мінулі ад Хрышчэння Русі.

Не зважаючы на тое, што прыхільнікаў уніі можна было палічыць на пальцах, а супраць уніі было амаль усё духавенства і ўвесь народ, кароль зацвердзіў пастанову уніяцкага сабора. Тым самым Праваслаўная Царква апынулася фактычна на нелегальным становішчы.

Доктар Л. Лыч лічыць, што праваслаўныя аўтары перабольшваюць, калі пішуць пра гвалтоўнае ўвядзенне уніі. Але ж ёсць факты, якія выразна пра гэта сведчаць. Валынскі пасол Лаўрэнцій Дрэвінскі на сейме 1620 года ў прысутнасці караля так гаварыў пра становішча Праваслаўнай Царквы: «Ужо ў вялікіх гарадах цэрквы запячатаны, у манастырах няма манахаў — там скаціну зачыняюць; дзеці без хрышчэння паміраюць, целы памерлых без царкоўнага абраду з гарадоў, як падаль, вывозяць; мужы з жонкамі жывуць без шлюбнага благаславення, народ памірае без споведзі, без прычасця. Няўжо гэта не Самому Богу крыўда і няўжо Бог не будзе за гэта Мсціўцам? Не кажучы пра другія гарады, скажу, што ў Львове робіцца: хто не уніят, той у горадзе жыць, гандляваць і ў рамесныя цэхі быць прыняты не можа; мёртвае цела хаваць, да хворага з Тайнамі Хрыстовымі адкрыта ісці нельга. У Вільні, калі хочуць пахаваць цела набожнага (праваслаўнага. — **С. Г.**) рускага, павінны вывозіць яго праз тую браму, праз якую адно смецце гарадское вывозяць. Манахаў праваслаўных ловяць на вольнай дарозе, б'юць і ў турмы кідаюць. У чыны грамадзянскія людзей дастойных і вучоных не праводзяць толькі таму, што не уніяты... Ужо дваццаць гадоў на кожным сейміку, на кожным сейме горкімі слязьмі молім, але вымаліць не можам, каб пакінулі нас пры правах і вольнасцях нашых»... Вось так пашыралася унія. І дзейнасць вядомага сваёй жорсткасцю Іасафата Кунцэвіча, які, «заганяючы» людзей у унію, на некалькі год пазачыняў усе праваслаўныя храмы ў Полацкай епархіі, зусім не была, як лічыць д-р Лыч, «грубым парушэннем дасягнутай уніяцкімі епіскапамі дамоўленасці з рымскім папам», бо хаця дзеянні Кунцэвіча асудзіў гетман Леў Сапега, але іх **адобрыў** Рымскі папа, а з ім і ўся каталіцкая (і, вядома, як частка яе, уніяцкая) царква. Пасля забойства Кунцэвіча «свяцейшы» Рымскі папа Урбан VIII пісаў польскаму каралю: «Дзе такое жорсткае злачынства кліча да помсты, пракляты чалавек, які засцерагае меч свой ад крыві. Значыць, магутны кароль, ты не павінен стрымліваць меч і агонь. Няхай адчуе ерась, што злачынства цягне за сабой пакаранне. Пры такіх агідных злачынствах міласэрнасць ёсць жорсткасць. Таму няхай адкладзе Ваша Мосць усялякае прамаруджванне і, запаліўшыся набожным абурэннем, суцешыцца слязамі бязбожнікаў, пакараных за абразу рэлігіі». Сто чалавек кароль прысудзіў да смерці ў Віцебску, некалькі — у Полацку і Оршы. Віцебск пазбавілі магдэбургскага права, ратушу разбурылі, праваслаўную царкву зруйнавалі, а замест яе за кошт жыхароў пабудавалі уніяцкую. А 16 мая 1643 года папа Урбан VIII падпісаў дэкрэт аб бэатыфікацыі Іасафата Кунцэвіча. (Бэатыфікацыя — абвяшчэнне блажэнным — гэта першы этап праслаўлення святых у каталіцкай царкве). Поўнасцю кананізаваны Кунцэвіч быў 29 чэрвеня 1867 года папам Піем IX. Такім чынам, Каталіцкая Царква засведчыла, што ў яе разуменні змаганне з Праваслаўем з'яўляецца шляхам да святасці. Больш дастойнага чалавека для кананізацыі уніяты ў сваім асяроддзі не знайшлі і па сённяшні дзень.

## Міф пра уніяцтва, як нацыянальную рэлігію

Шмат увагі д-р Лыч удзяляе высвятленню нацыянальнага характару уніяцкай царквы і тут таксама дапускае шэраг беспадстаўных сцвярджэнняў. Ён піша, напрыклад, што уніяцкая царква карысталася ў богаслужэнні беларускай мовай. Усякі чалавек, знаёмы з богаслужэбнымі чынапаследаваннямі, ведае, што не маючы богаслужэбных тэкстаў, правіць



Фота В. МАЙСЮКА.

нямі, ведае, што, не маючы богаслужэбных тэкстаў, правіць набажэнства немагчыма. А богаслужэбныя кнігі на беларускую мову уніятамі не перакладаліся. Доктар Л. Лыч гатовы дапусціць, што такія пераклады былі, але не дайшлі да нас, былі спалены пасля скасавання уніі. **Але ж усе** кнігі спаліць немагчыма. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі па ўсёй Савецкай краіне таксама палілі кнігі, іконы, руйнавалі храмы, але не здолелі знішчыць усё. Не папалілі і уніяцкіх выданняў. Яны ёсць. Толькі не на беларускай мове, а на царкоўнаславянскай. Мне самому не раз даводзілася гартаць іх. Зусім нядаўна, напрыклад, мне прынеслі уніяцкае выданне Евангелля 1780 года. Я хачу асабліва падкрэсліць той факт, што няма не толькі богаслужэбных кніг, выдадзеных уніятамі па-беларуску, але няма таксама ніякіх звестак пра тое, што хто-кольвек з уніятаў займаўся іх перакладам. Ведаем жа мы імёны Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага. Дзе ж імёны уніяцкіх перакладчыкаў?

Відавочна, гіпотэза пра тое, што уніяцкая царква карысталася беларускай або ўкраінскай мовай пры богаслужэнні, узнікла ад таго, што царкоўнаславянскую мову ў тыя часы ўсе ўкраінцы, беларусы і рускія ўспрымалі як родную. У XVI—XVII стагоддзях на беларускіх землях і царкоўнаславянскую, і беларускую мову часта называлі аднолькава — «рускай», але гэта зусім не азначае, што святар, разгарнуўшы ў 1780 годзе Евангелле на царкоўнаславянскай мове, чытаў яго «па-беларуску».

Каб толькі што сказанае мною было яшчэ больш пераканаўчым, прывяду два аўтарытэтныя сведчанні. У першым нумары часопіса «Унія», які выдала група менскіх уніятаў, змешчана гутарка рэдакцыі часопіса з галоўным у свеце беларускім уніятам айцом Аляксандрам Надсанам з Лондана. Айца Аляксандра спыталі, ці ёсць у Лондане, у беларускай бібліятэцы імя Скарыны, уніяцкія выданні. Айцец Аляксандр назваў некалькі, але ж... усе яны — на царкоўнаславянскай мове! Наступнае пытанне было пра тое, калі ж уніяцкія богаслужэбныя тэксты пачалі пісацца па-беларуску, на што айцец Аляксандр адказаў: «Хутчэй не тэксты, а набожныя песні, што гучалі пад час літургіі. Яны спяваліся па-беларуску»... На жаль, многія сучасныя даследчыкі, адарваныя ад царкоўнага жыцця, не разумеюць розніцы паміж мовай літургічных тэкстаў і мовай набожных народных песень, якія, дарэчы, гучалі не толькі ва уніяцкіх, але і ў праваслаўных храмах, толькі ва уніятаў яны гучалі пад час літургіі, якая ўсё часцей вычытвалася шэптам па сшытках, дзе царкоўнаславянскія тэксты былі перапісаны польскімі літарамі (уніяцкія святары былі ў большасці сваёй так моцна апалячаны, што не маглі служыць па-славянску). У праваслаўных жа храмах беларускія набожныя песні гучалі ў перапынках паміж богаслужэннямі. І «Богагласнікі» — зборнікі такіх песень — выдаваліся не толькі уніятамі, а і Праваслаўнай Царквой. Адно з позніх праваслаўных выданняў «Богагласніка» я маю асабіста. А песні гэтыя ў некаторых нашых храмах гучаць і цяпер.

Каб канчаткова высветліць пытанне, на якой мове служылі уніяты, запрашаю зазірнуць у выдадзены ў Рыме на ўкраінскай мове уніяцкі катэхізіс. «Наші церковні книги, — сказана там, — написані старослов'янською, або староукраїнською мовою. Це була кніжна мова наших предків. Ті церковні книги були перекладами грецьких церковних книг, що їх переклади виготовили в IX столітті апостоли слов'ян святі брати Кирило і Мефодій. Цим братам приписується також винахід кириличного письма, яким написані наші церковні книги» (Катихизм християнськоі віри для молоді і старших. Рим, 1967, с. 13—14). Да гэтага выразнага сведчання уніяцкага катэхізіса можна хіба дадаць толькі тое, што старaславянскую мову, называемую тут стараўкраінскай, мы маглі б з аднолькавым правам назваць і старабеларускай, і старарускай, бо гэта сапраўды наша супольная культурная спадчына.

Тут вельмі дарэчы ўспомніць словы рускага гісторыка М. Пагодзіна, які д-р Л. Лыч прыводзіць у сваім артыкуле: «Богаслужэнне на роднай агульназразумелай мове... ёсць краевугольны камень нашага маральнага стану... Калі рускі народ не зусім загрубеў, не пазбавіўся чалавечага аблічча ні з прычыны амаль трохсотгадовага мангольскага прыгнёту, ні з прычыны іншых варожых падзей, калі не патухла ў нас, нягледзячы ні на якія буры і віхуры, знешнія і ўнутраныя, іскра святога агню, здольная ў шчаслівы час загарэцца, праліць святло і цеплыню на прасторы невымерныя, дык гэтым шчасцем абавязаны мы богаслужэнню на роднай мове». Далей д-р Лыч заўважае, што беларусы не маюць такога шчасця. Відаць, шаноўны доктар гістарычных навук думае, што ў Расіі богаслужэнне правіцца на рускай мове. Мушу расчараваць яго: не, не на рускай, а... на царкоўнаславянскай, аднолькава блізкай і роднай праваслаўным вернікам і Расіі, і Беларусі, і Украіны.

**Ні ў адным храме Рускай Праваслаўнай Царквы богаслужэнне не вялося і не вядзецца па-руску.** Аднак яшчэ не знайшлося чалавека, які б на гэтай падставе абвінаваціў Праваслаўную Царкву ў антырускасці. А вось на Беларусі можна пачуць, а часам нават і ў газеце прачытаць, што Царква супраць беларускай мовы, бо службы правяцца не па-беларуску. Хачу ўсіх запэўніць, што Праваслаўная Царква з аднолькавай пашанай ставіцца і да беларускай, і да рускай, і да любой іншай мовы. Зусім дарэмна д-р Лыч ставіць пад сумненне выказванне Высокапрэасвяшчэнства мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага Філарэта пра тое, што Руская Праваслаўная Царква спрыяла развіццю нацыянальных моў і культур розных народаў.

**Хоць царкоўная гісторыя ў савецкіх інстытутах не выкладалася, аднак доктар гістарычных навук, які піша артыкул на царкоўна-гістарычную тэму, павінен ведаць, што да рэвалюцыі святары Рускай Праваслаўнай Царквы пераклалі Свяшчэннае Пісанне і богаслужэнне на дзесяткі моў. Прывяду некалькі прыкладаў. Магістр багаслоўя архімандрыт Макарый (Глухараў) за 14 год місіянерскай працы на Алтаі пераклаў Евангелле, асобныя фрагменты з кніг Старога Запавету, Дзеяў і пасланняў апостальскіх, а таксама склаў катэхізіс для алтайцаў. У 1865 годзе пачало правіцца богаслужэнне на алтайскай мове, а ў 1874 годзе Свяцейшы Сінод дазволіў Алтайскай місіі мець сваю друкарню. Архіепіскап Іркуцкі Ніл (Ісаковіч) са сваімі супрацоўнікамі пераклалі шмат царкоўных тэкстаў на бурацкую мову, і ў 1867 годзе было ўведзена богаслужэнне на гэтай мове. Епіскап Інакенцій (Веніямінаў) з іншымі святарамі пераклалі на якуцкую мову ўвесь Новы Запавет, акрамя Апакаліпсіса, некаторыя старазапаветныя кнігі, а таксама склалі кароткія духоўныя настаўленні. У 1958 годзе адбылося першае праваслаўнае богаслужэнне па-якуцку. У другой палове XIX стагоддзя рускія місіянеры на чале з архіепіскапам Мікалаем (Касаткіным) працавалі над перакладам свяшчэнных тэкстаў на кітайскую мову і ў 1866 годзе пачалі на гэтай мове служыць. На пачатку XX стагоддзя рабіліся пераклады Свяшчэннага пісання і малітваў на мовы народаў Камчаткі.**

Чаму ж на сённяшні дзень мы не маем праваслаўнага богаслужэння на рускай, беларускай і ўкраінскай мовах? Канечне, прычына тут не ў адмоўным стаўленні Царквы да гэтых трох народаў, моў і культур. Прычына іншая: праваслаўнаму беларусу, украінцу і рускаму, якія былі выхаваны ў набожнай сям'і, з маленства чулі царкоўныя спевы і чытанне Евангелля па-славянску і ведалі на памяць шмат малітваў, царкоўнаславянская мова **НЕ ЧУЖАЯ**. Да рэвалюцыі яна вывучалася ў школе, і таму разуменне богаслужэння на ёй не выклікала асаблівых цяжкасцяў. А тая акалічнасць, што мова гэтая не ўжываецца ў будзённым жыцці, а з'яўляецца толькі мовай малітвы, робіць богаслужэнне ўрачыстым, узнёслым. Пераклад на звычайную штодзённую мову нібы «прызямляе» яго. Невыпадкова, што нават пераклад Бібліі на рускую мову быў скончаны толькі ў 1875 годзе і прызначаўся не для богаслужэбнага ўжытку, а толькі для хатняга чытання.

## Шляхі рэлігійнага адраджэння на Беларусі

Моўная сітуацыя ў царкоўным жыцці на Беларусі мае свае гістарычныя асаблівасці. Да ўвядзення уніі Праваслаўная Царква ў Вялікім княстве Літоўскім у сваім штодзённым абыходзе і ў пропаведзі карысталася нацыянальнай мовай — той, на якой гаварыў народ. Пасля заключэння уніі Праваслаўная Царква, аслабленая і знясіленая, заставалася ёй вернай, а ва уніяцкай царкве няўхільна ішоў працэс паланізацыі. У выніку пашырэння уніі наша Бацькаўшчына страціла сваю нацыянальную інтэлігенцыю. Менавіта ў гэты час, у пачатку XVII стагоддзя, праваслаўная шляхта — Астрожскія, Заслаўскія, Хадкевічы, Тышкевічы, Вішнявецкія, Сангушкі, Пронскія, Саламарэцкія, Кішкі, Пузыны — пераходзіць у каталіцтва і апалячваецца, бо разумее, што унія — гэта часовая з'ява, усяго толькі пераходны этап. З пераходам шляхты ў польскае каталіцтва рэзка падае і прэстыж роднай мовы. Нарэшце, у 1696—1697 гадах беларуская мова была выкінута з дзяржаўнага ўжытку і заменена польскай. Як вядома, у тыя часы Царква не была аддзелена ад дзяржавы, таму вышэйшае духавенства уніяцкай царквы адразу перайшло на польскую мову, уніяцкія манахі-базыляне таксама карысталіся польскай мовай. Паступова на польскую мову пераходзіць і прыходскае духавенства. У другой палове XVIII стагоддзя яно ўжо амаль пагалоўна было польскамоўным. Усё справаводства і службовая перапіска ва уніяцкай царкве ў другой палове XVII стагоддзя вяліся па-польску. Не развівалася беларуская літаратурная мова. Праўда, просты люд размаўляў і далей на сваёй мове, але ў гэтым няма ніякай заслугі уніяцкай царквы, таксама як няма заслугі Праваслаўнай Царквы ў тым, што народ размаўляў па-беларуску і ў XIX стагоддзі і размаўляе сёння.

Калі ў 1839 годзе беларускія уніяты вярнуліся да веры сваіх продкаў, ва ўлонне Праваслаўнай Царквы, то пачаўся пераклад царкоўнага справаводства з польскай мовы на рускую. І ў гэтым няма нічога дзіўнага, бо беларуская літаратурная мова ўжо паўтара стагоддзя як не жыла, а польскую мову замяніць трэба было іншай, каб спыніць далейшую паланізацыю нашага краю. Такім чынам, распачатая русіфікацыя была вынікам папярэдняй двухсотгадовай паланізацыі.

У нашы дні ствараецца міф аб уніяцкай царкве як аб нацыянальнай рэлігіі беларусаў. Творцы гэтага міфа забываюць, што хрысціянству на Беларусі ўжо тысяча гадоў, а уніяцтва існавала ўсяго толькі 243 гады (1596—1839) — і гэта быў самы неспакойны, самы ваяўнічы, самы цяжкі перыяд у царкоўнай гісторыі Беларусі. Мусіць, міф гэты, сведкамі нараджэння якога мы з'яўляемся, ствараецца для таго, каб знайсці ў беларускай гісторыі нацыянальную рэлігію, якая цяпер магла б стаць апірышчам нацыянальнага развіцця. Унія нацыянальным апірышчам не была. Сапраўднай нацыянальнай Царквой нашага народа была Праваслаўная Царква дауніяцкага перыяду са сваёй шасцісотгадовай гісторыяй. Унія ж, пераняўшы на пачатку свайго існавання ад Праваслаўнай Царквы скарбы нацыянальнай духоўнасці, растраціла іх, як евангельскі блудны сын багатую спадчыну свайго бацькі.

Цяпер пэўная частка нацыянальна свядомай (але, на жаль, несвядомай рэлігійна) беларускай моладзі бачыць шлях нацыянальнага адраджэння ў адарванні ад Праваслаўнай Царквы і стварэнні уніяцкіх беларускамоўных групак. Як праваслаўны беларускі святар, я павінен сказаць: шлях гэты бесперспектыўны, а з хрысціянскага пункту гледжання — грэшны. Я прапаную іншы шлях: нацыянальна свядомыя вернікі — праваслаўныя і католікі — павінны працаваць у сваіх Цэрквах на карысць іх беларусізацыі. У нашай сённяшняй рэчаіснасці мы маем не толькі рускамоўную Царкву (можа, гэта не зусім дакладна, бо набажэнства правінна на славянскай мове, а па-руску вядуцца пропаведзі і справаводства), але і рускамоўную школу, рускамоўную медыцыну, рускамоўную сельскую гаспадарку і г. д. Няўжо ж дзеля справы нацыянальнага адраджэння свядомыя беларусы — скажам, лекар або настаўнік — павінны пакінуць установы, у якіх працуюць, і ствараць беларускамоўныя? Адрывацца ад сваёй Царквы, каб ствараць беларускамоўныя суполкі з падпарадкаваннем Рыму — гэта, бадай, тое самае, каб дзеля адраджэння беларушчыны ўсім свядомым беларусам пакінуць нашу сённяшнюю рускамоўную Беларусь і недзе за яе межамі стварыць беларускамоўнае згуртаванне.

Чаму Праваслаўная Царква непрыхільна ставіцца да спробы адраджэння уніяцтва? Таму што уніяцтва — гэта агрэсія каталіцтва супраць Праваслаўнай Царквы. Бо калі б уніяцтва пашыралася толькі дзеля таго, каб наблізіць царкоўнае жыццё да нацыянальнай культуры (як кажуць самі уніяты), то няхай бы на Беларусі і Украіне **каталіцкія** храмы заходняга абраду (касцёлы) пераводзілі на нацыянальны ўсходнеславянскі абрад. Дзе там! Гэтага Рым не хоча. У рымскім катэхізісе для ўкраінскіх уніятаў чытаем: «Апостольский Престол виразно забороняе самовільно зміняти обряд. Тому без важноі причини зміна обряду в Христовій Церкві недозволена. Лише в надзвичайних випадках Апостольский Престол може дозволити на таку зміну». (Катихизм християнськоі віри для молоді і старших). Інакш кажучы, рыма-католік (католік заходняга абраду) не можа стаць уніятам (католікам усходняга абраду).

Якім жа спосабам пашыраць унію? На каго разлічваць? На бязбожнікаў? Бязбожніку ніякай царквы не патрэбна. На пратэстантаў? Дык яны ж таму і пайшлі ў секту, што вераць не так, як праваслаўныя, і не так, як католікі. Застаецца адно: як і ў мінулыя стагоддзі, весці антыправаслаўную прапаганду і перацягваць да сябе праваслаўных. А адчуўшы сілу, гвалтам адбіраць праваслаўныя храмы, так, як гэта рабілася ў XVI—XVIII стагоддзях на нашых землях і як на Украіне робіцца цяпер. Той, каму сёння не верыцца, што унія ў XVII стагоддзі пашыралася ў нас самымі жорсткімі і гвалтоўнымі метадамі, хай паедзе на Заходнюю Украіну і пабачыць, што там робіцца ў нашы дні: уніяты ўрываюцца ў праваслаўныя храмы ў час богаслужэння, зрываюць адзенне са святога прастола, кідаюць на падлогу Святое Прычасце, крыжы, іконы, б'юць святароў і вернікаў і захопліваюць цэрквы. Дай Божа, каб не было гэтага на нашай шматпакутнай Беларусі.

**Протаіерэй Сергій ГАРДУН,**
**кандыдат багаслоўя,**
**выкладчык Мінскай духоўнай семінарыі.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Георгію Юрчанку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БРАТА.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Таісе Мельчанцы з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці БАЦЬКІ.**



*Мартыралог Беларусі: імёны і факты*

# «Хачу памерці на Радзіме»

Вярнуўшыся 5 студзеня з Дома творчасці «Іслач», дзе я сустракаў Новы год з унукамі, прачытаў запіску на сваім стале: «У Чэрвені па вуліцы Аляксандра Неўскага ў доме 3 памёр Сакальчук Іван Аляксандравіч. У 11 гадзін 2 студзеня з дому жалобная працэсія скіроўваецца ў Градзянку, дзе пахаваныя ягоныя маці і брат. Званіў пляменнік нябожчыка, вельмі прасіў табе паведаміць». Не паспеў.

...З нябожчыкам нашу сям'ю паяднаў нялёгкі лёс паўночнай высылкі пры раскулачванні ў трыццатым, у Комі-Пярмяцкую нацыянальную акругу. Пазалетась на жалобнай вечарыне ў Доме літаратара, прысвечанай ахвярам сталінскіх рэпрэсій, я прачытаў ягоны ліст, адрасаваны тагачаснаму Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Г. Таразевічу, копію якога І. Сакальчук паслаў, з маёй парады, у адзін з часопісаў Масквы. Пра іхнія адказы лепш змаўчу, а ў Доме літаратара ягоны ліст быў успрыняты з моцным водгуллем. У перапынку Анатоль Вярцінскі, тагачасны галоўны рэдактар «ЛіМа», прапанаваў той ліст надрукаваць, ды Анатоля апярэдзіў П. Краўчанка, тагачасны сакратар Мінскага гаркома КПБ: «Мы паспрабуем паспрыяць, дапамагчы». Праз два-тры тыдні запрасіў мяне ў гарком загадчык ідэалагічнага аддзела Я. Дзмітрыеў і паведаміў: наводзілі даведкі, змест ліста адпавядае фактам, Мінскі абком КПБ па іх хадайніцтву звярнуўся ў Чэрвеньскі райвыканком, каб там дапамаглі. Цяпер, калі майго ўральскага суседа ўжо няма, скажу адно: у родным Чэрвені ніхто яму не дапамог. А што датычыць тагачаснай прапановы Анатоля Вярцінскага, — хай здзейсніцца яна цяпер, калі Сакальчука Івана Аляксандравіча ўжо няма, і хай ягоны ліст, надрукаваны ў «ЛіМе», будзе знакам памяці аб ім, як асабісты пасмяротны запіс у «Мартыралогу Беларусі».

**«Мне 73 гады. Пайшоў на фронт у 1943 годзе добраахвотнікам, прыняў баявое хрышчэнне на Арлоўска-Курскай дузе ў складзе Уральскага добраахвотніцкага танкавага корпуса № 30, брыгада 243, маю ордэн Айчыннай вайны, сем медалёў, з іх два працоўныя «Ветэран працы» і «За працоўную доблесць», бесперапынны працоўны стаж з 1931 года, і цяпер працую. Пасля дэмабілізацыі ў кастрычніку 1945 года вярнуўся ў трэст «Коміпермлес», дзе пачыналася маё працоўнае жыццё з прафесіі «старшага рулявога» (такі запіс быў зроблены ў маёй працоўнай кніжцы ў момант яе запаўнення ў 1931 г., а працаваў я з пятнаццацігадовага ўзросту на лесапавале, лесасплаве, потым стаў трактарыстам, механікам і слесарам, выбракоўшчыкам і старшым інжынерам). Адукацыя — два класы...**

**Родам я з Беларусі — Чэрвеньскі раён, вёска Новае Лавішча. У сакавіку 1930 года ноччу наш дом ачапіла міліцыя, нас з маці і маім старэйшым братам Аляксандрам (шаснаццацігадовым) без суда і следства забралі, пагрузілі на чыгуначнай станцыі разам з сотнямі такіх, як мы, сем'яў, у таварняк, без абагрэву, заперлі, па дарозе не давалі нават вады, прывезлі на станцыю Мендзялеева Свярдлоўскай чыгункі, там нас сустрэў канвой, пагналі на поўнач пешкі, за шэсць сутак прайшлі 300 км, у Гаінскі раён, у тайгу, па дарозе паміралі дзеці і старыя, начаваць зганялі ў стылыя цэрквы...**

**Напачатку будавалі мы баракі, потым спецпасёлкі — у Гаінскім раёне было іх 14, прыблізна па 50 дамоў, і ў кожным доме дзве сям'і па 3—5 чалавек і болей. Праз год-паўтара, асабліва ў 1933-м, ад голаду і эпідэмій некаторыя пасёлкі павыміралі цалкам (Яльдар, Дзедаўка, Ламоўка, Пелен-Бор. Асінаўка, Дозаўка). Астатнія, як наш Пугвін Мыс, — вымерлі напалову. Могілкі пазней зааралі, паводле загадаў камендантаў НКУС, — «каб шпіёны не сфатаграфавалі»).**

**Дзеля чаго я гэта ўспамінаю?**

**Апынуўшыся на схіле жыцця ў самоце (брат мой таксама ваяваў на фронце, вярнуўся без нагі, інвалідам 2-й групы, пасля вайны паехаў на радзіму, тут памёр, памерла і маці), захацеў і я памерці на сваёй радзіме, дзе ёсць стрыечныя браты, стрыечная сястра, яны гатовы пасваяцку паспрыяць, але жытлом дапамагчы не могуць, у саміх няма раскошы. Звяртаўся я ў Маскву, у камісію ЦК КПСС па дадатковым вывучэнні матэрыялаў рэпрэсій, якія мелі месца ў перыяд 30—40-х і пачатку 50-х гадоў. Адтуль заява накіравана ў Мінскі аблвыканком, адтуль — у Чэрвеньскі райвыканком, і вось адказ старшыні райвыканкома: задаволіць маю просьбу «няма магчымасці з-за адсутнасці свабоднага жылля». Як гэта разумець? Калі з'явіцца «прысутнасць свабоднага» — тады «задаволяць»?..**

**Калі нас высылалі, пазбавіўшы маёмасці, сялібы — нехта ж пасяляўся ў нашыя хаты як у вызваленыя, «свабодныя»?..**

**Вызваляць радзіму ад фашызму я ішоў з Урала, атрымаўшы напярэдадні, у ссылцы, дакумент-даведку Гаінскага райаддзела НКУС аб вызваленні ад спецссылкі (без такой даведкі я не мог стаць добраахвотнікам як лішэнец). Дык няўжо я за 58 гадоў бесперапыннага працоўнага стажу, уключаючы фронт і ўсю вайну, не заслужыў права дажыць свой нялёгкі, несалодкі лёс — на Радзіме?**

**Пішу з Мінска, пабыў на Радзіме, у Чэрвеньскім раёне, цэлых 20 дзён прасіўся на прыём да старшыні райвыканкома тав. Кандрашова, ён мяне не прыняў, нарэшце прынялі «ніжэй», пацвердзілі той самы пісьмовы адказ-адмову, і так супала — гэта было 26 кастрычніка 1988 г. — у той самы дзень у «Известиях» чытаў артыкул «Без прамаруджвання і спешнасці» — пра тое, што Савет Міністраў Літоўскай ССР адмяніў свае пастановы «Аб высяленні кулацкіх элементаў з тэрыторыі Літоўскай ССР» ад 19 сакавіка 1949 года і «Аб высяленні кулакоў і іхніх сем'яў з тэрыторыі Літвы» ад 29 верасня 1951 г.**

**Мне, як і ўсім маім землякам з Беларусі, каго напаткаў такі самы лёс у 1930-м, дасюль невядома — на падставе якіх пастаноў высылалі нас? Законным гэта было ці супрацьзаконным? Ці не час ужо ўзаконіць нашае вяртанне на радзіму? Пішу адначасова і на імя Старшыні Вярхоўнага Савета БССР тав. Таразевіча Г. С.: дазвольце памерці з годнасцю, на роднай зямлі, бліжэй да сваякоў, не ў адзіноце і не ў ссылцы.**

**Былы «старшы рулявы», танкіст-вежавы стралок, пенсіянер на службе, кантралёр і вартаўнік Кудымкарскай міліцыі, якая некалі мяне кантралявала-вартавала, —**

**І. А. САКАЛЬЧУК.**

**7.09.89».**

На гэты раз, прыехаўшы сюды, сказаў ён сваякам: «Прыехаў паміраць. Каб потым вам мяне адтуль не перавозіць у труне. Далёка ж. Колькі будзе клопату па сённяшніх варунках».

Скардзіўся на боль у грудзях, але да ўрачоў упарта не ішоў. Стрыечная сястра, убачыўшы яго пакуты, выклікала хуткую. Урачы сказалі — забіраем у бальніцу. Не дайшоўшы да машыны, паваліўся, страціўшы прытомнасць. Ад уколу ачуняў, пытаецца: «Што здарылася?». Здарыўся інфаркт. Паклалі ў рэанімацыю. 31 снежня 1991 года а другой гадзіне дня сканаў. Пляменнік кажа: «Здзейсніліся ўсе ягоныя жаданні. Пахавалі на Радзіме, побач з маці, з братам. Болей ён нічога не хацеў».

Мне ж прыгадалася — было ў Івана Аляксандравіча і яшчэ адно жаданне. Вось яно:

**«Камітэту Дзяржаўнай Бяспекі БССР гр-на Сакальчука Івана Аляксандравіча, г. Кудымкар Пермскай вобласці, вул. Шміта, д. 8, кв. 11**

**удзельнік ВАВ (пасв. 264462 Д, выд. Кудымкарскім АДВК (Пермскай вобл.)**

**Заява**

**На мой зварот у Пракуратуру БССР з запытам аб маёй рэабілітацыі (копію даведкі аб вызваленні са спецссылкі прыкладаю) атрымаў адказ ад 28.08.89 № 13-р — аб рэабілітацыі майго бацькі Сакальчука Аляксандра Піліпавіча, беспадстаўна рэпрэсіраванага 25 мая 1928 г. «за контррэвалюцыйную дзейнасць».**

**Прашу даць тлумачэнні па пытаннях, якія ўзніклі ў сувязі з гэтым:**

**1. Хто выплачвае двухмесячную заработную плату, аб якой ідзе гаворка ў адказе Пракуратуры?**

**2. Куды дзелася наша маёмасць, адабраная пры раскулачванні?**

**3. Пракуратура не дала адказу па галоўнаму пытанню — АБ МАЁЙ РЭАБІЛІТАЦЫІ, якая мне патрэбна больш, чым мёртваму бацьку, — пры маім жыцці. Вусна мне адказалі, што «сведений нет» аб маёй высылцы. А як жа «нет», калі я прыкладаю даведку аб вызваленні, дзе ўсё ўказана: калі быў высланы, адкуль і куды, калі вызвалены (ідучы на фронт!).**

**Прашу РАЗГЛЕДЗЕЦЬ ПЫТАННЕ АБ МАЁЙ РЭАБІЛІТАЦЫІ — ПРЫЖЫЦЦЕВА.**

**7.09.89**

**САКАЛЬЧУК І. А.».**

Пляменнік Івана Аляксандравіча — старшы эксперт-крыміналіст Чэрвеньскага райаддзела МУС Анатоль Уладзіміравіч Лызо — званіў па гэтай справе ў Мінскае абласное ўпраўленне МУС, і там яму сказалі, што пытанне аб рэабілітацыі І. Сакальчука вырашана, рыхтуюцца дакументы. Пасмяротна.

Апошнія гады нябожчыка былі атручаныя перапіскай з рознымі савецкімі і партыйнымі інстанцыямі. Сэрца млела ад пакуты, крыўды і агіды. Гэта мне вядома і з яго, і з уласнага вопыту. У 1988 годзе, напярэдадні свайго шасцідзесяцігоддзя, спрабаваў і я звярнуцца са сваёй бядой у Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР — да Г. С. Таразевіча, прыклаўшы да свайго ліста таксама энкэўскую даведку аб высылцы і вызваленні (копію, завераную ў натарыуса). У даведцы (а яна — адзіны дакумент аб факце высылкі) няма спасылак на якія-небудзь юрыдычныя матывіроўкі і законныя абгрунтаванні высылкі. Няма тлумачэнняў, на якой падставе адбылося вызваленне: амніставаны? рэабілітаваны? Я пісаў: «Усё свядомае жыццё пражыўшы з прыкрай плямай «высланага», «раскулачанага», не хачу, каб пляма заставалася і на маіх сынах і ўнуках. Асабіста я ніякага дзяржаўнага злачынства ў тым сваім узросце (адзін год ад нараджэння) за сабой не памятаю, і таму лічу, што маю права ўзняць пытанне аб маёй рэабілітацыі. Прашу пацвердзіць юрыдычна, на якой падставе я быў высланы, за што, на які тэрмін, ці законнае гэта было рашэнне ў плане тагачаснай юрысдыкцыі, ці застаецца яно ў сіле сёння? Разам з тым, прашу пры дапамозе юрыдычнага аддзела ўстанавіць законнасць раскулачвання і высылкі маіх бацькоў — Коласа Данілы Іванавіча, 1906 г. нар. і Колас Ганны Апанасаўны, 1906 г. нар. (высланыя з хутара Куцень Чэрвеньскага р-на Мінскай вобл. у сакавіку 1930 г.)». Адказ прыйшоў такі ж, як і пазней І. Сакальчуку: «сведений нет». Крыху пазней знайшлося адно «сведение» — пасмяротная рэабілітацыя майго дзеда Коласа Івана Данілавіча, «необоснованно репрессированного 6 марта 1930 года за контрреволюционную деятельность». Мо як памруць мае бацькі, на іх таксама прыйдуць «сведения»? Відаць, на рэабілітацыі жывым — чарга, ліміты...

Мы, галоўныя ахвяры калектывізацыі, апынуліся ў становішчы горшым, чым ахвяры гітлераўскага генацыду. Перад імі каецца сам Гельмут Коль. А нашы «Колі»?

**...«Я — дачка «ворага народа». Я — унучка «кулака». Да якога часу я павінна несці гэты цяжкі крыж?! — калі ні мой бацька, ні мой дзед ні ў чым (!) не вінаватыя! Не вінаватыя! Не вінаватыя! Не вінаватыя!!! Дык чаму я павінна ШУКАЦЬ, ПРАСІЦЬ, ЧАКАЦЬ ЛІТАСЦІ, а не органы (МУС, КДБ) павінны шукаць мяне, прасіць у мяне даравання за тое, што ІХНІЯ (а не мае) папярэднікі па службе пакрыўдзілі мяне, зневажалі паўстагоддзя і больш мой гонар, маю годнасць, маё добрае імя?! Чаму?!! Чаму я павінна звяртацца да тт. Сухарава ці Кручкова, а не яны павінны распарадзіцца так, каб іхнія падначаленыя зрабілі ўсё, каб я больш не пакутавала здагадкамі, дзе тленныя астанкі бацькі і дзеда — у Салаўках, на Калыме ці ў Рутчанкове?..» («Новый мир» № 9, 1991, с. 242, 248).**

Прабач мне, былы старшы рулявы. Бывай, Іван Аляксандравіч. Ты адышоў у родную зямлю не з «каменем за пазухай», а з каменем на сэрцы. Хай будзе табе пухам родная зямля.

**Георгій КОЛАС.**

## Замест пастскрыптума.

**7—8 лютага адбыўся ў Мінску ўстаноўчы з'езд Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій. Мяне туды таксама запрасілі, папярэдзіўшы — абавязкова зарэгістравацца ў спісах дэлегатаў, што я і зрабіў. Аднак, чытаючы праект статута, спатыкнуўся ўжо на першым пункце першага раздзела, дзе канстатавалася, што заснавальнікамі гэтае асацыяцыі з'яўляюцца — «Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія сталі ахвярамі беззаконня і палітычных рэпрэсій І РЭАБІЛІТАВАНЫЯ ВА ЎСТАНОЎЛЕНЫМ ЗАКОНАМ ПАРАДКУ...» (вылзелена мною. — Г. К.).**

**Значыцца, мяне паклікалі — не ведаўшы, што я не маю рэабілітацыі?.. Далей — раздзел чацвёрты, пункт чатыры—два: «Прыём у члены Асацыяцыі ...адбываецца пры прадастаўленні дакумента аб рэабілітацыі...»**

**То як тут быць?**

**У спрэчках па праекту ўношу прапанову: замест слоў у першым пункце (з адпаведнымі папраўкамі ў наступных) — «...і рэабілітаваныя ва ўстаноўленым законам парадку» — сфармуляваць наступным чынам: «...і падлягаюць рэабілітацыі ў адпаведнасці з Сусветнай Дэкларацыяй Правоў Чалавека».**

**Грымнулі апладысменты.**

**А назаўтра рэдакцыйная камісія паведаміла з'езду, што калі прыняць маю папраўку, наш Мінюст, з якім яны ўзгаднялі гэтае пытанне, «не зарэгіструе асацыяцыю як юрыдычна правамоцную арганізацыю».**

**Пасля такой абвесткі большасць дэлегатаў прагаласавала за ранейшую рэдакцыю.**

**Мне нават смешнавата, калі ўспомніць, як мяне калісьці, неаднойчы, афіцыйна альбо па-сяброўску, спрабавалі залучыць у шэрагі КПСС, як я, сын кулака, былы сасланец і лішэнец, мусіў далікатненька выкручвацца, а на мяне злаваліся... Дарэчы, і ў асацыяцыю ахвяраў я ж, папраўдзе, не прасіўся. Запрасілі? Згода. Не? Хай будзе не.**

**Адно мяне бянтэжыць. З-за чаго ж Мінюст маёй рэспублікі баіцца, як чорт ладану, спасылак на Сусветную Дэкларацыю Правоў? Ці то законы нашай Беларусі не адпавядаюць ёй? Але ж, здаецца, Беларусь прызнала сябе правапераемніцай усіх міжнародных пагадненняў, падпісаных былым СССР, а Дэкларацыю Правоў СССР падпісваў. Альбо — адмаўляемся? Тады асацыянты маюць рацыю — ім трэба быць законапаслухмянымі.**

**Г. К.**


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**

**Рэдакцыйная калегія:**

**Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.**

**Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.**

Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12